БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

С. М. Запрудскі

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА (1918—1941)

*Рэкамендавана вучэбна-метадычным аб'яднаннем па гуманітарнай адукацыі ў якасці дапаможніка для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-21 05 01 «Беларуская філалогія (па напрамках)»*

МІНСК
БДУ
2015

УДК 811.161
ББК 81.411.3
З-30

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук *К. П. Любецкая*;
кандыдат філалагічных навук *Д. В. Дзятко*

**Запрудскі, С. М.**
З-30 Гісторыя беларускага мовазнаўства (1918–1941) : дапаможнік / С. М. Запрудскі. – Мінск : БДУ, 2015. – 191 с.
ISBN 978-985-566-249-6.

У дапаможніку выкладзена гісторыя беларускага мовазнаўства 1918–1941 гг. Пададзена перыядызацыя гісторыі беларускай лінгвістыкі міжваенных гадоў. Асэнсаваны прэскрыптыўна-нармалізацыйны характар і дачыненні з тагачаснай уладай. Многа ўвагі ўдзелена тэме правапіснага рэгулявання беларускай мовы. Прадстаўлены акалічнасці выпрацоўкі навуковай тэрміналогіі і канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. Разгледжаны сітуацыйныя, асяроддзевыя і іншыя фактары выспявання і рэалізацыі рэформы беларускай мовы ў пачатку 1930-х гг., пастанова СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» 1933 г. як палітычны акт і навуковы твор, кампанія за «культуру мовы» і лексікаграфічныя працы 1930-х гг.

**УДК 811.161**
**ББК 81.411.3**

**ISBN 978-985-566-249-6**

# ПРАДМОВА

Перыяд беларускага мовазнаўства міжваенных гадоў – самы багаты і цікавы ў гісторыі беларускай лінгвістыкі. Гэта абумоўлена не толькі яго важным зместам, але і выразнай спецыфікай і пільнай грамадскай увагай да герояў, падзей і лінгвістычных прац таго часу. У падручніку Л. М. Шакуна «Гісторыя беларускага мовазнаўства» (Мінск, 1995) дадзены этап ахарактарызаваны як час «актыўнага ўмяшання грамадскасці ў моўны працэс і дзяржаўнага рэгулявання мовазнаўчых даследаванняў, час вялікіх здабыткаў і непапраўных страт».

Не існуе «кананічнага» аблічча лінгвістыкі гэтага перыяду. Зусім нядаўна навукоўцы вялі бурныя спрэчкі наконт, напрыклад, таго, у якой меры адпавядае стану беларускай мовы славутая «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча 1918 г., ці адлюстравалі пункты пастановы Савета народных камісараў БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» 1933 г. намеры мовазнаўцаў 1920-х гг. і інш. Нельга сказаць, што гэтыя спрэчкі завяршыліся ў нашы дні: у рамках гэтага перыяду яшчэ застаецца нямала момантаў, датычных розных асоб, падзей і прац, якія і сёння трактуюцца неаднназначна. Тая акалічнасць, што адносіны навукоўцаў і інстытуцый, якія ствараюць новыя навуковыя веды, з уладнымі структурамі, былі ў 1920–30-я гг. асаблівымі, абумоўлівае спецыфічны кантэкст бытавання тагачаснай лінгвістыкі ў грамадстве, што ўплывала і на яе змест. Яшчэ існуюць значныя складанасці пры інтэрпрэтацыі розных праблем дадзенага перыяду беларускай акадэмічнай навукай, і тым больш няпроста выкладаць гэты курс студэнцкай аўдыторыі.

Дадзены дапаможнік уяўляе сабой першую спробу прадставіць некаторыя тэмы міжваеннай лінгвістыкі ў форме лекцыйнага курса для студэнтаў. Ля яго вытокаў ляжалі адпаведныя раздзелы падручніка Л. М. Шакуна «Гісторыя беларускага мовазнаўства», а таксама апублікаваныя аўтарам у 2005–2010 гг. хрэстаматыі па гісторыі мовазнаўства гэтага перыяду (Гісторыя беларускага

мовазнаўства. 1918–1941 : хрэстаматыя для студэнтаў філал. фак. : у 2 ч. / уклад. : С. М. Запрудскі, Г. І. Кулеш. Мінск : БДУ, 2005, 2008 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11).

Карысным для асэнсавання беларускага мовазнаўства 1918–1941 гг. стаў шматгадовы вопыт аўтара ў выкладанні спецыяльнага курса студэнтам філалагічнага факультэта БДУ. Важным этапам у выпрацоўцы і шліфаванні канцэпцыі стала падрыхтоўка і публікацыя манаграфіі «Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай літаратурнай мовы. 1920–30-я гг.» (Мінск : БДУ, 2013). Паміж дапаможнікам і манаграфіяй існуе не толькі канцэптуальная, але і тэкстуальная сувязь, што дазваляе ў выпадку неабходнасці знайсці ў манаграфіі ўказанні на дакладныя крыніцы многіх прыведзеных у дапаможніку непашпартызаваных цытат.

Для лепшага засваення матэрыялу кожны раздзел суправаджаецца пытаннямі для самакантролю, пасля раздзелаў прапануецца спіс рэкамендаванай літаратуры.

# 1. ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА 1918–1941 гг.

Перыядызацыя гісторыі любой з'явы дапамагае вычляняць з агульнага патоку гісторыі больш дробныя перыяды, якім уласцівы цэласнасць і змястоўнае адзінства. У гісторыі беларускай лінгвістыкі міжваенных гадоў вылучылі наступныя перыяды.

**Першы перыяд: 1918 г. – люты 1921 г.**

Перыяд пачынаецца выхадам з друку першай беларускай граматыкі – *«Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча*[1], завяршаецца стварэннем *Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Народным камісарыяце асветы* (*Наркамасветы, Наркамат асветы, НКА*) *БССР*.

Аднaчасова з публікацыяй граматыкі Б. Тарашкевіча афармляліся першыя беларускія навуковыя інстытуцыі – *Беларускае навуковае таварыства* (*БНТ*) *у Вільні, Бюро па ўкладанні і перакладзе падручнікаў у Мінску, Мінскі беларускі педагагічны інстытут*. У рамках гэтага перыяду (часткова і раней) здзейснены першыя выданні беларускамоўнай вучэбнай, метадычнай і тэрміналагічнай літаратуры.

Заснаванае ў студзені 1918 г. у Вільні В. Ластоўскім, І. і А. Луцкевічамі, В. Святаполкам-Мірскім, Я. Станкевічам *БНТ* дзейнічала да 1939 г. Амаль увесь гэты час на яго чале знаходзіўся *Антон Луцкевіч*. Мэтамі Таварыства называліся «разнастайная навуковая праца, развіццё любові да наву-

[1] Незадоўга да публікацыі граматыкі Б. Тарашкевіча былі падрыхтаваны і іншыя граматычныя дапаможнікі: граматыка А. Луцкевіча (не надрукавана) і «Hramatyka biełaruskaj mowy» Б. Пачобкі. Іх значэнне як практычных дапаможнікаў у параўнанні з граматыкай Б. Тарашкевіча настолькі нязначнае, што першай граматыкай традыцыйна лічыцца «Беларуская граматыка для школ».

ковых доследаў і пашырэнне веды». Прадугледжвалася, што БНТ «закладае і ўтрымлівае… музеі, бібліятэкі, навуковыя ўстановы; арганізуе выстаўкі, экскурсіі, лекцыі, курсы, навуковыя з'езды; устанаўляе конкурсы і нагароды за навуковыя працы; вядзе перыядычныя органы і выдавецкую работу; арганізуе свае секцыі і аддзелы».

Нагодай для стварэння Таварыства стаў прыход у Вільню нямецкай акупацыйнай улады. Для немцаў знаходжанне беларусаў на гэтай тэрыторыі аказалася нечаканым; яшчэ больш нечаканым стала тое, што беларусы не толькі складалі большасць мясцовага насельніцтва, але і мелі свае нацыянальныя імкненні і амбіцыі. Немцы былі зацікаўлены ў стварэнні стабільнага і эканамічна эфектыўнага тылу сваіх войск, намагаліся выклікаць сімпатыю ў акупаваных народаў.

Выключна важны момант для ўзвышэння беларускай мовы – загад ад 16 студзеня 1916 г. галоўнакамандуючага нямецкім фронтам фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга аб раўнапраўі ў краі літоўскай, рускай, польскай, беларускай моў. З гэтага часу развіваецца выкладанне ў школах на беларускай мове. Так, у 1917 г. існавала больш за 200 беларускамоўных пачатковых школ. Беларускамоўнае выкладанне мела патрэбу ў навуковай падтрымцы, у адпаведнай друкаванай прадукцыі, найперш школьных падручніках, што і сфармулявала сацыяльны заказ на арганізацыю навукова-даследчых устаноў беларускага профілю. Беларускае навуковае таварыства павінна было стаць правобразам будучай нацыянальнай акадэміі навук.

Вільня была адным з найважнейшых тылавых цэнтраў нямецкай арміі – многа штабоў, службаў і іншых нямецкіх вайсковых інстытуцый, сярод работнікаў гэтых устаноў служыла нямала мабілізаваных у войска вучоных. Яны і сталі першымі дакладчыкамі на пасяджэннях БНТ. Адным з першых выступіў археолаг з Берліна *А. Іпель*, кансультацыі для членаў БНТ даваў прафесар П. Вебер.

Нямецкія вучоныя цікавіліся асаблівасцямі беларускай культуры, мастацтва, гісторыі, этнаграфіі. Плённымі былі кантакты з Брэслаўскім (сёння – Вроцлаўскі) універсітэтам, дзе працаваў прафесар *Рудольф Абіхт*. І. Луцкевіч кантактаваў з Р. Абіхтам яшчэ з даваеннай пары. Асабліва немцы зацікавіліся рукапісным *аль-кітабам* (*кітаб* па-арабску – 'кніга'), напісаным па-беларуску арабскімі літарамі. У 1917 г. Р. Абіхт накіраваў у Вільню некалькі сваіх вучняў, якія займаліся беларусістыкай. І. Луцкевіч арганізаваў для іх курс беларускай мовы і дапамог ажыццявіць этнаграфічныя экспедыцыі. У 1918 г. БНТ наведалі прафесар афрыканскіх моў К. Майнгоф, супрацоўнік Берлінскай бібліятэкі Г. Пік і інш. Было падрыхтавана некалькі беларусазнаўчых прац, што ў той час з'яўлялася вялікай рэдкасцю.

У маі 1918 г. у Вільні была арганізавана выстаўка беларускіх старажытнасцей, надрукаваны каталогі на беларускай, нямецкай і польскай мовах. Увосень 1918 г. гэта выстаўка экспанавалася ў Мінску.

З дзейнасцю нямецкіх акупацыйных улад звязана падрыхтоўка падручніка беларускай мовы, якая была даручана настаўніку *Баляславу Пачобку* і атрымалася няўдалай. У сваёй рэзалюцыі з нагоды выхаду гэтага падручніка БНТ сцвердзіла, што дапаможнік Б. Пачобкі «не можа служыць да навукі беларускай мовы як у пачатковых школах, так і наогул, а тым больш не можа быць прыняты ў аснову пры ўкладанні школьных падручнікаў» (газета «Вольная Беларусь». 1918. 19 мая).

Створанае Народным сакратарыятам асветы Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) Бюро па ўкладанні і перакладзе падручнікаў у Мінску падрыхтавала 16 падручнікаў.

Адкрыты ў снежні 1918 г. на базе Мінскага настаўніцкага інстытута Мінскі беларускі педагагічны інстытут[1] меў у сваім складзе і літаратурна-мастацкі факультэт. У інстытуце працавалі *Б. Тарашкевіч*, акадэмік *Я. Карскі*. У 1919/20 навучальным годзе выкладанне ў інстытуце пераводзілася на беларускую мову. У сакавіку 1920 г. рэктарам гэтай установы стаў В. Іваноўскі, які намагаўся ператварыць інстытут у беларускі нацыянальны ўніверсітэт. У інстытуце была створана *Камісія па выпрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі*. Як вынік дзейнасці Камісіі ў 1921 г. у Вільні выдадзена падрыхтаваная *Л. Більдзюкевічам* «Арыфметычная тэрміналогія».

У рамках першага перыяду ў Вільні выдадзены «Hramatyka biełaruskaj mowy» (1918) Б. Пачобкі, «Biełaruski prawapis» (1918) А. Луцкевіча і Я. Станкевіча, «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (тры выданні 1918–1920 гг.), «Геаграфія Беларусі» (1919) А. Смоліча, «Арыфметычная тэрміналогія» (1921), брашуры Я. Станкевіча «Правапіс чужых словаў» і «Беларуская правапісь з практыкаваннямі». Яшчэ раней, у 1917 г., у Вільні быў надрукаваны дапаможнік А. Луцкевіча «Jak prawilna pisać pa biełarusku», у Брэславе (Вроцлаве) у 1918 г. – дапаможнік Р. Абіхта і Я. Станкевіча «*Pròsty spòsab stàcca ŭ karòtkim čàse hràmatnym*», у 1918 г. у Лейпцыгу – «Сямімоўны слоўнік», адной з моў якога была беларуская. Так упершыню беларуская мова з'явілася ў перакладным слоўніку ў якасці адной з моў.

У Мінску ў 1919 г. Беларускай вайсковай камісіяй была надрукавана «Вайсковая стылістыка» Зніча, а ў 1920-м – «Праграма сістэматычнага курса арыфметыкі і тэрміналогія» (падрыхтаваў Л. Більдзюкевіч) і «Праграмы беларускай пачатковай школы» на 1919/20 навучальны год (падрыхтаваны Тэрміналагічнай камісіяй мінскіх настаўнікаў).

---

[1] Сучасны Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка вядзе свой адлік з 1922 г., калі ў складзе БДУ быў заснаваны педагагічны факультэт. У 1931 г. гэты факультэт пераўтвораны ў Беларускі дзяржаўны вышэйшы педагагічны інстытут.

Выданні 1918–1921 гг. пераважна прызначаліся для патрэб пачатковай школы.

**Другі перыяд: люты 1921 г. – другая палова 1930 г.**

Гэтаму перыяду ўласціва актыўнае стварэнне новых навуковых устаноў і пастаяннае нарошчванне навуковых даследаванняў.

У ліпені 1920 г. Мінск быў вызвалены ад палякаў, а ўжо праз паўгода, 27 студзеня 1921 г., у беларускай сталіцы адбыўся *сход работнікаў асветы і культуры* (50 чалавек), скліканы Акадэмічным цэнтрам Наркамата асветы БССР (кіраўнік *Сцяпан Некрашэвіч*). На сходзе была вылучана ідэя стварэння інстытута, які займаўся б вывучэннем беларускай культуры. У лютым 1921 г. створана *Навукова-тэрміналагічная камісія*, і гэта стала першым крокам у справе арганізацыі ў БССР навукова-даследчай установы, прызначанай для вывучэння беларускай культуры. (Дзейнасць Камісіі і вынікі яе працы разглядаюцца ў раздзеле 8.)

У кастрычніку 1921 г. адкрыўся *Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт*, на факультэце грамадскіх навук якога адразу ж пачала выкладацца беларуская мова.

Згодна з пастановай Савета народных камісараў (СНК) БССР у канцы студзеня 1922 г. заснаваны *Інстытут беларускай культуры* (*Інбелкульт*), сярод задач якога – «планавае даследаванне Беларусі з боку яе мовы, літаратуры, этнаграфіі, гісторыі, прыроды, эканомікі, сацыяльна-эканамічнага руху і інш.». Значэнне гэтай установы для развіцця беларускай навукі і культуры ў 1920-я гг. настолькі вялікае, што другі перыяд часта называецца «інбелкультаўскім».

У Інбелкульце былі створаны этнолага-лінгвістычная і прыродазнаўчая секцыі. Першая з гэтых секцый уключала тры камісіі: правапісна-тэрміналагічную, слоўнікавую і літаратурную.

Напярэдадні стварэння Інбелкульта Сцяпан Некрашэвіч паслаў ліст акадэміку Яўхіму Карскаму ў Петраград з прапановай узначаліць гэту ўстанову. Аднак першым старшынёй Інбелкульта давялося стаць С. Некрашэвічу. Першым вучоным сакратаром установы быў У. Чаржынскі, першымі правадзейнымі членамі – *Яўхім Карскі, Янка Купала* (*Іван Луцэвіч*), *Якуб Колас* (*Кастусь Міцкевіч*) і *Язэп Лёсік*. Сярод першых навуковых супрацоўнікаў Інбелкульта – географ М. Азбукін, матэматык Л. Більдзюкевіч, геолаг і літаратар М. Грамыка, юрыст М. Гуткоўскі, філолаг М. Байкоў, матэматыкі Ф. Бурак і А. Круталевіч, батанік В. Міхальскі, хімік Ч. Родзевіч, літаратуравед М. Піятуховіч, пісьменнік Змітрок Бядуля (С. Плаўнік). З 1926 г. Інбелкультам кіраваў *Усевалад Ігнатоўскі*.

Галоўныя напрамкі тагачаснай лінгвістычнай навукі ў Беларусі раскрываюцца ў назвах дзвюх вышэйзгаданых камісій: правапісна-тэрміналагічнай і слоўнікавай. У лістападзе 1926 г., калі ў складзе Інбелкульта існаваў ад-

дзел мовы і літаратуры, лінгвістычная работа вялася ў чатырох пастаянных камісіях: тэрміналагічнай, слоўнікавай, правапіснай і фальклорнадыялекталагічнай. (Выпрацоўка правапісу ў яе грамадскім кантэксце выкладзена ў раздзелах 4–6.)

Інбелкультаўскі перыяд, які ў асноўным супадае з перыядам дзяржаўнай палітыкі *беларусізацыі*, уяўляе сабой аснову міжваеннай лінгвістыкі ў цэлым, акурат у яго рамках зроблены галоўныя здзяйсненні мовазнаўства міжваенных гадоў. Матэрыял гэтага курса прысвечаны найперш інбелкультаўскаму перыяду.

Другі перыяд завяршаецца ў другой палове 1930 г., калі была прынята *рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве»*, арыштаваны вядучыя беларускія лінгвісты і спынена дзейнасць камісій Інстытута мовазнаўства створанай у 1929 г. Беларускай акадэміі навук (БАН), у газетах публікаваліся артыкулы аб «шкодніцтве нацыянал-дэмакратаў у галіне мовы». «Нацыянал-дэмакратамі», або «нацдэмамі», у гэты час у партыйным асяроддзі называлі членаў камуністычнай партыі або беспартыйных, дзеянні якіх характарызаваліся як правы «ўхіл» ад генеральнай лініі партыі ў культурным будаўніцтве. Падзеі 1930 г. прывялі да таго, што ў пачатку 1930-х гг. усе беларускія лінгвістычныя працы 1920-х гг. былі выведзены з ужытку.

**Трэці перыяд: канец 1930 г. – жнівень 1933 г.**

Гэты перыяд мае пераходны характар. Заснаваны ў 1929 г. Інстытут мовазнаўства БАН пачынае аднаўляцца пасля краху 1930 г., маюць месца нясмелыя спробы працягваць традыцыі папярэдняга перыяду, але адбываецца абумоўленая ідэалагічна-палітычнымі прычынамі перабудова мовазнаўчых устаноў і агульная змена арыенціраў у навуковым развіцці. У гэты час партыйныя органы аказваюць моцны ціск на навуковыя даследаванні, навязваючы іх напрамкі і прадвызначаючы іх змест.

З кастрычніка 1930 г. па красавік 1931 г. у Інстытуце мовазнаўства БАН не было дырэктара, прызначанага на сталай аснове. У 1931 г. супрацоўнікі кафедры марксізму-ленінізму БАН падрыхтавалі кнігу «“Навука” на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Мовазнаўства». Спецыфічная сітуацыя склалася вясной 1933 г., калі ў сакавіку аб’яднаны пленум ЦК і Мінскага гаркама КП(б)Б даручыў фракцыі камуністаў прэзідыума БАН «асабліва сур’ёзна заняцца пытаннямі беларускай мовы, забяспечыўшы правільную бальшавіцкую распрацоўку матэрыялаў па гэтым пытанні», а ў маі была створана «палітычная камісія па праглядзе руска-беларускага слоўніка і новых правіл правапісу».

Трэці перыяд завяршаецца з прыняццем *пастановы СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу»*, якая знаменавала сабой разрыў з лінгвістычнай практыкай 1920-х гг. і ўмацаванне арганізацыі навуковых даследаванняў на ідэалагічна-палітычных асновах.

**Чацвёрты перыяд: жнівень 1933 г. – 1941 г.**

Гэтаму перыяду ўласціва крышталізацыя развіцця мовазнаўства на ідэалагічна-палітычных асновах ва ўмовах жорсткага ідэалагічнага кантролю і тэрору. Кіраўніцтва акадэмічным мовазнаўчым падраздзяленнем (з ліпеня 1935 г. уваходзіла ў аб'яднаны Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва) у гэты час здзяйснялася літаратарамі – празаікам і драматургам Віталем Вольскім, паэтам Андрэем Александровічам, літаратуразнаўцам Васілём Барысенкам.

У 1934 г. выдадзены зборнікі *«Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы»* і *«Пісьменнік і мова»*. Пад рэдакцыяй А. Александровіча ў 1937 г. надрукаваны моцна русіфікаваны *«Руска-беларускі слоўнік»*, які, аднак, пасля арышту яго рэдактара быў выведзены з ужытку. З прычыны неспрыяльнай палітычнай абстаноўкі і тэрору многія навуковыя працы гэтага часу не ўбачылі свету. Кволыя прыкметы аздараўлення навуковага жыцця сталі заўважацца толькі ў пачатку 1940-х гг. (*дыскусія паміж газетамі «Літаратура і мастацтва» і «Звязда» аб стане і перспектывах развіцця беларускай літаратурнай мовы*).

## Пытанні для самакантролю

1. Якое значэнне для развіцця беларускай лінгвістыкі мела існаванне Беларускага навуковага таварыства і Мінскага беларускага педагагічнага інстытута?

2. Якія напрамкі мовазнаўчай дзейнасці развіваліся ў Інбелкульце?

3. Што ўласціва трэцяму перыяду гісторыі мовазнаўства міжваеннага часу?

4. Чаму беларуская лінгвістыка не магла плённа развівацца на працягу чацвёртага перыяду гісторыі мовазнаўства 1920–30-х гг.?

## Рэкамендаваная літаратура

*Жураўскі*, *А. І.* Мовазнаўства / А. І. Жураўскі ; Ін-т беларус. культуры. Мінск, 1993. С. 33–59.

*Жураўскі*, *А. І.* Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі / А. І. Жураўскі // Беларуская мова : энцыкл. Мінск, 1994. С. 231.

*Іваноў*, *М.* У міжваенным часе, у забраным краі… / М. Іваноў // Літаратура і мастацтва. 1993. 24 снеж. С. 14–15.

*Ляхоўскі*, *У.* Беларускі універсітэт: з гісторыі стварэння / У. Ляхоўскі // Спадчына. 1994. № 4. С. 61–68.

# 2. ПРЭСКРЫПТЫЎНА-НАРМАЛІЗАЦЫЙНЫ ХАРАКТАР БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫКІ 1920–30-х гг.

Спецыфіка беларускага мовазнаўства міжваенных гадоў палягае ў значнай ступені ў яго прэскрыптыўным (ад лац. *praescriptum* ‘прадпісанне, правіла’), арыентаваным на нармалізацыю, характары. Прэскрыптыўнае (прадпісальнае) мовазнаўства на адрозненне ад дэскрыптыўнага (ад англ. *descriptive* ‘апісальны’) мае  на мэце ўсталяваць прынцыпы фарміравання мовы і ўздзейнічаць на яе развіццё. Прэскрыптыўны падыход арыентаваны на стварэнне правіл у сферы фарміравання пэўнай мовы, выкарыстання канкрэтных слоў і моўных формаў, ён можа разглядацца як у гістарычным, так і сучасным ракурсе.

Існуе меркаванне, што да XIX ст. нарматыўнай была ўся лінгвістыка. Аднак у XIX ст. паступова набіраў сілу погляд, згодна з якім мовазнаўства мае іншыя мэты. У 1874 г. шведскі мовазнавец Э. Тэгнер даказваў, што задача лінгвістаў – «не прадпісваць мове законы, а апісваць іх». Не заўсёды магчыма дакладна ўстанавіць мяжу паміж прэскрыптыўным і дэскрыптыўным мовазнаўствам: дэскрыптыўная лінгвістыка можа незаўважна трансфармавацца ў прэскрыптыўную, увогуле, прэскрыптыўная дзейнасць прадугледжвае ў той або іншай ступені выкарыстанне дэскрыптыўнага складніка.

У сучаснай лінгвістыцы ў дачыненні да моцных моў дэскрыптыўны падыход выразна пераважае над прэскрыптыўным. Чэшскі мовазнавец П. Сгал сцвярджае, што дэскрыптыўны падыход рэалізуецца ў большасці развітых краін, адпаведна, прэскрыптывізм можа разглядацца як папярэдні, «недастаткова развіты» этап лінгвістычнай навукі. Навуковае апісанне «меншых» моў звычайна ўключае ў сябе большую або меншую ступень прэскрыптывізму.

У сучаснай беларускай лінгвістыцы ў рамках аднаго артыкула можна сустрэць як падтрымку меркавання, паводле якога навуковыя ўстановы не павінны вызначаць, як трэба гаварыць (гэта значыць, займацца прэскрыптывізмам), так і згоду з тым, што асноўнае прызначэнне дзейнасці лінгвістаў і мовазнаўчых устаноў палягае ў тым, каб падтрымліваць стабілізацыю літаратурнай мовы (натуральна, шляхам прадпісвання).

Прэскрыптыўнасць у беларускіх лінгвістычных працах 1920–30-х гг. утрымлівалася перадусім у падручніках і слоўніках, непасрэдна арыентаваных на ўстанаўленне, укараненне і сацыялізацыю моўных нормаў. Такога тыпу працамі з'яўляюцца пяць выданняў «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча (выдавалася ў Вільні ў 1918–1929 гг.; чацвёртае выданне 1921 г. было мінска-віленска-берлінскім). З 1921 па 1929 г. у Мінску восем разоў выходзілі граматычныя дапаможнікі Я. Лёсіка, з 1924 па 1929 г. таксама восем разоў былі надрукаваны падрыхтаваныя ім падручнікі па правапісе. У 1924–1926 гг. выйшлі два выданні руска-беларускага слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага, у 1926 г. – «Расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча, а ў 1928 г. – іх жа «Расійска-беларускі слоўнік». На працягу 1920-х гг. у Беларусі быў падрыхтаваны і выдадзены комплекс вучэбнай літаратуры (правапісаў і граматык), а таксама практычных слоўнікаў, якія засведчылі і замацавалі факт існавання беларускай літаратурнай мовы.

У 1930-я гг. інтэнсіўнасць падрыхтоўкі і выдання правапісаў, граматык і слоўнікаў моцна знізілася, тым не менш у 1934 г. быў надрукаваны «Правапіс беларускай мовы», у 1935–1936 гг. – дзве граматыкі, у 1937 г. – «Руска-беларускі слоўнік», у 1939 г. – дапаможнік па сінтаксісе.

На аснове ўказанай граматычнай літаратуры былі падрыхтаваны іншыя вучэбныя дапаможнікі па беларускай мове для выкарыстання ў школах, тэхнікумах, на рабфаках, курсах селькораў і рэдактараў – «рабочыя кнігі» па беларускай мове, граматыкі і навукова-метадычныя распрацоўкі. Усе пералічаныя выданні (за выключэннем хіба слоўніка 1937 г.) шырока выкарыстоўваліся ў вучэбнай і журналісцкай практыцы і з'яўляліся аднachасова як крыніцамі вывучэння беларускай мовы, так і сродкамі фіксацыі і стабілізацыі яе літаратурных нормаў.

Разгортванню прэскрыптыўнай функцыі лінгвістыкі садзейнічала арганізацыйнае развіццё навуковых устаноў. У Беларусі ў 1920-я гг. інстытуцыямі, якія фармулявалі моўную палітыку ў сферы выпрацоўкі моўных нормаў, былі: Навукова-тэрміналагічная камісія, Інбелкульт і яго структурныя падраздзяленні – аддзел мовы і літаратуры (з 1926 г., з яго тэрміналагічнай, слоўнікавай і правапіснай камісіямі) і Інстытут навуковай мовы (з 1927 г.), Беларуская акадэмія навук (1929) і яе структурнае падраздзяленне – Інстытут мовазнаўства.

Усведамленне і ўлік тых акалічнасцей, што ў міжваенныя гады было падрыхтавана і выдадзена шмат літаратуры, арыентаванай на афармленне беларускай літаратурнай мовы, даюць падставы розным навукоўцам разглядаць гэту літаратуру як нарматыўную, такую, у якой прадстаўлена нарматыўная версія сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Такая ацэнка часам пашыраецца не толькі на працы 1930-х гг., нармалізацыйная сутнасць якіх асабліва відавочная, але і на слоўнікі (аднак не на граматыкі) папярэдняга дзесяцігоддзя. Перакладныя слоўнікі 1920-х гг. у сучасных працах могуць прадстаўляцца як «першыя найбольш поўныя» (А. Цімашэнка). Можа ісці гаворка пра тое, што іх перакладныя часткі даюць найбольш поўнае ўяўленне пра лексічную норму і яе змены на працягу ўсёй гісторыі новай беларускай літаратурнай мовы, а самі слоўнікі «фактычна з'яўляліся для беларускай літаратурнай мовы нарматыўнымі» (А. Літвіноўская). Разглядаючы двухмоўныя слоўнікі 1918–1928 гг. у кантэксце «перыяду моўнай нармалізацыі», І. Савіцкая падкрэслівае іх «высокую нармалізацыйную каштоўнасць». Указваючы на патрэбу ў нарматыўных слоўніках, такіх, якія ўжо былі ў наяўнасці ў рускай і польскай лексікаграфіі, пісаў пра першыя беларускія слоўнікі канца 1910-х – 1920-х гг. у сваім дапаможніку Л. Шакун.

Аднак з пункту гледжання ўвасаблення прынцыпу прэскрыптыўнасці граматычная літаратура і слоўнікі 1920-х гг. выразна адрозніваюцца ад прац наступнага дзесяцігоддзя. Калі прэскрыптыўны прынцып у літаратуры 1930-х гг. вылучаецца выразна, то гэта не абавязкова можна сказаць пра працы папярэдняга дзесяцігоддзя. Прэскрыптыўнасць арыентаванай на задавальненне практычных патрэб мовазнаўчай прадукцыі 1920-х гг. не павінна разумецца як поўная падпарадкаванасць гэтай прадукцыі задачам пабудовы нарматыўнай літаратурнай мовы ў яе сучасным разуменні. У скіраваных на практыку лінгвістычных працах гэтага часу змяшчаўся не толькі нарматыўны кампанент. Мовазнаўчай прадукцыі 1920-х гг. уласціва значная ліберальнасць у вызначэнні таго, што́ мае лічыцца нормай, а што́ – не. Напрыклад, граматыка Б. Тарашкевіча дазваляла вельмі значную марфалагічную варыянтнасць, і гэта нетыпова для сучасных граматычных апісанняў.

Несумненна, не прэтэндавалі на нарматыўнасць першыя слоўнікі, падрыхтаваныя з удзелам Максіма Гарэцкага (друкаваліся з 1918 г.). У прадмове да свайго «Руска-беларускага слоўніка» 1918 г. браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія падкрэслівалі, што яны не мелі філалагічнай адукацыі і не ставілі перад сабой высокіх навуковых задач – «адно – слухаючы свайго вуха і не зважаючы надта на тое, ці хто ўхваліць, а ці пашкеліць, ці ганіць будзе, – выкладалі жменю цікавейшых слоў ку патрэбе і на добрае ўжыванне маладым адраджоным братом, што па-маскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па-беларуску няцца хочуць». Згодна з А. Літвіноўскай, у гэтым слоўніку ў параўнанні з іншымі лексікаграфічнымі працамі XX ст., за выключэннем

«Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г., пададзена адносна самая вялікая колькасць уласнабеларускіх слоў і «даўніх» запазычанняў з рускай мовы. Сучасная беларуская літаратурная мова значную колькасць уласнабеларускіх слоў, якія ўжываліся ў ёй у 1920-я гг., страціла і адначасова пазбавілася вялікай колькасці русізмаў (таксама ўжывальных у 1920-я гг.), таму можна прыйсці да высновы – названы слоўнік моцна адрозніваецца ад сучасных, дэманструе не (зусім) сучасную версію беларускай літаратурнай мовы і, адпаведна, не можа разглядацца як нарматыўны.

Выразныя хібы з пункту гледжання крытэрыю прэскрыптыўнасці ўласцівы і «Расійска-беларускаму слоўніку» 1928 г. Сцяпана Некрашэвіча і Міколы Байкова, у якім рускім лексемам часта прапаноўваліся па два і больш беларускіх адпаведнікаў: *беспокойство – непакой, турбота, клопат, фатыга, калатня; желать – жадаць, бажаць, воліць, зычыць; индивид – індывід, асобнік, адзінка; калёный – гартаваны, гартны, распечаны, пражаны; картофель – бульба, картопля, бараболя; клеймо – кляймо, кляйно, знак, штэмпель, таўро, пячатка, адбой; тоскливо – нудна, нудотна, нудосна, тужліва, маркотна, невясёла, сумна, журбліва; население – насельніцтва, насельнасць, насяленне, люднасць, жыхарства*; *плут – махляр, круцель, абармот, латруга, шалапут, ашуст, ашуканец, шальбер, шалыга, пралотр, гэрц, гэрцык, гіцаль, хітрэц, шальмец, падшывальнік, падшывала*; *сообразительный – цямкі, цямлівы, кемкі, кметлівы, угадлівы, дасціпны, развальны* і інш. У выпадку з адпаведнікамі рус. *плут* у слоўніку маем 17 (так!) беларускіх адпаведнікаў. У выніку падачы ў беларускай частцы слоўніка значнай колькасці адпаведнікаў рускім словам некаторыя карыстальнікі слоўніка часам губляліся ў вызначэнні таго, пры дапамозе якіх беларускіх слоў трэба перакладаць тое або іншае рускае слова, якая лексема з’яўляецца нарматыўнай (параўн.: прапанаваныя эквіваленты да рус. *картофель, население*). З пункту погляду прэскрыптыўнасці многія словы і марфалагічныя формы ў лінгвістычных працах 1920-х гг. былі «лішнімі», збыткоўнымі. Калі ў «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. рускім словам з абмежаванай колькасцю пэўных значэнняў падавалася празмерна многа беларускіх адпаведнікаў, часам нават з выхадам за семантычныя рамкі рускага слова, фактычна неэквівалентаў (параўн.: *асобнік, гіцаль, пражаны* як эквіваленты да рус. *индивид, плут, калёный*), то можна гаварыць, што норма ў такіх выпадках была «размыта», фактычна адсутнічала.

Аднак заснаваныя на сучасным разуменні лексікаграфічнай культуры крытычныя ацэнкі слоўнікаў і граматычнай літаратуры міжваенных (найперш 1920-х) гадоў былі б залішне строгімі. Адкрытасць да разнастайных крыніц фарміравання беларускай лексікі і арыентацыя на як мага больш поўнае яе прадстаўленне ў слоўніках 1920-х гг. складаюць выразную спецыфіку беларускай лексікаграфіі 1920-х гг. Гэта спецыфіка, несумненна, пярэчыць

прынцыпу прэскрыптыўнасці слоўнікаў, тым не менш – з увагі да задач, якія стаялі перад тагачаснай лексікаграфіяй, – яна павінна ацэньвацца станоўча. Крытыка лексікаграфічных прац 1920-х гг. у сувязі з іх недастаткова выразна праяўленым нарматыўным характарам не ў поўнай меры ўлічвала б шматфункцыянальнасць слоўнікаў гэтага часу, не сканцэнтраваную адзіна на дасягненні нарматыўнасці. Важнай задачай беларускай лінгвістыкі 1920-х гг. было «адкрыць», сабраць лексічныя і іншыя рэсурсы беларускай мовы, зафіксаваць і пазнаць іх, урэшце, вывучыць беларускую мову ва ўсёй яе паўнаце і багацці.

Наяўнасць у руска-беларускіх слоўніках 1920-х гг. значнай колькасці «збыткоўных», недарэчных і недакладных з першага пункту гледжання беларускіх слоў тлумачыцца ў тым ліку імкненнем укладальнікаў найлепшым чынам раскрыць значэнні рускіх лексем. Паколькі ў розных, нават блізкароднасных, мовах толькі частка лексікону мае дакладныя, «адзін да аднаго», адпаведнікі ў другой мове, пастолькі часта аднаго эквіваленту ў другой мове бывае недастаткова, каб раскрыць значэнне нейкага слова належным чынам. На гэта яшчэ ў 1918 г. звяртаў увагу Я. Лёсік, крытыкуючы практыку падачы да кожнага рускага слова ў «Руска-беларускім слоўніку» братоў Гарэцкіх толькі адной беларускай лексемы. Гэта крытыка была ўлічана, і ў другім выданні слоўніка 1920 г. колькасць беларускіх сінонімаў-эквівалентаў значна павялічылася; паводле С. Сачанкі, у гэтай невялікай па памерах працы было пададзена больш за 1800 сінанімічных радоў.

У Інбелкульце яшчэ пры яго заснаванні ў адпаведнасці з вымогамі акадэміка Я. Карскага была пастаўлена задача збору беларускай лексікі ў яе поўным аб'ёме. Такая паўната асацыіравалася з навуковасцю падыходу ў працэсе работы з лексікай. Насычэнне беларускіх частак руска-беларускіх слоўнікаў шматлікімі эквівалентамі садзейнічала лепшаму раскрыццю значэнняў і стылістыкі рускіх слоў, спрыяла адэкватнаму раскрыццю семантыкі і беларускіх слоў, а таксама стымулявала фарміраванне асноў беларускай літаратурнай сінанімікі. Увогуле, у сучаснай лінгвістыцы намаганні лексікографаў 1920-х гг. як мага больш поўна паказаць лексічнае багацце беларускай мовы ацэньваюцца вельмі высока.

Насуперак крытыцы з боку некаторых карыстальнікаў беларускай мовы 1920-х гг. шырыня прадстаўлення беларускіх эквівалентаў мела важнае значэнне таксама з прычыны яшчэ ў значнай ступені не да канца аформленага характару тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, неўсталяванасці яе нормаў. На той стадыі фарміравання літаратурнай мовы, на якой знаходзілася нацыянальная мова беларусаў у 1920-я гг., часта яшчэ існавала патрэба выявіць, штó з'яўляецца нормай, а штó – не. Таму працэс нармалізацыі літаратурнай мовы натуральным чынам быў звязаны са зборам, выяўленнем і паказам усяго лексічнага багацця беларускай мовы. Недыферэнцыраваны з сучаснага пункту гледжання падыход

да ўключэння ў слоўнікі разнароднай (літаратурнай і «нелітаратурнай») лексікі быў уласцівы развіццю лексікаграфічнай практыкі розных, не толькі беларускай, моў на пачатковых этапах іх станаўлення. Напрыклад, у чатырохтомным «Слоўніку ўкраінскай мовы» Б. Грынчэнкі 1907–1909 гг. поруч з літаратурнымі змяшчалася вялікая колькасць дыялектных лексем; згодна з некаторымі ацэнкамі словы, якія не мелі дачынення да літаратурнай мовы, у гэтай працы складалі «добрую трэць». Поўнае адлюстраванне разнастайнай лексікі і яе фіксацыя ў слоўніках 1920-х гг. стварала перадумовы для яе наступнага вывучэння і будучай больш асэнсаванай нармалізацыі.

Прыкметы такой нармалізацыі можна назіраць, напрыклад, у другім выданні «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» 1926 г. Міколы Байкова і Максіма Гарэцкага ў параўнанні з першым выданнем слоўніка 1924 г. У другім выданні сінанімічнасць і дублетнасць перакладных эквівалентаў была скарочана. Калі ў першым выданні для рус. *башмак* прапаноўвалася пяць беларускіх адпаведнікаў (*чаравік, камаш, бацінак, боцік, барлёч*), то ў другім выданні іх захавалася толькі два (*чаравік* і *камаш*). Калі для рус. *хлебопашец* у першым выданні былі дадзены эквіваленты *хлебароб, ральнік, ратай*, то ў другім выданні застаўся толькі першы адпаведнік. Колькасць беларускіх адпаведнікаў таксама была скарочана пры словах *аист, дрянь, оружие, потомок, ругань, усадьба* і інш.

Перадумовы для такой нармалізацыі існавалі найперш у тых выпадках, калі нейкія аўтары выдавалі свае працы не адзін раз. Сярод руска-беларускіх слоўнікаў неаднаразова выдадзенымі былі слоўнікі з удзелам М. Гарэцкага (выдаваліся ў 1918–1926 гг.) і М. Байкова (выдаваліся ў 1924–1928 гг.). Акурат адносная рэгулярнасць выданняў слоўнікаў з удзелам М. Гарэцкага стварыла спрыяльную сітуацыю для таго, каб ён разам з суаўтарамі падумаў не толькі пра прадстаўленасць у слоўніку багацця беларускага лексікону, але і пра яго спарадкаванне.

Аднак у працэсе падрыхтоўкі слоўнікаў 1920-х гг. тэндэнцыя да скарачэння варыянтных радоў дзейнічала непаслядоўна. Так, у параўнанні з другім выданнем «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» 1926 г. М. Байкова і М. Гарэцкага ў «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. М. Байкова і С. Некрашэвіча рэалізаваная ў слоўніку 1926 г. тэндэнцыя да скарачэння і, дзякуючы гэтаму, нармалізацыі беларускай лексікі была падтрымана толькі часткова. Гэтыя лексікаграфічныя працы, напрыклад, супадаюць у тым, што ў іх няма вялікай колькасці адпаведнікаў для слоў *башмак* і *оружие*, у абодвух слоўніках за кошт слова *ўнук* скарочана колькасць эквівалентаў для слова *потомок*. Аднак яны адрозніваюцца колькасцю эквівалентаў для рус. *аист*. Хоць у другім выданні слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага падаваўся толькі эквівалент *бусел*, а лексема *бацян* на адрозненне ад першага выдання слоўніка 1924 г. не прыводзілася, у слоўніку 1928 г. слова *бацян* было

ўзноўлена. У параўнанні са слоўнікам 1926 г. у слоўніку 1928 г. для лексемы *потомок* быў адноўлены эквівалент *нашчадак*. Нягледзячы на тое што для лексем *дрянь* і *усадьба* ў другім выданні слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага колькасць эквівалентаў была скарочана з трох да аднаго (засталіся: *дрэнь, сядзіба*), у слоўніку 1928 г. гэтым словам былі дадзены па пяць беларускіх эквівалентаў (*дрэнь, поскудзь, погань, брыда, шваль; сядзіба, маёнтак, двор, гаспода, сяліба*). Гэта акалічнасць сведчыць пра тое, што погляды наконт таго, наколькі шырока ў беларускіх частках руска-беларускіх слоўнікаў павінна была прад’яўляцца разнастайная лексіка і ці прыйшоў час для адсейвання раней зафіксаваных слоў, у розных лінгвістаў адрозніваліся. Пошук лепшых і дакладных адпаведнікаў рускім словам, які таксама быў складовай часткай нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы, у працэсе падрыхтоўкі слоўнікаў працягваўся і ў другой палове 1920-х гг.

У некаторых вядомых кадыфікатараў 1920-х гг. (напрыклад, Я. Лёсіка) можна было назіраць супярэчлівасць пазіцыі адносна нармавання літаратурнай мовы. З аднаго боку, паводле мемуарных матэрыялаў, ён меў славу «пракурора беларускай мовы»; ён вядомы як аўтар вельмі строгай рэцэнзіі на «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча 1926 г., у якой шэраг пададзеных у слоўніку лексем ён кваліфікаваў як нелітаратурныя. З другога боку, у іншых сваіх працах і нават у гэтай самай рэцэнзіі яму ўласціва ліберальная пазіцыя ў дачыненні да некаторых з’яў беларускай мовы. У шэрагу выпадкаў яго пазіцыя выразна адрознівалася ад усталяванай. Яго ўласнае ўжыванне часам таксама істотна адрознівалася ад нашых сучасных уяўленняў аб нарматыўнасці беларускай мовы.

Так, напрыклад, прыводзячы ў адным са сваіх падручнікаў рады акцэнталагічных і іншых варыянтаў слоў і іх формаў тыпу *бліжай – бліжэй, ваўка́ – воўка, вобмацкам – вошчупкам, галосна – голасна, дзесяціна – дзесянціна, жалеза – залеза, зысціся – сысціся, на́нава – нанова, садо́віна – садавіна, раме́нь – рэмень, корань – карэнь, друкованы – друкава́ны, да́рма – дарма́, вобраз – абра́з, стрэха – страха́, твораг – тварог, тоўсты – таўсты, хва́ла – хвала́, могілкі – магілкі, упе́рад – упярод* і інш., ён амаль не імкнуўся адрозніць сярод іх нарматыўныя і ненарматыўныя. Залічваючы да ненарматыўных формы тыпу *хвабрыка, ахвіцэр, хвамілія, хвігура*, Я. Лёсік тым не менш прызнаваў за імі нейкі статус у рамках беларускай мовы. У сваёй рэцэнзіі на «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча ў якасці ненарматыўнай ён пазначыў форму *пагмурыцца* ‘пахмурыцца’ – але тут жа, звярнуўшы ўвагу на цікавасць з фанетычнага пункту гледжання гэтай формы («пераход *х* у *г* перад *м*»), у пэўнай ступені нівеліраваў сваю заўвагу адносна нелітаратурнасці гэтай формы. Падобна, цалкам прымальнымі ў беларускай мове ён лічыў не толькі формы *свянцоны* і *пасвянцоны*, але і *пазлацоны*; поруч з формай *сонца* – як зусім нарматыўнае – ён прыводзіў форму *слонца*, не

лічыў ненарматыўным слова *свадзьба* і інш. Я. Лёсік адстойваў непрымальнасць (цалкам звычайных у тагачасным ужыванні) слоў *куля* ‘шар’ (у рамках геаграфічнай тэрміналогіі), папулярызаваў напісанні тыпу *прыду, прыдзе, прышоў, прышла; вышаў, узышоў* і інш. У сваіх працах як нарматыўнымі ён карыстаўся словамі *воздух, вылажыць* (*матэрыял*), *даследжваць, настраенне, паддзержка, разгавор, разгаворны* і інш.

Увогуле, існуе нямала прыкладаў неаднолькавага стаўлення да розных канкрэтных лексем з боку розных кадыфікатараў. Напрыклад, рыхтуючы ў 1927 г. 15-ты (граматычны) выпуск серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія», насуперак уласнай ранейшай практыцы Я. Лёсік палічыў патрэбным дадаць да эквіваленту *лемантар* у якасці варыянтнага ўжывання слова *буквар*, што не прайшло міма крытычнай увагі рэцэнзента гэтага выпуску М. Байкова. Слова *буквар* няма ў рэестры «Беларуска-расійскага слоўніка» 1926 г. і ў беларускай частцы «Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г., у падрыхтоўцы якіх удзельнічаў М. Байкоў. Неаднастайнасць меркаванняў можна бачыць і ў тым, што «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча Я. Лёсікам быў адрэцэнзаваны выключна крытычна. А 15-ты тэрміналагічны выпуск Я. Лёсіка атрымаў крытычную ацэнку М. Байкова і І. Бялькевіча. Слоўнік В. Ластоўскага зазнаў моцную крытыку з боку С. Некрашэвіча.

Хоць граматычныя і лексікаграфічныя працы 1920-х гг., несумненна, спрыялі пабудове нарматыўнай версіі літаратурнай мовы, кваліфікаваць іх як прэскрыптыўныя або нарматыўныя было б недакладна. Іх нарматыўнасць абмяжоўвалася шэрагам важных фактараў, абумоўленых спецыфікай тагачаснага стану беларускай лінгвістыкі і стану тагачаснай беларускай літаратурнай мовы.

### Пытанні для самакантролю

1. Што такое «прэскрыптыўнае мовазнаўства», чым яно адрозніваецца ад дэскрыптыўнага?

2. Чаму многія граматычныя і лексікаграфічныя працы 1920-х гг. не могуць лічыцца цалкам прэскрыптыўнымі? Чаму нарматыўнасць слоўнікаў 1920-х гг. не магла быць абсалютнай?

3. Якое значэнне мела тая акалічнасць, што ў беларускіх слоўніках 1920-х гг. звычайна падавалася не толькі літаратурная лексіка?

### Рэкамендаваная літаратура

*Германовіч*, *І. К.* Беларускія мовазнаўцы : у 2 т. / І. К. Германовіч. Мінск, 2006–2008. Т. 1, 2.

*Жураўскі*, *А. І.* Беларускае савецкае мовазнаўства: здабыткі, праблемы, шляхі развіцця / А. І. Жураўскі // Беларус. мова і літ. у школе. 1988. № 2. С. 12–16.

*Запрудскі*, *С.* Неюбілейныя думкі з нагоды юбілейных выданняў мовазнаўчай спадчыны / С. Запрудскі // Беларус. гіст. агляд. 2003. Т. 10. Сшыткі 1–2 (18–19). С. 319–352.

*Літвіноўская*, *А.* Праблема лексічнай нормы беларускай літаратурнай мовы ў некаторых замежных публікацыях / А. Літвіноўская // Новые исследования в зарубежной лингвистике. Минск, 1996. С. 71–82.

*Савіцкая*, *І. І.* Лексікаграфічная спадчына М. Гарэцкага: сацыялінгвістычны аспект / І. І. Савіцкая // Studia Białorutenistyczne. 2008. № 2. Lublin, 2008. С. 347–356.

*Хауген*, *Э.* Лингвистика и языковое планирование / Э. Хауген // Новое в лингвистике. М., 1975. Вып. 7. С. 441–472.

*Яворська*, *Г. М.* Прескриптивна лінгвістика як дискурс. Мова, культура, влада / Г. М. Яворська. Київ, 2000.

*Bugajski*, *M.* Lingwistyka normatywna wobec tradycji językowej / M. Bugajski // Język polski. R. LXXV. 1995. Z. 1. S. 6–11.

*Horecký*, *J.* Ciele a metódy preskriptívnej jazykovedy / J. Horecký // Sociolinguistica slovaca. 1998. № 3. S. 61–64.

*Ondrejovič*, *S.* Sociolingvistický vs. «normativistický» pohl’ad na jazyk / S. Ondrejovič // Sociolinguistica slovaca. 1998. № 3. S. 54–60.

*Wexler*, *P.* Belorussification, Russification and Polonization Trends in the Belorussian Language 1890–1982 / P. Wexler // Sociolinguistic Perspectives on Soviet National Languages. Their Past, Present and Future. Berlin ; New York ; Amsterdam, 1985. P. 37–56.

# 3. БЕЛАРУСКАЯ ЛІНГВІСТЫКА 1920–х гг.
# У АДНОСІНАХ З УЛАДАЙ

У навуковай літаратуры дастаткова добра апісаны дасягненні беларускага мовазнаўства 1920-х гг. У гэты час была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, заснаваны Інстытут беларускай культуры і яго структурнае падраздзяленне – Інстытут навуковай мовы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Беларуская акадэмія навук і Інстытут мовазнаўства.

Важны аспект характарыстыкі беларускай лінгвістыкі першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя – устанаўленне ступені яе аўтаномнасці ў якасці самастойнай навуковай дысцыпліны, яе незалежнасці ад палітычных структур і ідэалагічных канцэпцый свайго часу.

Праблемы аўтаномнасці тых або іншых лінгвістычных поглядаў, іх незалежнасці ад палітычных структур і ідэалагічных канцэпцый свайго часу вывучаюцца мала, яны могуць недастаткова ўлічвацца, «заставацца ў ценю» нават у самых лепшых працах, прысвечаных важным навуковым тэорыям 1920-х – пачатку 1930-х гг. Так, напрыклад, згодна з прынятым наборам аспектаў разгляду марксісцкай лінгвістыкі ў СССР, вылучаных у манаграфіі расійскага навукоўца У. Алпатава аб лінгвістычных ідэях М. Бахціна і В. Валошынава, можа вынікаць, што панаванне марксісцкай ідэалогіі ў грамадстве магло не сягаць далей, чым уплыў на кола інтарэсаў навукоўцаў. Праблема непасрэднага дыктату ў адносінах да вучоных у гэтай працы не называецца, што, верагодна, з'яўляецца ў тым ліку адлюстраваннем той акалічнасці, што насуперак умацаванню ў СССР у другой палове 1920-х гг. «марксісцкай» лінгвістыкі ў расійскім мовазнаўстве ў гэты час тым не менш усё яшчэ заставалася пэўная прастора для свабоды навуковай дзейнасці. У Беларусі сітуацыя была менш спрыяльная. З аднаго боку, асацыяваныя з марксісцкай

лінгвістыкай ідэалагічныя догмы засвойваліся беларускімі мовазнаўцамі пазней у параўнанні з расійскімі. Напрыклад, рэцэнзуючы ў 1927 г. другі том Вялікай савецкай энцыклапедыі, беларускі лінгвіст Л. Цвяткоў зазначаў, што пакладацца на заснавальніка яфетычнай «марксісцкай» лінгвістыкі М. Мара «можна толькі ў тых пытаннях, якія не маюць адносін да яго тэорыі яфетызму». (Назва *яфетычны* ўзыходзіць да імя *Яфет* – трэцяга сына апошняга ветхазаветнага патрыярха Ноя.) Л. Цвяткоў лічыў, што гэта тэорыя (на яго думку, яе лепш было б называць гіпотэзай) была яшчэ слаба абрунтаванай. З другога боку, часткова ў сувязі з адносна позним прыходам марызму ў Беларусь палітычны дыктат у беларускай лінгвістычнай навуцы ў гады «культурнай рэвалюцыі» зацвярджаўся больш хутка і ў больш грубай форме ў параўнанні з сітуацыяй у расійскай лінгвістыцы тых часоў.

Тая акалічнасць, што беларуская лінгвістыка ў 1920-я гг. зведвала актыўнае інстытуцыянальнае развіццё, у існуючых беларускіх працах адзначаецца як вельмі пазітыўны фактар для развіцця мовазнаўства. Сярод прац лінгвістаў асаблівай увагі заслугоўвае характарыстыка сувязей паміж абмеркаваннем моўных пытанняў, ідэалогіяй і «моўным будаўніцтвам» у БССР у 1920–30-я гг., зробленая амерыканскім беларусістам К. Вулхайзерам.

Пытанне ўстанаўлення ступені незалежнасці беларускай лінгвістыкі 1920-х гг. ад палітычных структур і канцэпцый свайго часу няпростае з-за неабходнасці ўліку таго, што на першым этапе разбудовы БССР адукацыйныя задачы ў той або іншай меры маглі суадносіцца з палітычнымі мэтамі пабудовы новага грамадства. Асаблівы ракурс пытанню прыдае тая акалічнасць, што ў 1920-х гг. развіццё беларускага мовазнаўства адбывалася ў рамках станаўлення таталітарнага грамадства. Мае значэнне і тое, што спачатку беларуская савецкая лінгвістыка займалася не «ўласна навуковымі», а пераважна практычнымі задачамі падрыхтоўкі граматык і слоўнікаў. Зыходзячы з небеларускай перспектывы такая дзейнасць можа кваліфікавацца нават як выключна «ненавуковая», палітычная. Няпростае і неадназначнае таксама пытанне і суадносін тых або іншых навуковых канцэпцый (асабліва звязаных з пытаннямі фарміравання літаратурных моў) з палітыка-ідэалагічнымі дактрынамі свайго часу.

Лічыцца, што афармленне літаратурных моў уяўляе сабой «сацыяльна-палітычны працэс», яно адбываецца на пэўнай ідэйнай аснове, а прэскрыптыўныя выказванні служаць інтарэсам вышэйшага і сярэдняга класаў, адлюстроўваючы іх ідэалогію ў вызначэнні такіх паняццяў, як «густ», «дыскрымінацыя» і «культура». Нягледзячы на гэта, наяўнае ў працэсе моўнай стандартызацыі (тут і далей у сэнсе: ‘афармленне нормаў літаратурнай мовы’) устанаўленне іерархіі і гегемоніі часта не выстаўляецца напаказ. Працэс моўнай стандартызацыі можа падавацца такім чынам, нібы ён быў наступствам пэўнага «натуральнага адбору». Такое разуменне моўнай

стандартызацыі як натуральнага працэсу, які не падлягае кантролю з боку чалавека, апраўдвае існаванне такіх гегеманічных грамадскіх інстытутаў, як адукацыя, сродкі масавай інфармацыі і нават акадэмічная лінгвістыка. У гэтым выпадку падразумяваецца, што яны існуюць не столькі для стварэння і ўвядзення ва ўжытак стандартнай мовы, колькі проста выступаюць відавочнымі перадатчыкамі «натуральнага» ходу моўнага развіцця.

Зыходзячы з такога разумення трэба прызнаць, што любая нацыянальная лінгвістыка ў тым або іншым выглядзе абслугоўвае (прынамсі, абслугоўвала) пэўныя вышэйшыя сацыяльныя слаі дзяржавы, у рамках якой яна развіваецца. Дзейнасць беларускай савецкай лінгвістыкі разгортвалася пад апекай Народнага камісарыята асветы БССР. Быўшы ўключаным у арганізацыйную структуру беларускай савецкай дзяржавы, беларускае мовазнаўства непазбежна выконвала пэўныя функцыі ў гэтым утварэнні. Адзін з вядучых лінгвістаў 1920-х гг. С. Некрашэвіч займаў розныя кіруючыя пасады ў Наркамаце асветы, узначальваў Інбелкульт, быў старшынёй аддзела гуманітарных навук, кіраваў аддзелам навукі пры Наркамаце асветы, з'яўляўся дырэктарам Інстытута мовазнаўства і віцэ-прэзідэнтам БАН. У якасці дзяржаўнага функцыянера С. Некрашэвіч, натуральна, праводзіў вызначаную дзяржавай палітыку ў сферы адукацыі, навукі і культуры. К. Вулхайзер паказаў, што ў працэсе «моўнага будаўніцтва» ў БССР 1920-х гг. некаторыя беларускія мовазнаўцы спрабавалі дастасаваць працэс распрацоўкі і кадыфікацыі беларускай мовы да рэалізацыі больш шырокай савецкай мадэлі, што пакінула след у іх публікацыях. Праўдападобна, у 1920-я гг. найперш заўважаецца імкненне супрацоўнічаць з уладай праз выкарыстанне ў сваёй навуковай практыцы пэўных ідэалагічных шаблонаў з боку Я. Лёсіка.

Аднак не выпадае гаварыць пра несвабоду навуковага мыслення ў сферы тагачаснай беларускай лінгвістыкі і беспраблемныя адносіны паміж беларускімі мовазнаўцамі і ўладай. Прымяняльна да дзейнасці навукоўцаў-папулярызатараў навуковых ведаў у СССР да 1928 г. іх адносіны з палітычнай уладай кваліфікуюцца як «вялікія трэнні і супрацоўніцтва». Абодва гэтыя кампаненты – супрацоўніцтва і трэнні – былі ў наяўнасці і ў выпадку ўдзелу ў навуковым і культурным будаўніцтве БССР многіх беларускіх мовазнаўцаў, найперш такіх фігур, як С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі. Раней яны (В. Ластоўскі да 1926 г.), згодна з кваліфікацыяй улад, займаліся антысавецкай дзейнасцю. У матэрыялах 1926 г. створанай на аснове пастановы сакавіцкага (1926 г.) пленума ЦК КП(б)Б камісіі па інтэлігенцыі Я. Лёсік быў ахарактарызаваны як «нацыянал-дэмакрат», І. Бялькевіч – як «беларускі эсэр», рускі па нацыянальнасці Л. Цвяткоў – як чалавек з «беларускім нацыянал-дэмакратычным ухілам», члены Правапісна-тэрміналагічнай камісіі, класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас, – як асобы адпаведна з «леванародніцкім» і «нацыянал-дэмакратычным» ухіламі.

У 1920-я гг. сярод беларускіх мовазнаўцаў не было камуністаў. Яшчэ ў 1933 г. аўтар адной з газетных публікацый скардзіўся, што сярод выкладчыкаў мовазнаўства ва ўсіх ВНУ Беларусі быў толькі адзін член партыі.

У пачатку сваёй дзейнасці ў БССР са спецыфічнымі праблемамі сутыкнуўся найперш выкладчык БДУ, член Інстытута беларускай культуры з дня яго заснавання Я. Лёсік.

У верасні 1922 г. другое выданне яго падручніка «Практычная граматыка» зазнала рэзкую крытыку на старонках газеты «Звезда» з боку члена Цэнтральнага бюро (ЦБ) КП(б)Б Р. Пікеля і будучага першага старшыні Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў БССР (Галоўлітбела, Галоўліта) Р. Шукевіча-Траццякова. Р. Пікель палічыў падручнік Я. Лёсіка непатрэбным для партыйнай работы і зрабіў вывад, што ў дадзеным выпадку пад шыльдай выдавецтва вялася контррэвалюцыйная прапаганда. Кіраўнік цэнзурнага ведамства Р. Шукевіч-Траццякоў сцвердзіў, што ў сваіх нядаўна апублікаваных артыкулах Я. Лёсік заклікаў да абароны буржуазна-дэмакратычных заваёў, пры гэтым перабольшваў значэнне беларускай мовы. Гэтыя публікацыі былі водгукам на пастанову ЦБ КП(б)Б «Аб высылцы прафесараў і грамадскіх работнікаў за межы Беларусі» ад 7 верасня 1922 г., у якой сярод іншага прадугледжвалася «падняць у прэсе кампанію супраць антысавецкіх беларусаў – грамадскіх работнікаў з такім разлікам, каб праз месяц выселіць гр. Лёсіка». У рамках серыі акцый органаў Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ДПУ) Беларусі ў пачатку лістапада 1922 г. Я. Лёсік быў арыштаваны, але ў сярэдзіне снежня яго вызвалілі. Калі ён знаходзіўся пад арыштам, 9 лістапада 1922 г. граматыка была дазволена да друку, аднак выдавецтва абавязвалася зазначыць у прадмове і пасляслоўі, што «прынцыпова не згодна з ідэямі, якія праводзіць аўтар».

Калі такога тыпу рэкамендацыю можна разглядаць як ліберальную, то пазнейшай дзейнасці цэнзурнага ведамства былі больш уласцівы дыктат і забароны. Падрыхтаваная Лёсікам у 1921 г. чытанка «Наша крыніца» ў лютым 1923 г. трапіла ў спіс недазволенай літаратуры як «рэлігійна-шавіністычная». У рукапісе падручніка «Беларуская мова. Правапіс» у ліпені 1923 г. зроблена больш за 60 цэнзурных правак; другое выданне дазволілі пасля яшчэ 140 правак. Рукапіс падручніка па сінтаксісе быў падпісаны да друку пасля ўчынення ў ім 80 правак.

Верагодна, кантроль з боку Галоўлітбела за падручнікамі Я. Лёсіка пашыраўся найперш на ўключаныя ў іх моўныя ілюстрацыі. Некаторыя сказы былі забракаваны цэнзурай таксама ў кнізе для чытання «Наша сіла – ніва ды машына», падрыхтаванай М. Байковым і С. Некрашэвічам.

Пункты, якія мелі дачыненне да ацэнкі тагачаснага стану беларускага мовазнаўства і літаратурнай мовы, а таксама падыходаў да яе фарміравання, у студзені 1925 г. фіксаваліся ў рэзалюцыі «Чарговыя задачы КП(б)Б у

нацыянальнай палітыцы» пленума ЦК КП(б)Б. У прыватнасці, канстатавалася «стракатасць» і «незавершанасць літаратурнай мовы і папулярна-літаратурнай». У рэзалюцыі прызнавалася, што работа над літаратурнай беларускай мовай у асноўным была праведзена, аднак сцвярджалася, што «надзвычайна адстала работа па палітычнай, навуковай, юрыдычнай і марксісцкай тэрміналогіі <...> амаль нічога не зроблена для выпрацоўкі, на аснове вывучэння народнай мовы, уніфікаванай і папулярнай беларускай мовы. Пры гэтым нельга процістаўляць беларускую літаратурную мову папулярнай, якая па меры культурнага росту вёскі будзе абагачацца, ачышчацца, набліжацца да літаратурнай беларускай мовы».

Што датычыць крытычнай ацэнкі адставання дзейнасці ў галіне грамадазнаўчай тэрміналогіі, то, з аднаго боку, такая ацэнка адлюстроўвала тагачасную зацікаўленасць улад у стварэнні беларускай тэрміналогіі ўвогуле. З другога боку, гэты акцэнт у рэзалюцыі, магчыма, неяк паўплываў на паскарэнне выдання юрыдычнага і грамадазнаўчага слоўнікаў, здзейсненага ў 1926 г. у серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія».

Важнае для эфектыўнасці агітацыйнай і партыйнай работы палажэнне аб выпрацоўцы блізкай да народнай літаратурнай мовы не было арыгінальнай ідэяй, народжанай у беларускіх партыйных колах у сярэдзіне 1920-х гг. Яно адпавядала падыходам цэнтральных (маскоўскіх) партыйных органаў адносна неабходнасці карыстацца ў практычнай рабоце з насельніцтвам простай, даступнай мовай і, між іншага, супадала з практыкай ранейшых беларускіх партыйных дзеячаў сацыял-дэмакратычнага напрамку. Супадала яно і з меркаваннямі на гэты конт кадыфікатараў беларускай літаратурнай мовы.

Мовазнаўчыя пытанні абмяркоўваліся ў Беларусі таксама ў рамках дыскусіі аб нацыянальнай палітыцы на кастрычніцкім (1925 г.) пленуме ЦК КП(б)Б. У прыватнасці, было паўторна канстатавана, што ў палітычнай, навуковай і прававой сферах пытанні беларускай мовы знаходзіліся яшчэ толькі ў пачатковай стадыі развіцця. Пленум адзначыў «незасваенне і марруднасць» выканання дырэктывы папярэдняга пленума аб папулярнай беларускай мове, нагадаў аб неабходнасці карыстацца ў газетах простай мовай і паскорыць тэрміналагічную работу. «Непераадолены» погляд на беларускую мову як на выдуманую і штучную кваліфікаваўся ў рэзалюцыі як шавіністычны. У пастанове была таксама зафіксавана неабходнасць дабівацца, каб работа па выпрацоўцы тэрміналогіі «ў максімальнай ступені абапіралася на жывую размоўную мову беларускай вёскі». Гэтыя пастановы партыйных пленумаў у частцы спосабу фарміравання беларускай літаратурнай мовы маглі мець толькі дарадчае значэнне для лінгвістаў. Тагачасныя мовазнаўцы мелі ўласныя погляды на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы незалежна ад пастаноў партыйных органаў; у лінгвістычных працах гэтага часу не сустракаюцца спасылкі на такога тыпу рэзалюцыі.

Інтарэсы палітыкаў і лінгвістаў непасрэдна перасекліся таксама ў сярэдзіне 1926 г., калі першым трэба было нейтралізаваць скліканне за мяжой Усебеларускага з’езда з удзелам В. Ластоўскага, а другім – абмеркаваць праблемы правапіснага і графічнага рэфармавання беларускай мовы. (Падрабязней на гэты конт гл. у раздзеле 5.)

З 1928 г. у Беларусі стала завяршацца афармленне такой сістэмы кіравання культурай, якая прадугледжвала прамое ўмяшанне партыйных і дзяржаўных органаў у творчыя працэсы. Вялікае значэнне для розных навук мелі ідэалагічныя кампаніі, якія разгортваліся літаральна ў кожнай навуковай галіне. У БССР паварот у культурнай палітыцы замацаваў XII з’езд КП(б)Б (люты 1929 г.) і кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б 1930 г. Гэтыя зрухі адлюстроўваліся на ўмовах працы, дзейнасці і лёсах беларускіх лінгвістаў. Першымі ад новай палітыкі пацярпелі С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, М. Байкоў, Л. Цвяткоў, М. Дурнаво, І. Воўк-Левановіч.

11 верасня 1929 г. на сходзе актыву Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі сакратар партыйнай ячэйкі газеты «Звязда» Я. Чалядзінскі гаварыў пра выяўленне ў апублікаваных пяці кнігах «Запісак аддзела гуманітарных навук» (выдаваліся пад агульнай рэдакцыяй С. Некрашэвіча) «буржуазнай скарынінскай тэорыі». «Савецкасць» С. Некрашэвіча Я. Чалядзінскім ахарактарызавана як «амаль не марксісцкая», кіраўніку акадэмічнай лінгвістыкі ставілася ў віну публікацыя ў «Запісках» уласнага артыкула «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты “О уставах манастирских”». Прамоўца не разумеў, для якіх мэт праца С. Некрашэвіча была выпушчана «ў сэнсе марксізму». Крытыцы ў выступленні быў паддадзены таксама намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Лёсік, які, «уводзячы паланафільскія, польскія словы, усюды стараецца перавесці, каб не было расійскіх слоў, а былі паланафільскія і славянафільскія».

27 верасня 1929 г. у маскоўскай газеце «Комсомольская правда» надрукаваны артыкул аб правапартуністычных і нацыяналістычных скажэннях у дзейнасці Наркамасветы БССР, перадрукаваны 29 верасня мінскай газетай «Рабочий». У гэтым артыкуле крытыкавалася дзейнасць нядаўна звольненага наркама асветы БССР А. Баліцкага, значная ўвага ў публікацыі ўдзелена колішнім лідарам беларускага нацыянальнага руху, якія ступілі на шлях супрацоўніцтва з савецкай уладай і займалі пэўныя пасады ў навуковай, культурнай ці адміністрацыйнай сферах. Так, С. Некрашэвіч у гэтым артыкуле быў названы «сябрам Луцкевіча, Астроўскага і іншых агентаў Пілсудскага ў Заходняй Беларусі» (А. Луцкевіч у гэты час у савецкім друку характарызаваўся выключна як «фашыст»). Сярод людзей, якія займалі кіраўнічыя пасады ў Акадэміі навук, названы «нацыянал-дэмакрат, паланізатар беларускай мовы» Я. Лёсік, В. Ластоўскі, М. Байкоў і інш. Схаваны за крыптанімам «А. И.» аўтар артыкула сцвярджаў, што пералічаныя «чужыя і варожыя» асобы не маюць нічога агульнага з пралетарыятам і «прынеслі Савецкай Беларусі толькі шкоду».

20 кастрычніка 1929 г. была абнародавана пастанова СНК БССР, згодна з якой за публікацыю ў адным з тамоў «Запісак аддзела гуманітарных навук» артыкула «Дыспалаталізацыя *l* у беларускай мове» заходнебеларускага мовазнаўца і культурніцкага дзеяча Я. Станкевіча рэдактар тома С. Некрашэвіч быў звольнены з пасады віцэ-прэзідэнта БАН, а В. Ластоўскі – з пасады неадменнага сакратара.

У лістападзе 1929 г. з працы ў Акадэміі навук звольнены сакратар Інстытута навуковай мовы Л. Цвяткоў і член камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы М. Байкоў – апошні як «скампраметаваны ў друку і чужы па свайму сацыяльнаму паходжанню».

Імёны С. Некрашэвіча і В. Ластоўскага фігуравалі 10 снежня 1929 г. у матэрыяле газеты «Звязда», апублікаваным пад загалоўкам «Буржуазна-рэакцыйным ідэолагам даць рашучы адпор». С. Некрашэвіч крытычна згадваўся ў гэтай публікацыі як аўтар артыкула «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты...». У артыкуле ў крытычным святле ўпаміналася публікацыя ў выданнях акадэміі працы «аб евангеллі XIX в.», пад якой, відаць, падразумяваўся артыкул «Кароткія ўвагі на некаторыя помнікі беларускай мовы ў Ленінградзе» І. Ваўка-Левановіча.

У снежні 1929 г. абвастрылася і за некалькі дзён прыйшла да вырашэння сітуацыя вакол запрошанага ў 1928 г. у Беларусь расійскага навукоўца М. Дурнаво. Пасля паведамленняў маскоўскага друку, што М. Дурнаво быў вылучаны ў члены АН СССР, 15 снежня фракцыя КП(б)Б Цэнтральнага бюро секцыі навуковых работнікаў БССР правяла пасяджэнне, на якім разглядала гэта пытанне і ў выніку заявіла пратэст супраць такога вылучэння. У газеце «Звязда» быў надрукаваны артыкул з назвай «Рэакцыянеру Дурнаво – не месца ў Акадэміі навук». 18–19 снежня прэзідыум Акадэміі навук пастанавіў падаць дакладную запіску ў СНК БССР аб пазбаўленні М. Дурнаво годнасці акадэміка і звальненні яго з работы.

Пастановы ўрада і акадэмічных структур у справе названых навукоўцаў былі абумоўлены актывізацыяй ідэалагічнай дзейнасці партыйных органаў у Беларусі ў 1929 г., асабліва ў другой яго палове. XII з’езд КП(б)Б, які адбыўся 5–14 лютага 1929 г., спрыяў пашырэнню адміністрацыйна-сілавых метадаў уздзеяння ў ідэалагічна-партыйнай барацьбе ўвогуле і перагляду пазіцыі ў дачыненні да інтэлігенцыі ў прыватнасці. З 9 мая па 27 чэрвеня 1929 г. у Беларусі з мэтай абследавання практыкі нацыянальнай работы працавала камісія Цэнтральнай кантрольнай камісіі (ЦКК) ВКП(б) пад кіраўніцтвам старшыні ЦКК кампартыі Украіны У. Затонскага. 27 ліпеня 1929 г. газета «Звязда» надрукавала рэдакцыйны артыкул «Аб правым ухіле ў КП(б)Б па нацыянальным пытанні». У жніўні 1929 г. за подпісам «А. И.» шэсць вялікіх артыкулаў аб палітычным становішчы ў Беларусі надрукавала газета «Комсомольская правда». 5–8 верасня пленум ЦК КП(б)Б абмяркоўваў пы-

танне неабходнасці ўцягвання інтэлігенцыі ў класавую барацьбу і выкрыцця «кулацка-нэпманаўскіх ідэолагаў». 2 лістапада 1929 г. газета «Звязда» надрукавала рэдакцыйны артыкул «Актыўней павядзём барацьбу з нацыянал-дэмакратызмам, ачысцім партыю ад нацыянал-дэмакратычных агентаў, дамо адпор прымірэнчым адносінам да нацыянал-дэмакратызму!». 19 верасня з партыі былі выключаны наркам земляробства Д. Прышчэпаў і яго намеснік А. Адамовіч. На працягу восені 1929 г. разгортвалася справа наркама асветы А. Баліцкага, у пастанове прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Аб выніках чысткі ячэйкі наркамасветы» выступленні некаторых удзельнікаў падчас чысткі З. Жылуновіча былі кваліфікаваны як «наглая нацыянал-дэмакратычная вылазка». 10 лістапада 1929 г. у газеце «Известия» надрукаваны артыкул У. Затонскага «На франтах нацыянальнай культуры, або Правы, левы дзе бок», прысвечаны «мастацтвам нацыянал-дэмакратызму» ў Беларусі. У артыкуле сцвярджалася, што «замазваецца класавы змест нацыяналізму», абвастрэнне якога ў Беларусі «непасрэдна, груба-прымітыўна, выразна і відавочна» звязана з умацаваннем «кулака», крытыкавалася практыка «запабягання перад акадэмікамі».

Прыцягненне ўвагі партыйных органаў да навукоўцаў у гэты час, магчыма, таксама было неяк звязана з выкананнем прынятай 26 чэрвеня 1929 г. пастановы ЦК ВКП(б) «Аб навуковых кадрах ВКП(б)» і «пралетарызацыяй» акадэміі, якая пачынала набіраць сілу. У прысвечаным праблеме навуковых кадраў артыкуле, апублікаваным у газеце «Правда» 21 лістапада, паведамлялася, што больш за палову навуковых работнікаў сталі займацца навукай да 1918 г., а камуністы сярод навукоўцаў складалі толькі 7–8 %. У артыкуле канстатавалася «ажыўленне актыўнасці прадстаўнікоў чужой ідэалогіі» і лічылася патрэбным «увесці ў дзеянне каталізатары, здольныя паскорыць працэс дыферэнцыяцыі сіл унутры навуковых кадраў». 4 снежня 1929 г. у апублікаваным у газеце «Правда» інфармацыйным матэрыяле паведамлялася, што Маскоўская абласная канферэнцыя навуковых работнікаў палічыла «цалкам своечасовым перагледзець склад старых акадэмікаў з мэтай выдалення з акадэміі адсталых у навуковых адносінах і шкодных у грамадскім сэнсе элементаў». У згаданым артыкуле газеты «Звязда» ад 10 снежня гаворка ішла ў тым ліку пра серыю адкрытых сходаў ячэйкі майстэрань малога рамонту, на якіх абмяркоўвалася дзейнасць ячэйкі КП(б)Б БАН. На сходах гаварылася пра тое, што «акадэмікі баяцца рабочай крытыкі <...> замкнуліся ў сваіх кабінетах», супрацоўнікі акадэміі былі заклікауспаны «выйсці ў рабочыя раёны з дакладамі аб рабоце акадэміі».

Да актывізацыі ідэалагічнай дзейнасці ў 1929 г. непасрэдна спрычынілася Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне. Так, том з артыкулам Я. Станкевіча прайшоў неабходную праверку ў цэнзурным ведамстве, але яго рух далей не прапусціла ДПУ. След ДПУ прасочваецца і ў сувязі з палемічным дакладам І. Ваўка-Левановіча «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай

літаратурнай мовы», прачытаным у Акадэміі навук 16 снежня 1929 г. Паводле адных ацэнак поруч з правільнымі палажэннямі гэты даклад меў «шэраг памылковых»; сярод іншага І. Воўк-Левановіч назваў кіраўніцтва мовазнаўчымі ўстановамі Беларусі «нацыяналістычным засценкам». Згодна з іншымі ацэнкамі даклад змяшчаў «зусім абгрунтаванае ў навуковым плане сцверджанне аб фарміраванні літаратурных моў на інавацыйнай базе». Дыскусія па дакладзе на пасяджэнні не паспела разгарнуцца, дакладчык толькі атрымаў некалькі вострых пытанняў. Пасля пазнейшых публічных палітычных абвінавачванняў у сувязі з гэтым дакладам у 1930 г. І. Воўк-Левановіч пакінуў Беларусь.

Незвычайным у акалічнасцях падрыхтоўкі і ўспрыняцця дадзенага даклада з'яўляецца тое, што выступіць з ім І. Ваўка-Левановіча падгаварыў невядомы сакрэтны супрацоўнік ДПУ, які добра ведаў «вялікадзяржаўныя шавіністычныя», паводле яго слоў, погляды навукоўца. У выніку інтрыг навуковая дыскусія па дакладзе І. Ваўка-Левановіча не адбылася. 24 снежня 1929 г. у палітычным кантэксце даклад быў згаданы З. Жылуновічам на агульным сходзе супрацоўнікаў акадэміі. Даведаўшыся пра гэта, І. Воўк-Левановіч напісаў заяву ў камісію па чыстцы ячэйкі КП(б)Б, сцвердзіўшы, што яго апаненты ў справе нармавання беларускай літаратурнай мовы маюць «ідэалістычна-нацыяналістычныя антымарксісцкія ўстаноўкі». Асоба навукоўца і яго перакананні разглядаліся ў палітычным ракурсе ў газетных публікацыях супрацоўніка кафедры марксізму-ленінізму А. Валабрынскага і загадчыка аддзела друку, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б А. Сянкевіча. У маі 1930 г. даклад І. Ваўка-Левановіча даў падставу ідэнтыфікаваць «антыпралетарскія», «шавіністычныя» ўстаноўкі ў мовазнаўстве, зафіксаваныя ў рэзалюцыі бюро ЦК КП(Б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве». Усё гэта стварае выключна спецыфічны кантэкст у працэсе ацэнкі гэтага даклада.

Аднак звальненні з пасад, траўля і пазбаўленне ад працы на пераломе 1920–30-х гг. яшчэ не былі для беларускіх мовазнаўцаў самымі неспрыяльнымі выклікамі. У 1930 г. адбыўся сапраўдны крах беларускай лінгвістыкі. 17 лютага 1930 г. быў арыштаваны спецыяліст слоўнікавай камісіі, член правапіснай камісіі Інстытута мовазнаўства І. Бялькевіч. 28 чэрвеня 1930 г. арыштаваны яшчэ адзін член правапіснай камісіі – У. Чаржынскі, 29 чэрвеня 1930 г. – укладальнік «Віцебскага краёвага слоўніка» М. Каспяровіч. У ліпені адзін за адным былі арыштаваны ўкладальнік некалькіх перакладных слоўнікаў М. Гарэцкі, укладальнік геалагічнага слоўніка М. Грамыка, укладальнік руска-беларускага слоўніка, былы неадменны сакратар БАН В. Ластоўскі, аўтар шматлікіх правапісаў і граматык, намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства акадэмік Я. Лёсік, дырэктар Інстытута мовазнаўства акадэмік С. Некрашэвіч, член камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы Б. Эпімах-Шыпіла. З 6 жніўня 1930 г. месяц пад арыштам знаходзіўся вучоны сакратар Інстытута мовазнаўства П. Бузук, пазней – аж да пачатку лютага 1931 г. – ён хварэў

цяжкім псіханеўрастэнічным расстройствам. Да большасці названых вучоных былі прад'яўлены абвінавачванні ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Усё гэта цалкам змяніла навуковы клімат у Беларусі.

## Пытанні для самакантролю

1. Ці існавала магчымасць у беларускіх лінгвістаў 1920-х гг. дзейнічаць зусім незалежна ад палітычных структур і ідэалагічных дактрын свайго часу?
2. Чаму прысвечаныя сцвярджэнню і фарміраванню літаратурнай мовы лінгвістычныя працы могуць у большай або меншай ступені быць насычаны ідэалагічным зместам?
3. З якімі перашкодамі сутыкаўся Я. Лёсік у пачатку 1920-х гг. у працэсе выдання сваіх падручнікаў па беларускай мове?
4. Ці разглядаліся мовазнаўчыя пытанні на сходах вышэйшых партыйных органаў у сярэдзіне 1920-х гг.?
5. Якія беларускія лінгвісты першымі пацярпелі ад змены палітычнага курсу ў 1928-м і наступных гадах? У чым выявіліся гэтыя рэпрэсіі?

## Рэкамендаваная літаратура

*Алпатов*, *В. М.* История одного мифа. Марр и марризм / В. М. Алпатов. М., 2004.

*Алпатов*, *В. М.* Волошинов, Бахтин и лингвистика / В. М. Алпатов. М. : Языки славян. культур, 2005. (Studia philologica).

На крутым павароце. Ідэолага-палітычная барацьба на Беларусі ў 1929–1931 гг.: дакументы, матэрыялы, аналіз. Мінск, 1999.

Перед крутым поворотом. Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925–1928 гг.). Минск, 2001.

*Платонаў*, *Р. П.* Кіруючыя кадры і беларуская мова (1920-я гады) / Р. П. Платонаў // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мінск, 2001. Вып. 2. С. 243–251.

*Чарнякевіч*, *Ц.* Спрэчка дзвюх культур: абмеркаванне даклада Восіпа Ваўка-Левановіча 1 лютага 1924 г. у кантэксце філалагічнай навукі Беларусі 1920-х гадоў / Ц. Чарнякевіч // Асоба і час. Мінск, 2011. Вып. 4. С. 346–364.

*Шаўчук*, *І. І.* Гуманітарныя навукі ў сацыяльнай гісторыі Беларусі (20–30-я гады XX ст.) / І. І. Шаўчук. Брэст, 2007.

*Woolhiser*, *C.* Discours sur langue, idéologie et 'édification linguistique' dans la RSS de Biélorussie, 1920–1939 / C. Woolhiser // Cahiers de l'Institut de Linguistique et des Sciences du Langage. 2003. № 14. P. 299–337.

# 4. АБМЕРКАВАННЕ ПРАВАПІСНАЙ ПРАБЛЕМАТЫКІ Ў 1920–1925 гг.

Пасля публікацыі ў 1918 г. у Вільні «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча і яе трыумфальнага прыняцця (у 1918–1920 гг. яна выдадзена тры разы) попыт на нармалізацыйныя працы ў галіне беларускага правапісу быў задаволены. Сітуацыя ў арфаграфіі стабілізавалася. Як сцвярджаў у канцы 1922 г. З. Бядуля, граматыка Б. Тарашкевіча «зрабіла вялікую ўдзячную работу і беларускім пісьменнікам, і беларускаму друкаванаму слову. У часопісах і кніжках скончылася пестрата і размаітасць формаў і правіл». Гэтай стабільнасці спрыяла і тая акалічнасць, што чацвёртае выданне граматыкі 1921 г. ужо не было толькі заходнебеларускім: яно было надрукавана немалым тыражом з падтрымкай Наркамата асветы БССР (у якасці месца выдання пазначаны Вільня, Берлін і Мінск).

З 1921 г. у Мінску сталі друкавацца і граматычныя дапаможнікі Я. Лёсіка, якія былі падрыхтаваны з апорай на падручнік Б. Тарашкевіча: «Практычная граматыка беларускае мовы. Курс першы» (1921), «Практычная граматыка. Частка I» (1922), «Практычная граматыка. Частка II» (1922), «Беларуская мова. Пачатковая граматыка» (1924), «Беларуская мова. Правапіс» (1924) і інш. Да 1924 г. правапіс Б. Тарашкевіча папулярызаваўся ў падручніках Я. Лёсіка без змен.

Б. Тарашкевіч лічыў, што ў працэсе падрыхтоўкі граматыкі трэба зафіксаваць тыя з’явы, якія аформіліся ў мове: «Граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо назначыла». Арыентацыя на шырокую дыялектную базу, увага да тагачаснай моўнай практыкі ў спалучэнні з нежаданнем Б. Тарашкевіча займацца моўным «праектаваннем» абумовілі адсутнасць крытычных водгукаў пасля выхаду яго пра-

цы. Такім чынам, у абедзвюх частках Беларусі ў першай палове 1920-х гг. былі ва ўжытку створаныя на аднолькавай аснове правапісна-граматычныя падручнікі Я. Лёсіка і Б. Тарашкевіча, што спрыяла пашырэнню і замацаванню ўніфікаванай моўнай практыкі.

Нармалізацыі беларускай мовы ў гэты час садзейнічала і актыўнае развіццё кнігадрукавання і перыядычных беларускамоўных выданняў.

Пры тым, што граматыка Б. Тарашкевіча надзвычай удала зафіксавала тагачасныя правапісныя нормы беларускай мовы, якія ў значнай ступені былі заснаваны на фанетычным прынцыпе правапісу, арфаграфія Б. Тарашкевіча тым не менш мела асобныя недахопы. Так, напрыклад, з пункту гледжання механізацыі пісьма нязручным магло лічыцца перанятае з дапаможнікаў яго папярэднікаў А. Луцкевіча і Я. Станкевіча правіла аб правапісе ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных у другім складзе перад націскам. У той час як у першым складзе перад націскам (як і ў сучасным правапісе) прапаноўвалася заўсёды пісаць *я* (*няма, вяду, невядомы*), правапісная рэалізацыя гука [э] пасля мяккіх зычных у другім складзе перад націскам магла вар'іраваць у залежнасці ад таго, які галосны гук знаходзіўся ў першым складзе перад націскам. Літара *я* тут павінна была пісацца толькі тады, калі ў першым пераднаціскным складзе былі гукі іншыя, чым [а]: *лясуна, нявучоны*. Калі ж у першым пераднаціскным складзе знаходзіўся гук [а], то тады ў другім пераднаціскным складзе на месцы ненаціскнога гука [э] пасля мяккіх зычных павінна была пісацца літара *е*: *цецярук, лесавік*. Гэта правіла ахоплівала і напісанне часціцы *не* і прыназоўніка *без*: *ня была, бяз дзіцяці*, але *не знайшла, не магу, не хачу, без мяне*.

Гэтаксама пры педантычным стаўленні да арфаграфіі складанасці выклікала правіла аб правапісе запазычаных слоў, асабліва ненаціскнога [о] у іх. Рэгулюючы напісанне гэтага разраду лексікі, Б. Тарашкевіч выдзеліў у беларускай мове, з аднаго боку, «словы, узятыя з чужое мовы даўно», а з другога – «словы, што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі або дайшлі нядаўна». Першая катэгорыя слоў павінна была прымаць правілы беларускай фанетыкі, а другая – захоўваць у сваім правапісе рысы, якія супярэчылі асаблівасцям беларускай фанетыкі. Апошні падыход назіраўся на прыкладах падпарадкавання правілу «акання» напісання ненаціскных [о] і [э], відаць, таксама пазначэння пры дапамозе спецыяльнай літары *ґ* выбухнога гука [ґ], напісання або ненапісання літары *ф* (гук [ф] у цэлым лічыўся неўласцівым беларускай мове). Так, лічылася, што словы тыпу *арганісты, камісія, калідор, літара, пратакол* вядомы ў беларускай мове даўно і падпарадкоўваюцца аканню, а словы тыпу *колёквіум, літэратура, монолёг, эволюцыя* – не. Прапаноўваліся напісанні *гара*, але *аґрэст; хунт, кахля, хваля* – але *форма, фронт, маніфэст*. У той жа час у правапісе запазычаных слоў не дапускалася дзеканне і цеканне (*аптэка, дынаміт, дэпо, студэнт,*

*тыран, тэатр*), абавязковае ў правапісе ўласных слоў. Агульны падзел запазычаных слоў, з аднаго боку, на старыя, засвоеныя і, з другога боку, новыя, незасвоеныя ў пэўным сэнсе быў матываваны, паколькі ён адлюстроўваў рэальна існуючую ў мове дыферэнцыяцыю. У нямецкамоўнай лінгвістыцы адпаведныя катэгорыі лексікі адрозніваюцца пры дапамозе пазначэння іх рознымі словамі – *Lehnwörter* (ад ням. *lehnen* 'запазычваць' і *Wörter* 'словы') і *Fremdwörter* (ад ням. *fremd* 'чужы' і *Wörter* 'словы'). Аднак на практыцы пры ўзнікненні патрэбы адрозніваць гэтыя разрады слоў існавалі цяжкасці ў аднясенні тых або іншых канкрэтных слоў да таго або іншага разраду, паколькі дакладных крытэрыяў такога размежавання не было.

У правапісе Б. Тарашкевіча існавалі таксама пункты, выкладзеныя пераважна паслядоўна, якія, аднак, пазней выклікалі крытыку. Сюды трэба залічыць правіла Б. Тарашкевіча аб пазначэнні на пісьме скарачэння (з асобнымі выключэннямі) гукаў [у] і [і] (прыназоўніка *у* і злучніка *і*, у прыватнасці) у пазіцыі пасля галосных гукаў: *зайшоў у лес*, але *прыйшла ў лес*; *брат і сястра*, але *баба й дзед*.

Акрамя падручнікаў Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка ў пачатку 1920-х гг. вядомы нешматлікія працы, прысвечаныя правапісу або графіцы. Да іх ліку належаць «Беларуская правапісь з практыкаваннямі» Я. Станкевіча (Вільня, 1921), яго ж чатырохстаронкавая брашура «Правапісь чужых словаў» (Вільня, 1921), а таксама артыкул Я. Лёсіка 1923 г. «У справе рэформы нашае азбукі».

У «Беларускай правапісі з практыкаваннямі» Я. Станкевіча не было ніякіх адхіленняў ад правапісных нормаў, выкладзеных у «Беларускай граматыцы для школ».

Зыходзячы з закладзеных Б. Тарашкевічам асноў правапісу запазычаных слоў у другой сваёй брашуры – «Правапісь чужых словаў» – Я. Станкевіч развіў некаторыя пункты, вельмі сцісла выкладзеныя ў Б. Тарашкевіча. Усе гэтыя пункты датычыліся магчымасці пашырэння кола запазычаных слоў, якія лічыліся засвоенымі. Кіруючыся агульным падзелам Б. Тарашкевіча запазычаных слоў на засвоеныя і менш засвоеныя, прынятым пераважна ў працэсе рэгулявання правапісу слоў з ненаціскным [о], Я. Станкевіч замацаваў аналагічны падыход і для вызначэння правапісу запазычаных слоў з гукамі [ф], выбухным [ґ], а таксама лексем са складамі [пэ], [бэ], [сэ], [мэ], [нэ], [вэ], [гэ]. Калі адпаведныя словы лічыліся добра засвоенымі беларускай мовай, то ў іх маглі пісацца спалучэнне *хв*, літары *х* або *п* (*хвабрыка, хварба, хунт, Піліп, Панас*), выбухны [ґ] на пісьме мог не пазначацца пры дапамозе спецыяльнай літары, маглі пісацца спалучэнні *пе, бе, се, ме, не, ве, ге*.

Зыходзячы з таго, што некаторыя літары беларускага алфавіта нібыта «зусім не адпавядалі» гукам беларускай мовы і сам алфавіт меў «няправільны, грубы, а часам і брыдкі выгляд», у артыкуле «У справе рэформы нашае азбукі», надрукаваным у газеце «Савецкая Беларусь», Я. Лёсік рэкамендаваў

выкарыстоўваць замест літары *э* знак *є*, а замест *ы* – *и*. Літару *й* аўтар артыкула прапаноўваў замяніць знакам «ёт» (*j*), а таксама спецыяльнымі літарамі ʒ і ǯ або д̆ і ӂ дыграфы *дз* і *дж*.

Выказаныя ў артыкуле Я. Лёсіка прапановы былі разгледжаны на спецыяльным пасяджэнні ў Інбелкульце, дзе не былі падтрыманы. У друку не з'явілася ніякай рэакцыі на прапановы змяніць алфавіт. Сам Я. Лёсік пазней справядліва меркаваў, што прычынай непрыхільнасці да яго прапаноў была сфарміраваная к 1923 г. прывычка да ўжыванага тады алфавіта.

З 1924 г. Я. Лёсік пачаў уводзіць у свае падручнікі некаторыя змены. Напрыклад, у выданне дапаможніка «Беларуская мова. Правапіс» у якасці самастойнага раздзела быў уключаны параграф «Правапіс чужаземных слоў». У параўнанні з граматыкай Б. Тарашкевіча ён, аднак, меў толькі мінімальныя дапаўненні; сур'ёзнай зменай у ім можна лічыць толькі спецыяльны пункт аб выкарыстанні ў беларускай мове прыметнікавых назоўнікаў на *-істы / -ысты* тыпу *арганісты, алтарысты, комуністы, капіталісты*. (Гэта прадпісанне аказалася даволі паспяховым: аж да 1930 г. ці часам нават пазней прыметнікавыя назоўнікі фактычна выцеснілі ў беларускай літаратурнай мове назоўнікі тыпу *арганіст, алтарыст, комуніст, капіталіст*.) Увогуле ж, у прадмове да гэтай кнігі Я. Лёсік сцвярджаў, што Б. Тарашкевіч у сваёй граматыцы прапанаваў «стала й дакладна апрацаваны правапіс <...> Можна з пэўнасцю сказаць, што правапіс гэты, паступова выправіўшы некаторыя драбніцы, у аснове сваёй застанецца нязменным».

Асобныя заўвагі наконт тых або іншых правіл выказвалі ў гэты час аўтары рэцэнзій на розныя падручнікі Я. Лёсіка. Напрыклад, у 1924 г. рэцэнзент дапаможніка «Беларуская мова. Правапіс» раскрытыкаваў аўтара за прыватныя моманты правіла, датычнага магчымасці скарачаць гук [і]. Падобна да Б. Тарашкевіча ў Я. Лёсіка сцвярджалася, што ў розных пазіцыях гук [і] скарачаецца «не заўсёды і толькі дзеля складнасці», аднак аўтар рэцэнзіі напісаў, што ў выпадку такой фармулёўкі можна лічыць, што правіла адносна напісання гэтага гука ўвогуле не існуе. Усумніўся рэцэнзент таксама ў магчымасці аб'ектыўна размежаваць засвоеныя і незасвоеныя беларускай мовай запазычаныя словы: «...дзе больш-менш аб'ектыўны крытэрый ужывальнасці або неўжывальнасці слова ў масах народу?». Аўтар рэцэнзіі залічыў да нелітаратурнай пададзеную Я. Лёсікам форму *левальвэр*, пакрытыкаваў адсутнасць крытэрыяў пры рэгуляванні напісання ў запазычаных словах літар *ф, п, т* і зрабіў дакор у сувязі з тым, што ў падручніку зусім абмінуты правапіс складаных слоў. Нягледзячы на ў цэлым вельмі прыхільную ацэнку падручніка, рэцэнзент тым не менш сцвярджаў, што гэты дапаможнік не можа лічыцца абавязковым для выкарыстання.

У 1925 г. у часопісе «Полымя» Я. Лёсік надрукаваў артыкул «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу». Гэта была першая публікацыя ў тагачасным

друку, у якой на больш ці менш сістэматычнай аснове рабілася спроба асэнсаваць недахопы правапісу. У сваім артыкуле Я. Лёсік займаўся пошукам больш рацыянальнага, на яго думку, спосабу перадачы на пісьме гукаў [і] і [у], а таксама распрацоўкай правапісу складаных і чужаземных слоў. З'яўленне гэтай публікацыі было ў значнай ступені адказам на прыведзеныя вышэй заўвагі на адрас аднаго з яго дапаможнікаў: у артыкуле разглядаліся фактычна толькі тыя з'явы, якія выклікалі крытыку.

У дачыненні да правапісу гукаў [і] і [у] агульным падыходам у Я. Лёсіка была патрэба ўгрунтаваць іх напісанне на лепш адрозных прынцыпах у параўнанні з тым, што было зафіксавана ў граматыцы Б. Тарашкевіча. Адносна правапісу [у] Я. Лёсік меркаваў, што трэба ў асноўным захаваць ранейшую рэдакцыю гэтага правіла, аднак прапанаваў зрабіць выключэнні аб нескарачэнні пачатковага *у* пасля канцавых галосных у словах *увага, уважліва, умова, угода, урад, урадовы, упадак, уклад, уціск, ухвала, устава*, а таксама ў запазычаных словах тыпу *універсітэт, універсал, узурпатар*. У дачыненні да правапісу *і* Я. Лёсік прапанаваў неаднолькавыя і, згодна з уласнай ацэнкай, «труднейшыя» ў параўнанні з правапісам *у* падыходы ў залежнасці ад таго, ці быў *і* злучнікам або часціцай. Акрамя таго, што ў такім выпадку пры вызначэнні напісання трэба было адрозніваць злучнікі і часціцы, у абодвух выпадках у якасці альтэрнатыўных прапаноўваліся як «поўныя», так і «скарочаныя» напісанні. Напрыклад, аднародныя члены сказа, першы з якіх заканчваўся на галосную літару, павінны былі злучацца пры дапамозе злучніка *й*: *бацька й маці вярнуліся з поля*. Калі ж паміж аднароднымі членамі стаяў нейкі іншы член сказа (Я. Лёсік называў яго «паясняльным словам») або калі пры пералічэнні рабіўся «перапынак у голасе», тады меў пісацца злучнік *і*: *Яны разам вучыліся і разам пасвілі скацінку; Тут былі – і старыя, і малыя, і бабы, і дзеці*. Але не толькі злучнік *і*, але і ўзмацняльная часціца *і*, згодна з Я. Лёсікам, магла пісацца як у «поўным», так і ў «скарочаным» выглядзе: *Вот табе й на!*, але *Аднаму і ў кашы не спорна*. Прыведзеныя ў артыкуле ілюстрацыі паказваюць, што адрозніць часціцу *і* ад злучніка *і* часам бывае няпроста. Праектаваныя прадпісанні Я. Лёсіка наконт правапісу *і* былі занадта складанымі.

Удасканальваючы правапіс складаных слоў, Я. Лёсік зыходзіў з таго, што існуе патрэба пашырыць выпрацаваны Б. Тарашкевічам прынцып напісання складаных лічэбнікаў на ўсе складаныя словы.

Калі з закідамі колішняга рэцэнзента наконт нераспрацаванасці правапісу *і* і складаных слоў Я. Лёсік згадзіўся, то ранейшую крытыку адносна невыразнасці крытэрыю размежавання адаптаваных і неадаптаваных запазычаных слоў ён адхіліў. Правіла, згодна з якім галосны *о* ў запазычаных словах у значнай меры не павінен быў падпарадкоўвацца заканамернасцям беларускай мовы, у канцы 1910-х – першай палове 1920-х гг. было не толькі

меркаваннем Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка, яго трымаліся і іншыя тагачасныя кадыфікатары беларускай мовы, А. Луцкевіч і Я. Станкевіч. Грунтуючыся на выпрацаваных Б. Тарашкевічам падыходах, а таксама выкарыстоўваючы правілы напісання запазычаных слоў ва ўкраінскім правапісе, Я. Лёсік прапанаваў шэраг уласных правіл, якія ўдала разбудоўвалі сістэму напісання запазычаных слоў, вельмі коратка выкладзеную ў Б. Тарашкевіча і толькі нязначна ўдакладненую Я. Станкевічам. Асобныя словы і арфаграмы, якія ў Б. Тарашкевіча лічыліся неадаптаванымі (*дырэктар* і *літэратура*) або наконт якіх аўтар «Беларускай граматыкі для школ» непасрэдна не выказваўся, Я. Лёсік перавёў у разрад «абеларушаных» (*дарэктар* і *літаратура*; напісанне *е* пасля *г* і *к* у запазычаных словах – *агент, евангелія, генерал, геніяльны, анкета, банкет* і інш.).

Акрамя крытыкі суб'ектыўнасці крытэрыю выдзялення абеларушаных і неабеларушаных слоў, Я. Лёсік аспрэчыў і крытыку ў сувязі з залічэннем у літаратурныя слова *левальвэр*. Як адаптаваная падобная форма (*леварвэр*) фігуравала яшчэ ў Б. Тарашкевіча. У сваім артыкуле Я. Лёсік растлумачыў, што словы з перастаноўкамі складоў (тыпу рус. *тарелка* і *ладонь*) могуць станавіцца літаратурнымі. Аднак, адхіліўшы падыход свайго крытыка падчас напісання артыкула, трохі пазней, рыхтуючы новае выданне свайго правапісу, Я. Лёсік улічыў гэтую заўвагу. На ўзор свайго рэцэнзента некаторыя фанетычна трансфармаваныя замежныя словы ён кваліфікаваў як «вульгарызаваныя формы» і папярэдзіў чытачоў, што замест іх (верагодна, падразумяваліся формы *дохтар, аблакат, фэршал* або *хвэршал, лісапэт*) трэба пісаць *доктар, адвакат, фэльдшар, аэроплян, вэлёсыпэд*.

У новым выданні правапісу 1925 г. Я. Лёсіка знайшлі адлюстраванне некаторыя яго погляды, выказаныя ў артыкуле «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу». Так, у падручнік былі ўключаны апошнія меркаванні наконт правапісу запазычаных слоў, а таксама спецыяльны параграф, прысвечаны правапісу складаных слоў. Згодна з поглядамі на правапіс *у* і *і* ў «Беларускім правапісе» 1925 г. Я. Лёсіка з'явіліся таксама некаторыя змены і ў параграфах, прысвечаных перадачы на пісьме адпаведных гукаў. Напрыклад, было ўнесена выключэнне адносна немагчымасці скарачаць пачатковае *у* ў словах *увага, уважны, угода, умова, урад, упадак, уціск, уклад, ухвала*, а таксама ў запазычаных словах *універсітэт, універсал, узурпатар* і інш. Былі ўведзены некаторыя правілы, якія абмяжоўвалі магчымасць скарачаць злучнік *і* ў пазіцыі пасля галосных. Тая акалічнасць, што праектаваныя змены ў правапісе не толькі абмяркоўваліся ў часопісных артыкулах, але і – явачным парадкам – уводзіліся ў падручнік, стварыла новую сітуацыю ў працэсе рэгулявання правапісу і яго грамадскай ацэнцы.

У канцы зімы 1925 г. у Інбелкульце пачала працаваць правапісна-тэрміналагічная камісія, старшынёй якой быў зацверджаны Я. Лёсік. Камісія

пастанавіла «прыступіць да ўстанаўлення прынцыпаў правапісу чужаземных слоў і адначасна весці работу па ўкладанню слоўніка гэтых слоў».

На адрозненне ад публікацыі 1923 г. аб рэформе алфавіта беларускай мовы артыкул «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» быў неабыякава сустрэты лінгвістычнай грамадскасцю. Крытычны водгук на яго пад загалоўкам «Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу (Адказ на артыкул Я. Лёсіка)» у 7-м нумары часопіса «Полымя» за 1925 г. надрукаваў Анатоль Багдановіч, у якім ён аспрэчыў шэраг палажэнняў і прапаноў Я. Лёсіка.

Так, А. Багдановіч выказаў заўвагу адносна мэтазгоднасці ўводзіць выключэнні для правіла аб напісанні *у* ў часціцы, датычнай спецыяльнага статусу слоў *увага, уважліва, умова, угода, урад* і інш. Не згадзіўся аўтар артыкула «Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу...» і са спробай размежаваць правапіс *й* і *ў*; перапрацоўка Я. Лёсікам правіла аб правапісе гукаў [у] і [і], на думку А. Багдановіча, «нікольκі не палепшыла» яго. А. Багдановіч перасцярог ад дэклараванага Я. Лёсікам імкнення будаваць правілы на строга навуковых падставах, бо такі падыход, паводле яго справядлівага меркавання, мог занадта ўскладніць правапіс. На яго думку, недахопам прапаноў Я. Лёсіка быў якраз недастатковы ўлік практычнага боку выкарыстання арфаграфіі.

Пярэчанні з боку А. Багдановіча выклікала таксама пазіцыя, згодна з якой пры напісанні запазычаных слоў захоўвала сілу размежаванне замежных слоў на адаптаваныя і неадаптаваныя. А. Багдановіч адзначыў няпэўнасць гэтага падзелу і сцвердзіў, што больш правільным быў бы «шлях абеларушвання патрэбных для шырокіх мас чужаземных слоў у літаратурнай мове».

Не згадзіўся А. Багдановіч і з адвольным, на яго думку, вылучэннем сярод запазычаных слоў «вульгарызаваных» формаў тыпу *фэршал* (або *хвэршал), дохтар, левальвэр* і процістаўленнем іх літаратурным формам *фэльчар*, *доктар*, *рэвальвэр*. Крытык лічыў, што ў беларускай сітуацыі трэба вельмі асцярожна карыстацца тэрмінам «вульгарызм», бо раней у рускай літаратурнай мове вульгарызмам лічылася кожнае беларускае слова; тады тэрмін *вульгарызм* фактычна азначаў ‘слова, якое ўжывае «просты народ»’.

У цэлым артыкул А. Багдановіча можна характарызаваць як кансерватыўны: аўтар лічыў непажаданым уводзіць змены ў выдадзены ў 1925 г. «Беларускі правапіс» Я. Лёсіка, які ён лічыў зусім аўтарытэтным кодэксам. Сваёй публікацыяй А. Багдановіч імкнуўся знізіць крытычны пафас у дачыненні да дзейнага правапісу, які выразна прысутнічаў у артыкуле Я. Лёсіка.

Іншыя беларускія мовазнаўцы ў гэты час таксама імкнуліся абмежаваць спробы рэфармаваць правапіс. Некаторыя лінгвісты не толькі пярэчылі супраць прапаноў Я. Лёсіка, але і не падтрымлівалі саму ініцыятыву рэфармаваць правапіс, карыстаючыся інструментам грамадскай дыскусіі.

Між тым правіла аб аканні ў замежных словах у версіі Б. Тарашкевіча пачало ўсё часцей ігнаравацца на практыцы. Калі ў 1926 г. выйшла з друку другое выданне «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» М. Байкова і М. Гарэцкага, у ім, на адрозненне ад першага выдання 1924 г., было адлюстравана пашырэнне акання на ўсе запазычаныя словы. Спасылаючыся на гэтую акалічнасць, у пачатку 1926 г. рэдакцыя часопіса «Асвета» ў спецыяльнай заяве абвясціла, што ў сваёй практыцы яна адмаўляецца праводзіць размежаванне запазычаных слоў на абеларушаныя і неабеларушаныя і любы ненаціскны *о* ў запазычаных словах будзе перадаваць праз *а*.

Усё ж па меры пашырэння грамадскай дыскусіі ў канцы 1925 г. у асяроддзі лінгвістаў паступова пачала фарміравацца думка аб магчымасці ўвядзення некаторых зменаў у правапіс. Калі ў 1926 г. Л. Цвяткоў падрыхтаваў справаздачу са сходу мовазнаўча-літаратурнай секцыі Інбелкульта (адбыўся 12 красавіка 1926 г.), то аб патрэбе «рэвізаваць» правапіс і графіку ў ёй гаварылася ўжо як аб вырашанай справе. Згодна з Л. Цвятковым, пытанне рэформы правапісу ў гэты час мела вялікае сацыяльнае значэнне, паколькі нескладаны ў засваенні правапіс значна аблягчаў бы доступ да культуры шырокім народным масам. У Беларусі, паводле аўтара справаздачы, сітуацыя для правядзення такой рэформы была спрыяльная, паколькі арфаграфічная традыцыя была непрацяглай. Праблемнымі пунктамі тагачаснай графікі і правапісу прызнаваліся выкарыстанне дыграфаў для афрыкат [дз] і [дж], залежнасць напісання літар *е* або *я* ў другім складзе перад націскам ад якасці першага пераднаціскнога галоснага і інш. На гэтым сходзе Я. Лёсік прапанаваў адмовіцца ад выключэння аб непазначэнні асіміляцыі свісцячых перад заднеязычнымі *г, к, х* (пісаць: *зьгінуць, ськінуць, сьхіліцца*, як і *сьліва, зьмена, дзьверы*) або, наадварот, адмовіцца ад напісання мяккага знака ў гэтай пазіцыі ўвогуле (пісаць: *згінуць, скінуць, сліва, змена, дзверы* і да т. п.).

Аднак галоўным пунктам сутыкнення на гэтым сходзе было пытанне аб аканні ў запазычаных словах. На сходзе быў заслуханы даклад С. Некрашэвіча аб неабходнасці пашырыць прынцып акання на замежныя словы, а таксама судаклад Я. Лёсіка аб захаванні існуючага парадку рэчаў. Галасаванне паказала, што большасць супрацоўнікаў секцыі, а таксама пабочных удзельнікаў сходу падтрымлівалі пазіцыю С. Некрашэвіча.

Тым не менш неўзабаве пасля гэтага сходу навуковая рада Інбелкульта прыняла пастанову аб захаванні напісання *о* ў ненаціскных складах малапашыраных замежных слоў і даручыла Правапісна-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта на чале з Я. Лёсікам падрыхтаваць пералік адаптаваных запазычаных слоў. Паводле С. Некрашэвіча, пастанова рады Інбелкульта была прынята ў яго адсутнасць пасля заслухоўвання даклада Я. Лёсіка; іншыя меркаванні, згодна са сведчаннем С. Некрашэвіча, на пасяджэнні рады не разглядаліся.

У падобных кроках можна бачыць у тым ліку вынік нейкіх пазанавуковых меркаванняў і дзеянняў, барацьбу паміж канкрэтнымі асобамі. Дзейнасць Правапісна-тэрміналагічнай камісіі аднавілася ў канцы зімы 1925 г., на сваім пасяджэнні 26 лютага 1925 г. камісія ўжо пастанаўляла заняцца правапісам чужаземных слоў і рыхтаваць правапісны слоўнік такіх слоў. Сам факт таго, што з лютага 1925 г. па красавік 1926 г. камісія не склала слоўніка адаптаваных запазычаных слоў, сведчыў пра тое, што пастаўленая ў лютым 1925 г. задача была не выканана. У красавіку 1926 г. Правапісна-тэрміналагічнай камісіі было даручана таксама падрыхтаваць пытанне рэформы правапісу ў цэлым. Адказваючы на гэту пастанову, камісія папярэдне рэкамендавала ўсім карыстальнікам беларускай мовы ўстрымацца ад зменаў правапісу да той пары, пакуль гэта пытанне не будзе вырашана аўтарытэтным навуковым органам.

У 1926 г. С. Некрашэвіч апублікаваў артыкул «Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы», у аснове якога ляжаў яго ранейшы даклад. Згодна з аўтарам, вылучэнне сярод арфаграфічных правіл пункта аб неадаптаванні запазычаных слоў да агульных правіл правапісу азначала б падзел беларускай мовы на дзве: народную і літаратурную. У народнай мове такая дыферэнцыяцыя не праводзіцца, а ў літаратурнай праводзілася б. Між тым, на яго думку, такі падзел пры фарміраванні беларускай літаратурнай мовы быў бы вельмі непажаданым: «Мы павінны імкнуцца, каб простая мужыцкая мова разам з тым была і мовай кніжнай (літаратурнай) <...> Адзінства народнай і кніжнай мовы павінна быць ідэалам пры развіцці нашай мовы». Паколькі захаванне ненаціскнога *о* пры напісанні запазычаных слоў, паводле С. Некрашэвіча, падрывала такое адзінства, то ад яго патрэбна было б адмовіцца. С. Некрашэвіч адхіліў розныя довады прыхільнікаў захавання ненаціскнога *о* і прыйшоў да высновы, што «оканне супярэчыць законам нармальнага развіцця нашай мовы». Адначасова С. Некрашэвіч выказаў сваё меркаванне і адносна правіла перадачы ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных, сцвердзіўшы, што яно «патрабуе хуткага перагляду ў бок яго большай праўдзівасці жывому вымаўленню і, галоўным чынам, прастаты».

Пасля пастановы навуковай рады Інбелкульта вясной 1926 г., датычнай працы Правапіснай камісіі, у дзейнасці ў напрамку рэфармавання арфаграфіі ўсё больш стаў нарастаць яе грамадска-прапагандысцкі характар. Каб задаволіць патрэбу ўліку грамадскай думкі – «голасу настаўніцтва, беларускага студэнцтва і ўсяго грамадскага актыву», – у Інбелкульце штотыдзень сталі адбывацца пашыраныя сходы секцыі мовы і літаратуры, на якіх абмяркоўваліся пытанні правапісу. Як сведчыў пазней Я. Лёсік, гэтыя сходы былі самымі шматлюднымі з тых, якія адбываліся ў Інбелкульце. На адным з першых такіх сходаў Я. Лёсік прачытаў даклад, у якім адстойваў прапанову аб забароне перадаваць злучнік *і* ў выглядзе *й*. На гэтых сходах паступова былі

вызначаны некаторыя змены, якія меркавалася рэалізаваць. У прыватнасці, была падтрымана ініцыятыва Я. Лёсіка (забараняліся напісанні тыпу *баба й дзед*). Таксама было прынята рашэнне аб перадачы ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных у выглядзе *я* толькі ў першым складзе перад націскам. На адным са сходаў была прынята пастанова аб патрэбе адмяніць уведзенае Я. Лёсікам выключэнне аб немагчымасці скарачаць пачатковае *у* ў словах *урад, установа* і інш.

З прапановамі на гэтых сходах неаднойчы выступалі настаўнікі; пры гэтым, згодна з Л. Цвятковым, асаблівасцю іх поглядаў быў «надзвычайны радыкалізм». Напрыклад, частка настаўнікаў лічыла, што правапіс гукаў у замежных словах не павінен быў адрозніваецца ад правапісу гукаў у беларускіх словах. Такі падыход быў у значнай меры ўтапічным, бо ў шэрагу выпадкаў захаваць арыгінальнае вымаўленне было немагчыма.

Іншым (і, паводле Л. Цвяткова, найбольш пашыраным) падыходам у пытанні правапісу галосных у замежных словах было імкненне захаваць падзел на засвоеныя і незасвоеныя запазычанні. У чэрвені 1926 г. гэты падыход быў кваліфікаваны Л. Цвятковым як напрамак «Лёсіка, Чаржынскага, Круталевіча, а магчыма, і большасці іншых навуковых працаўнікоў». Найбольш шанцаў, на думку Л. Цвяткова, меў «напрамак Некрашэвіча і Байкова – кампраміс паміж этымалогіяй і фанетыкаю: аканню ў чужаземных словах падлягае толькі *о*».

У правапісе запазычаных слоў дыскутанты найбольшую ўвагу звярталі на перадачу на пісьме ненаціскнога *о* (*социяльны – сацыяльны*), многа менш – на ненаціскное *е* (*аканом – эканом, аргумэнтаваць – аргумантаваць, тэстамэнт – тастамант, рэдакцыя – радакцыя* і пад.) і фактычна зусім не абмяркоўвалі правапісу слоў з [ф], хоць розныя даведнікі супярэчліва трактавалі канкрэтныя словы. Напрыклад, у дапаможніку «Граматыка беларускае мовы. Фанетыка» 1926 г. Я. Лёсіка зазначалася, што гук [ф] у звычайных беларускіх словах вымаўляюць «толькі людзі, граматныя па-расійску або па-польску» (*Філіп, фурманка, фунт, фарба, фэст, фасоля, картофля*), аднак у «чужаземна-кніжных» і некаторых новых словах гук [ф] выступае як заканамернасць*: географія, морфолёгія, філёзофія, фотографія, фігура, форма, фронт, фабрыка, француз, афіцэр, фэльчар, торф*. «Ува ўсіх іншых чужаземных словах», згодна з Я. Лёсікам, выступаюць гукі *п, х, хв*: *картопля, пантопля, шупляда, кухэрак – купэрак* ‘куфэрак’*, портка – хвортка* ‘фортка’*, хунт, хурман, хурманка, кахля, хвартух, хвабрыка, ахвіцэр, хвамілія, хвігура*. (У дачыненні да чатырох апошніх слоў адзначалася, што яны нелітаратурныя.) Правапіс слоў *фунт, фурманка, картофля* быў пададзены тут і з літарай *ф*, і без яе. З такога выкладання было няясна, напрыклад, ці з’яўляліся прымальнымі пашыраныя ў тагачасным друку напісанні *фарба, фэст, фасоля*, якія формы былі нарматыўнымі ў выпадку існавання варыянтаў

*кухэрак / купэрак, портка / хвортка* і які дакладна статус мелі словы *хвабрыка, ахвіцэр, хвамілія, хвігура.* У «Беларуска-расійскім слоўніку» 1926 г. М. Байкова і С. Некрашэвіча таксама адны словы былі пададзены з заменай гука [ф] (*грап* 'граф'*, грапіня* 'графіня', *картопля, кахля* 'кафля', *кухаль, пляха* 'фляга', *пранцуз* 'француз'*, хвалда, хвальварак, хвортка, хутровы*), іншыя – з гэтым гукам (*гарфа* 'веялка для зерня', *гафтаваць* 'вышываць', *куфар, парфума, парафіна, фабрыка, фарбаваць, фартух, фэльчар*); частка лексем была прадстаўлена ў варыянтным выглядзе (*кухва* і *куфа* 'чан'*, парафія* і *парахвія, хванабэрыя* і *фанабэрыя, хвіга* і *фіга, хутра* і *футра*). К часу выдання гэтымі ж аўтарамі ў 1928 г. руска-беларускага слоўніка гук [ф] стаў адзначацца больш паслядоўна: *граф – граф*, *грап*; *калитка – фортка*; *фига – фіга*; *хутор – фальварак*; *чан – куфа*; *чванство – фанабэрыя*.

У сярэдзіне 1926 г. Я. Лёсік стаў узмацняць сваю крытыку правапісу Б. Тарашкевіча. Як сведчыў адзін з назіральнікаў у нататцы, апублікаванай у часопісе «Асвета», у канцы мая – пачатку чэрвеня 1926 г. Я. Лёсік рашуча прадэманстраваў сваю «безумоўную варожасць» да прынцыпаў існуючага правапісу. У гэты час Я. Лёсік сумесна з братам Антонам надрукаваў у часопісах «Асвета» і «Полымя» праект рэфармаванага правапісу. Згодна з адным з сучаснікаў, публікацыя праекта выклікала «шырокую дыскусію, якою зацікавілася ўсё беларускае грамадзянства». На думку гэтага ж назіральніка, пазіцыя Я. Лёсіка поруч з пазіцыяй С. Некрашэвіча мела найбольшае значэнне для настрою грамадскасці. Аўтар нататкі паведамляў аб будучай канферэнцыі з нагоды правапісу і прадказваў, што будучая рэформа «будзе мець усё-ткі больш-менш характар кампрамісу».

Між тым некаторыя мовазнаўцы з-за межаў Беларусі зацікавіліся пытаннем «рэвізіі» беларускага алфавіта. Прафесар Маскоўскага ўніверсітэта П. Растаргуеў летам 1926 г. меў зрабіць у Інбелкульце даклад аб рэформе графікі. Пытанне неабходнасці рэфармаваць беларускі правапіс паступова авалодвала даволі шырокімі коламі гуманітарнай інтэлігенцыі; у адной з публікацый сцвярджалася, што «патрабуе рэвізіі правапісу ўсё грамадзянства».

Кіруючыся патрэбай пры рэфармаванні правапісу «ўжыць некаторую рэвалюцыйнасць», у свой сумесны з братам Антонам праект Я. Лёсік уключыў пункты аб нязменным напісанні прыназоўніка *у* (напісанні тыпу *зайсці ў ваду* забараняліся), скасаванні пазначэння на пісьме асіміляцыйнага змякчэння свісцячых перад наступнымі мяккімі зычнымі (*звер, снег, цвет* замест *зьвер, сьнег. цьвет*), напісанні канчатка *-і* ў формах меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў тыпу *на дубі, на беразі, на парозі, на балоці*, неабходнасці перадаваць любое ненаціскное *е* пасля мяккіх зычных праз літару *я* і інш. Паколькі некаторыя прапановы братоў Лёсікаў былі даволі радыкальнымі, а агітацыя за іх – вельмі актыўнай, 1 ліпеня 1926 г. «у мэтах адзінства правапісу» навуковая рада Інбелкульта пастанавіла стварыць для разгляду праекта спецыяльную

камісію пад старшынствам навуковага сакратара Інбелкульта А. Цвікевіча. У камісію ўвайшлі А. Цвікевіч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, Б. Эпімах-Шыпіла, У. Чаржынскі, А. Багдановіч і П. Бузук. Камісія ацаніла праект братоў Лёсікаў адмоўна, аднак адносна пытання, як канкрэтна трэба было рэфармаваць правапіс, да згоды не прыйшла. Нарэшце, «паколькі пытанне аб рэформе беларускага правапісу пашырылася ў самыя шырокія масы нашага настаўніцтва і такім чынам параджала непатрэбныя і шкадлівыя аб правапісе спрэчкі», а таксама па іншых прычынах, пра якія гаворка будзе ісці ніжэй (гл. раздзел 5), прэзідыум Інбелкульта прыняў рашэнне аб скліканні міжнароднай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу і азбукі.

У верасні 1926 г. у шасці нумарах газеты «Савецкая Беларусь» быў надрукаваны чарговы артыкул Я. Лёсіка аб урэгуляванні правапісу. У публікацыі выказваліся некаторыя прапановы, з якімі аўтар выступаў і раней: абмежаваць выкарыстанне нескладовага *у* і *й*, «выходзячы з эканоміі ў часе і паперы», адмовіцца ад пазначэння асіміляцыйнага змякчэння свісцячых, перадаваць любое ненаціскное *е* ў беларускіх словах літарай *я*. Аднак у артыкуле былі сфармуляваны і некаторыя новыя прапановы, напрыклад вымога кіравацца фанетычным прынцыпам пры напісанні зычных (пісаць *баісься, турбуесься; люцкі, гарацкі, швэцкі; мёт, хлеп, ношка, калотка*).

Пытанне аб правапісе разглядалася на Усебеларускай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі (адбылася 20–24 верасня 1926 г. у Мінску), на якой прысутнічала больш за 100 настаўнікаў. Заслухаўшы даклад Я. Лёсіка аб рэформе правапісу і судаклад І. Ваўка-Левановіча, канферэнцыя пераважнай большасцю галасоў прыняла пастанову, заснаваную пераважна на прапановах Я. Лёсіка. У ёй былі зафіксаваны наступныя пункты:

– прызнана «канечная і безадкладная» неабходнасць у рэформе правапісу;

– прызнана патрэбным правесці поўнасцю фанетычны прынцып у напісанні галосных гукаў і пашырыць фанетычны прынцып у напісанні зычных;

– пастаноўлена не пісаць нескладовае *у* і *й* у пачатку слова, а таксама тады, калі *у* з'яўляецца прыназоўнікам, а *і* – злучнікам;

– пастаноўлена не разглядаць правапіс запазычаных слоў і перадаць яго на вырашэнне Акадэмічнай канферэнцыі.

Такім чынам, летам – у пачатку восені 1926 г. Я. Лёсік працягваў прасоўваць некаторыя свае ранейшыя (у тым ліку непадтрыманыя ў працэсе папярэдняй дыскусіі) прапановы і вылучаў новыя ініцыятывы.

15 кастрычніка 1926 г. рэзалюцыю аб патрэбе правесці рэформу правапісу прыняў таксама агульны сход студэнтаў Вышэйшых курсаў беларусазнаўства. Сход далучыўся да рэзалюцыі літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі, дадаўшы да пералічаных вышэй пунктаў неабходнасць абазначаць афрыкаты [дз] і [дж] спецыяльна створанымі новымі літарамі.

Апанент Я. Лёсіка на літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі І. Воўк-Левановіч аспрэчыў у друку погляды, засведчаныя ў прынятай на гэтым форуме рэзалюцыі. У сваім водгуку ён звярнуў увагу на тое, што прыхільнікі перадачы любога ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных праз літару *я* зусім забыліся аб тым «фанетычным прынцыпе», які яны нібыта самі абаранялі. І. Воўк-Левановіч назваў Я. Лёсіка «правадыром крайніх спрашчэнцаў», зазначыўшы, што ў выпадку поўнага правядзення на пісьме фанетычнага прынцыпу аблягчэння ў напісанні не адбылося б. Згодна з І. Ваўком-Левановічам, у беларускім правапісе кожнае ненаціскное *о* ў запазычаных словах трэба было перадаваць праз *а*, ненаціскное *е* пасля мяккіх зычных пазначаць толькі ў першым складзе перад націскам, нязменна пісаць адмоўную часціцу *не*.

Як відаць, разгортванне дыскусіі аб правапісе ў 1925–1926 гг. пастаянна падштурхоўвалася фактычна адным чалавекам – Я. Лёсікам. Ён лічыў патрэбным замяніць у беларускім алфавіце літары *э, ы, й*, рэвізаваць перадачу на пісьме злучніка *і* і прыназоўніка *у*, распрацоўваў правапіс складаных і чужаземных слоў, прапаноўваў адмовіцца ад пазначэння асіміляцыйнай мяккасці на пісьме. У 1925 г. асобныя з вылучаных ім зменаў Я. Лёсік увёў у свой правапісны падручнік, летам 1926 г. ініцыяваў таксама патрэбу рэалізаваць на пісьме прынцып «поўнага акання» і пашырыць фанетычны прынцып на напісанне зычных. С. Некрашэвіч паставіў пытанне аб неабходнасці любое ненаціскное *о* ў замежных словах перадаваць пры дапамозе *а*, а таксама спрасціць правіла аб правапісе *е* ненаціскнога. Салідарным меркаваннем многіх мовазнаўцаў гэтага часу была патрэба ўвесці ў беларускі алфавіт спецыяльныя літары для пазначэння афрыкат [дз] і [дж]. На першым этапе разгортвання дыскусіі некаторыя лінгвісты не хацелі надаваць ёй шырокага грамадскага характару. Пасля правядзення ў Інбелкульце некалькіх пашыраных пасяджэнняў секцыі мовы і літаратуры, публікацыі Я. Лёсікам летам 1926 г. спецыяльнага праекта і пастановы прэзідыума Інбелкульта аб скліканні канферэнцыі па правапісе арфаграфічная праблема набыла выразны грамадскі характар.

**Пытанні для самакантролю**

1. Якія недахопы былі ўласцівы правапіснаму рэгуляванню, засведчанаму ў «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча 1918 г.?

2. Якое палажэнне «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча палічыў асабліва важным Я. Станкевіч падчас падрыхтоўкі сваёй брашуры 1921 г. «Правапісь чужых слоў»?

3. Якія правілы беларускага правапісу палічыў неадрэгуляванымі Я. Лёсік у артыкуле 1925 г. «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу»?

4. Чаму А. Багдановіч і іншыя мовазнаўцы не лічылі патрэбным уносіць істотныя змены ў існуючы правапіс?

5. Якія акалічнасці спрыялі выразнай пастаноўцы пытання аб рэфармаванні падыходу Б. Тарашкевіча, згодна з якім запазычаныя словы дзяліліся на больш і менш засвоеныя беларускай мовай?

6. Чаму Правапісна-тэрміналагічная камісія Інстытута беларускай культуры не змагла ўкласці правапісны слоўнік запазычаных слоў?

7. Якое значэнне для засваення грамадствам правапіснай тэматыкі мелі рэгулярныя пашыраныя сходы секцыі мовы і літаратуры Інбелкульта?

8. Хто найбольш актыўна ініцыяваў змены ў правапісе ў 1925–1926 гг.?

9. К якому часу дыскусія аб правапісных зменах разгарнулася належным чынам?

## Рэкамендаваная літаратура

Ад рэдакцыі // Асвета. 1926. № 1, 2 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 189.

*Багдановіч*, *А.* Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу / А. Багдановіч // Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 178–188.

Выбраныя навуковыя працы акадэміка С. М. Некрашэвіча. Мінск, 2004. С. 23–40.

*Лёсік*, *Я.* 1921–1930. Збор твораў / Я. Лёсік. Мінск, 2003. С. 100–106, 177–192, 211–216.

*Цвяткоў*, *Л.* Аб некаторых спрэчных пытаннях беларускага правапісу і аб яго рэвізіі / Л. Цвяткоў // Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 190–194.

*Цвяткоў*, *Л.* Да пытання аб рэвізіі правапісу (*Programma minitum* настаўніка сямёхгодкі) / Л. Цвяткоў // Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 195–197.

# 5. АКАДЭМІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА РЭФОРМЕ ПРАВАПІСУ І АЗБУКІ 1926 г.

У Мінску 14–19 лістапада 1926 г. была праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая па сённяшні дзень застаецца самым змястоўным навуковым форумам у гісторыі беларускай лінгвістыкі, пэўным узорам арганізацыі навуковых з’ездаў. Такая ацэнка канферэнцыі абумоўлена некалькімі прычынамі.

У другой палове 1926 г. тэма правапісу і азбукі абмяркоўвалася некаторымі беларускімі мовазнаўцамі і ўспрымалася тагачасным грамадствам як важная навукова-практычная праблема, паспяховае вырашэнне якой здольна ўплываць на ўзровень граматнасці насельніцтва. У верасні і кастрычніку 1926 г. рэзалюцыі з нагоды правапісу прынялі літаратурна-лінгвістычная канферэнцыя і сход студэнтаў Вышэйшых курсаў беларусазнаўства. Цікавасць да рэформы беларускай мовы была ўзбуджана некалькімі публікацыямі ў друку, правядзеннем шэрагу пашыраных сходаў секцыі мовы і літаратуры Інбелкульта, падрыхтоўкай Я. Лёсікам сумесна з братам Антонам спецыяльнага рэфарматарскага праекта.

Канферэнцыя ўяўляла сабой першы міжнародны навуковы форум, праведзены ў Беларусі, пытанні беларускай мовы на міжнародным узроўні таксама абмяркоўваліся ўпершыню. Канферэнцыя была праведзена ў маладой рэспубліцы праз некалькі гадоў пасля ўсталявання савецкай улады і, сімвалізуючы сабой вяршыннае дасягненне дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, мела выразныя палітычныя аспекты. Акрамя правапісна-графічных на форуме былі заслуханы іншыя мовазнаўчыя даклады, а таксама некалькі літаратуразнаўчых. Напярэдадні канферэнцыі выйшлі з друку дзевяць брашур па правапіснай тэме, некаторыя з іх рассылаліся дэлегатам канферэнцыі для папярэдняга азнаямлення. Рабочая частка канферэнцыі пра-

цягвалася чатыры дні, што дало магчымасць грунтоўна абмеркаваць асноўныя пытанні. У 1927 г. матэрыялы форуму былі надрукаваны, прычым у кнігу ўвайшлі не толькі даклады, але і вельмі падрабязная дыскусія, а таксама разнастайныя спадарожныя матэрыялы. Канферэнцыя была дэмакратычным і «празрыстым» мерапрыемствам: усе дэлегаты мелі магчымасць выказваць свае думкі па любым з дыскутуемых пытанняў, пастановы прымаліся шляхам галасавання, вынікі якога ўключна з персанальнымі схільнасцямі па канкрэтных пунктах былі апублікаваны ў зборніку матэрыялаў.

У канферэнцыі ўдзельнічалі найлепшыя навуковыя сілы Беларусі і, часткова, іншых краін. У форуме бралі ўдзел усе вядучыя супрацоўнікі Інбелкульта на чале з яго старшынёй У. Ігнатоўскім, прафесар БДУ П. Бузук, дацэнты А. Багдановіч, І. Воўк-Левановіч і Л. Цвяткоў. Дэлегатамі форуму былі настаўнікі дзевяці педагагічных тэхнікумаў, выкладчыкі Беларускага камуністычнага ўніверсітэта, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, пісьменнікі (А. Бабарэка, У. Дубоўка, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля). У форуме таксама ўдзельнічалі прафесар Маскоўскага ўніверсітэта П. Растаргуеў, рэктар Літоўскага ўніверсітэта ў Коўне М. Біржышка, дацэнт Латвійскага ўніверсітэта ў Рызе Э. Блесэ, дацэнт Ленінградскага ўніверсітэта П. Гарчынскі, дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта Ю. Галомбэк, дацэнт Харкаўскага інстытута народнай асветы К. Німчынаў, прафесар Берлінскага ўніверсітэта М. Фасмер, рэдактар ковенскага часопіса «Крывіч» В. Ластоўскі і інш. Усяго ў рабоце канферэнцыі з правам вырашальнага голасу прынялі ўдзел 69 чалавек. Некаторыя навукоўцы ўдзельнічалі ў дыскусіях завочна: акадэмік Б. Ляпуноў (Ленінград), член Чэшскай акадэміі навук і мастацтваў А. Чэрны (Прага), Я. Тымчанка і А. Курыла (Кіеў). Шэраг навукоўцаў (у тым ліку Я. Карскі, Л. Шчэрба, Я. Развадоўскі, М. Грушэўскі, Э. Бернекер, А. Беліч, Я. Бадуэн дэ Куртэнэ) на канферэнцыю былі запрошаны, аднак па розных прычынах у Мінск не прыехалі.

Паводле слоў У. Ігнатоўскага, арганізатары ставілі за мэту запрасіць на канферэнцыю «кітоў навукі» з-за мяжы і СССР, і гэту задачу яны выканалі. У форуме, аднак, не ўдзельнічалі дзеячы беларускага руху з Польшчы; усім ім, за выключэннем Я. Станкевіча, польскія ўлады адмовілі ў выдачы пашпартоў для паездкі ў Мінск. (Кіруючыся меркаваннямі салідарнасці, Я. Станкевіч не паехаў на канферэнцыю.) Мінскія камуністы прымалі ўдзел толькі ў арганізацыйнай (і зусім нязначна – у навуковай) частцы форуму. Ізраільскі даследчык П. Вэкслер лічыць знамянальным той факт, што навуковы форум па беларускай мове, якая яшчэ толькі некалькі гадоў назад не мела прызнання, змог выклікаць так шмат зацікаўлення сярод айчынных і замежных навукоўцаў. Канферэнцыя, папраўдзе, мела агульнаславістычны характар.

Яна адбылася ў час, калі грамадскія функцыі маладой беларускай літаратурнай мовы значна пашырыліся і сама яна інтэнсіўна развівалася, але

здабыткі лінгвістыкі ў яе вывучэнні былі яшчэ вельмі сціплымі. Акадэмік Я. Карскі толькі ў нязначнай меры цікавіўся праблемамі сучаснай мовы; увогуле ж, пэўныя імпульсы для разгортвання такіх даследаванняў узніклі толькі пасля з'яўлення ў 1918 г. граматыкі Б. Тарашкевіча, публікацыі перакладных слоўнікаў 1918 і наступных гадоў, заснавання Інбелкульта і БДУ. У Беларусі ў 1920-я гг. падрыхтоўка і публікацыя школьных граматык і практычных слоўнікаў лічылася больш надзённай задачай, чым правядзенне канферэнцый. Усё гэта сведчыла аб важнасці правядзення ў Беларусі такога навуковага форуму.

У беларускай лінгвістыцы лічыцца, што прычынамі склікання канферэнцыі былі недахопы правапісу Б. Тарашкевіча, узнікненне дыскусіі з гэтай нагоды, патрэбы ўзгадніць шматлікія супярэчлівыя прапановы, абагульніць дасягненні беларускага мовазнаўства і абмеркаваць далейшыя шляхі яго развіцця.

Аднак у розных працах прыводзіцца неаднолькавы набор недахопаў граматыкі Б. Тарашкевіча. Напрыклад, у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» 1968 г. пералік недасканалых момантаў кадыфікацыі Б. Тарашкевіча пачынаецца з указання на наступныя з'явы:

– наяўнасць дублетных граматычных формаў;

– правапіс запазычаных слоў і транслітарацыя на беларускае пісьмо іншамоўных імён і прозвішчаў;

– адсутнасць спецыяльных літар для абазначэння афрыкат [дз] і [дж];

– абазначэнне падоўжаных зычных праз падвойнае напісанне літар;

– рэалізацыя на пісьме ненацiскнога [э] пасля мяккіх зычных у беларускіх словах.

У падручніку па гісторыі беларускай літаратурнай мовы Л. М. Шакуна 1984 г. спачатку прыведзены недасканалыя моманты граматычнай кадыфікацыі Б. Тарашкевіча (выкарыстанне канчаткаў *-ом,-ох* у формах назоўнікаў дав. і месн. склонаў мн. л.; наяўнасць формаў лічэбнікаў тыпу *пяцёх, пяцём, пяцьма*; недастаткова выразнае размежаванне канчатка *-е (-а)* у 3-й асобе адз. л. дзеясловаў I спражэння і канчатка *-іць (-ыць)* у дзеясловах II спражэння; канчатак *-ом (-ём)* у форме дзеясловаў 1-й асобы мн. л.; збыткоўныя канчаткі *-эма (-ема)* у формах дзеясловаў 1-й асобы мн. л. загаднага ладу) і потым – правапісныя («штучнае» вымаўленне слоў іншамоўнага паходжання накшталт *кляса, галёша, сэзон, сыстэма, арытмэтыка* і перадача на пісьме [э] ненацiскнога).

У падручніку па гісторыі беларускага мовазнаўства 1995 г. Л. М. Шакуна на першае месца вынесены недахопы ў правапісе і істотна ўдакладнены рэпертуар недасканала ўрэгуляваных граматычных формаў (парны лік назоўнікаў тыпу *дзве хаце*, раўнапраўнасць такіх формаў, як *касцьмі* і *касцьма*, *дзвюх* і *дзвёх*, *гэты* і *гэны*, *крычым* і *крычом*).

У адной са сваіх публікацый Л. І. Сямешка вылучала як асабліва непрымальныя ў тагачаснай кадыфікацыі канчаткі назоўнікаў у формах дав. і месн. склонаў тыпу *-ом/-ём, -ох/-ёх*, якія, на яе думку, абапіраліся на вузкую дыялектную базу.

Падобная неаднастайнасць у вызначэнні рознымі мовазнаўцамі недахопаў кадыфікацыі Б. Тарашкевіча сведчыць аб тым, што навукоўцы часта не імкнуліся акрэсліць рэальныя недахопы граматыкі Б. Тарашкевіча дакладна і пунктуальна. Звычайна мы маем не асабліва сістэматычныя пералікі такіх недахопаў з выразнай залежнасцю ад сучаснай кадыфікацыі. Гэта значыць, што безумоўна «недасканалымі» маглі лічыцца акурат тыя правілы Б. Тарашкевіча, якія ў ходзе далейшай кадыфікацыі былі зменены. Пад праведзеныя змены была падведзена навуковая база. Неаднастайнасць у вызначэнні рознымі лінгвістамі галоўных недахопаў граматыкі Б. Тарашкевіча можа параджаць сумненне ў тым, што ў яго кадыфікацыі ўвогуле былі выразныя і відавочныя для ўсіх недахопы.

Папраўдзе, у беларускім правапісе 1920-х гг. існавалі недахопы, але яны не былі настолькі шматлікімі і значнымі, каб іх ліквідацыя не магла быць праведзена без склікання спецыяльнага навуковага з’езда. Здаецца, асобныя арфаграфічныя правілы таго часу, якія звычайна разглядаюцца як асабліва недасканалыя і з навуковага пункту гледжання такімі з’яўляюцца, у рэальнасці складалі невялікую праблему для многіх тагачасных носьбітаў беларускай мовы. Гэта датычыцца найбольш праблемнага (з сучаснага пункту гледжання) правіла аб перадачы *о* ў запазычаных словах. У адной з метадычных прац 1920-х гг. памылкі вучняў пры напісанні запазычаных слоў для ацэнкі пісьменнасці лічыліся менш важнымі ў параўнанні з памылкамі ў каранях слоў, канчатках, у сувязі слоў, у пунктуацыі, у пабудове складаных сказаў. У адным з пунктаў рэзалюцыі Усебеларускай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі пастанаўлялася ўвогуле не разглядаць на ёй пытанне правапісу запазычаных слоў, паколькі яно «стаіць не так востра для школы і працоўных мас». Важная для тагачасных і сучасных навуковых спрэчак праблема (яе важнасць асабліва добра заўважная ў нашы дні дзякуючы вялікаму назапашванню ведаў у гэтай галіне) на самай справе ў свой час знаходзілася толькі на перыферыі абмеркаванняў звычайных карыстальнікаў беларускай мовы.

Што датычыцца ўзбуджаных Я. Лёсікам спрэчак, які фактычна быў ледзь не адзіным прыхільнікам рэформы беларускай мовы, то да канферэнцыі яны не паспелі належным чынам разгарнуцца. Іншыя мовазнаўцы намагаліся гэту дыскусію ўтаймаваць. Паспяховаму разгортванню абмеркавання не спрыяла і тое, што першая дыскусійная публікацыя Я. Лёсіка была даволі «нятрапная» і часткова выводзіла на аблудны шлях: у яго артыкуле «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» толькі часткова былі вызначаны сапраўдныя праблемы тагачаснага правапісу, пры гэтым самыя важныя пункты былі абмінуты або патрактаваны неналежным чынам.

У значнай ступені іншы погляд на прычыны правядзення канферэнцыі выказваецца некаторымі аўтарамі-гісторыкамі. Згодна з ім форум быў скліканы з-за палітычных меркаванняў і, увогуле, меў пераважна палітычны характар. У пацвярджэнне прыводзяцца доказы таго, што ўлады трактавалі канферэнцыю не столькі як навуковае мерапрыемства, колькі як палітычна-прапагандысцкую акцыю. Напрыклад, звяртаецца ўвага на тое, што падчас падрыхтоўкі і правядзення форуму працавала створаная з высокіх партыйных чыноўнікаў «партпяцёрка» (кіраваў ёй старшыня Інбелкульта У. Ігнатоўскі), што канферэнцыя была своеасаблівым «папераджальным» мерапрыемствам у дачыненні да рыхтаванага за мяжой з удзелам В. Ластоўскага Усебеларускага з'езда. На думку партыйных арганізатараў форуму, ён павінен быў сімвалізаваць адзінства камуністычнай партыі Беларусі з заходнебеларускім нацыянальна-вызваленчым рухам і беларускай палітычнай эміграцыяй, пераканаць сусветную грамадскасць у паспяховасці культурна-нацыянальнай палітыкі ў БССР, замацаваць пазіцыі партыі сярод розных груп інтэлігенцыі і г. д. Усе гэтыя мэты ў значнай ступені былі дасягнуты. У працах аўтараў-гісторыкаў падрабязна апісваецца антураж канферэнцыі. У дні з'езда Мінск быў святочна ўпрыгожаны, па горадзе курсіравалі агітацыйныя машыны, на прадпрыемствах і ва ўстановах праходзілі ўрачыстыя мітынгі, у газеце «Савецкая Беларусь» друкаваліся беспрэцэдэнтна падрабязныя матэрыялы аб канферэнцыі, для дэлегатаў была прадугледжана багатая сацыяльна-культурная праграма і інш. Між тым значная частка гэтых захадаў уяўляе сабой не столькі (прынамсі, не толькі) элемент палітычнага маніпулявання, колькі звычайны фактар правядзення любых значных міжнародных форумаў. У апублікаваным у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» артыкуле пра Акадэмічную канферэнцыю ўвогуле не названа ніводнай правапіснай або графічнай рэфарматарскай прапановы яе ўдзельнікаў, уключна з прапановамі асноўных дакладчыкаў.

На факт склікання канферэнцыі ў рознай ступені паўплывалі ўсе названыя чыннікі: асобныя недахопы тагачаснага правапісу, гучная пастаноўка пытання рэформы правапісу і алфавіта ў грамадстве, жаданне беларускіх улад правесці ў маладой савецкай рэспубліцы міжнародную канферэнцыю. Акадэмічная канферэнцыя была адначасова значнай і навуковай, і палітычнай падзеяй. Палітычныя фактары, аднак, у нязначнай ступені ўплывалі на ход абмеркавання на форуме графічных і правапісных праблем (калі ўплывалі ўвогуле).

Згодна са сцвярджэннем аднаго з арганізатараў канферэнцыі У. Ігнатоўскага ідэя склікаць яе ўзнікла вясной 1926 г., але папраўдзе такая думка з'явілася раней. Яшчэ ў жніўні 1925 г. у пастанове сакратарыята ЦК КП(б)Б аб мэтазгоднасці склікання другой Усебеларускай палітычнай канферэнцыі ў Берліне згадваўся «сусветны з'езд беларусаведаў». У канцы 1926 г. У. Ігнатоўскі сцвярджаў, што наркамат замежных спраў СССР па прычынах палітычнага характару даўно лічыў неабходным правесці ў Беларусі навуковую канфе-

рэнцыю, першапачаткова яна планавалася на зіму 1926/27 г. Ужо ў пачатку кастрычніка 1925 г. на пасяджэнні прэзідыума Інбелкульта членам Правапісна-тэрміналагічнай камісіі было прапанавана прыступіць да перагляду правапісу і граматычнай тэрміналогіі з тым, каб у далейшым падаць даклад на «навуковы кангрэс беларусазнаўцаў». Такім чынам, спачатку ў палітычным асяроддзі ўзнікла ідэя правесці міжнародны форум беларусазнаўцаў, і толькі пазней вызначылася, што яго галоўнай тэмай стане правапісна-графічная. Трэба прызнаць, што для склікання канферэнцыі вялікае значэнне мелі палітычныя складнікі.

Аднак навукова-лінгвістычныя стымулы склікання канферэнцыі не былі падначалены бягучай палітычнай кан'юнктуры. Хоць сувязь арганізацыі канферэнцыі з палітычнымі падзеямі прадугледжвала дакладныя тэрміны яе правядзення, мовазнаўцы не бралі пад увагу палітычную кан'юнктуру. Прынамсі, некаторыя з іх (С. Некрашэвіч) лічылі, што склікаць навуковы сход увосень 1926 г. было занадта рана, паколькі спрэчныя пытанні правапісу к гэтаму часу яшчэ не былі належным чынам распрацаваны. Нягледзячы на палітычныя матывы склікання канферэнцыі, у працэсе яе падрыхтоўкі вырашылі надаць рабоце форуму строга акадэмічны характар. Для ўдзельнікаў канферэнцыі і староннiх назіральнікаў палітычныя падставы яе склікання былі зусім невідавочнымі. Напрыклад, Я. Бадуэн дэ Куртэнэ лічыў, што форум меў «чыста культурніцкі характар, і ніхто з тых, хто выступаў на ім, не меў намеру займацца палітычнымі гульнямі».

Сярод прычын склікання Акадэмічнай канферэнцыі можна пазначыць таксама вялікае значэнне суб'ектыўнага фактару. Складана сказаць, ці была б праведзена правапісная канферэнцыя ўвогуле, калі б Я. Лёсік не прадэманстраваў выразнае імкненне рэфармаваць правапіс Б. Тарашкевіча.

Ізраільскі даследчык П. Вэкслер лічыць правядзенне канферэнцыі «выдатным здзяйсненнем» у гісторыі савецкай лінгвістыкі ў цэлым: канферэнцыя стала першым вялікім міжнародным лінгвістычным форумам у СССР, прысвечаным адной з савецкіх моў.

Па беларускай мове ў праграму канферэнцыі былі ўключаны даклады «Сучасны стан вывучэння беларускай мовы» С. Некрашэвіча, «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў» П. Бузука і «Беларускія элементы ў польскай мове» Л. Цвяткова. Аднак цэнтральнымі пунктамі на канферэнцыі былі праблемы рэфармавання правапісу і азбукі. Яны абмяркоўваліся як на пленарных пасяджэннях, так і на пасяджэннях графічнай і правапіснай камісій.

Аб рэформе алфавіта былі зроблены даклады Я. Лёсіка і П. Растаргуева. Я. Лёсік прапанаваў гукі [дз] і [дж] абазначаць літарамі д̆ і ӂ, выбухны [ґ] абазначаць літарай *ґ*, замест *й* увесці *j*, замест *э* – *є*, замест *ы* – *и*. П. Растаргуеў у сваім дакладзе выступіў за ўвядзенне ў беларускую графіку для пазначэння

афрыкат [дз] і [дж] сербскіх літар *ђ* і *ћ*, а таксама за замену літары *й* знакам *j*. Даклады наконт рэфармавання правапісу прачыталі Я. Лёсік (даклад быў падрыхтаваны сумесна з братам Антонам) і С. Некрашэвіч.

У сваім правапісным дакладзе Я. Лёсік сыходзіў з таго, што тагачасная беларуская арфаграфія знаходзілася ў «крызісе». Гэта, аднак, не адпавядала рэчаіснасці і сведчыла хутчэй аб наяўнасці ў дакладзе Я. Лёсіка выразных рытарычных прыёмаў, прапагандысцкіх элементаў.

У сферы арфаграфіі Я. Лёсік прапанаваў наступныя змены:

– пашырыць фанетычны прынцып правапісу галосных на пазначэнне ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных (пры гэтым пашыралася напісанне літары *я*), а таксама на зычныя (за выключэннем канцавых);

– пачатковыя *і* і *у*, а таксама злучнік *і* і прыназоўнік *у* заўсёды пісаць нязменна;

– не абазначаць пазіцыйную мяккасць свісцячых пры дапамозе мяккага знака;

– у назоўніках і прыметніках на канцы слова не пад націскам пісаць літару *і* (*у лесі, леваі рукі*).

Даклад С. Некрашэвіча ў значнай ступені меў крытычны ў адносінах да выступлення Я. Лёсіка характар. Ён не падзяляў думкі аб крызісным стане тагачаснага правапісу і зрабіў наступныя прапановы:

– у другім складзе перад націскам пісаць *е* і ніколі – *я* (*непрыхільна, непрыцямна*);

– не падпарадкоўваць правапіс часціцы *не* і прыназоўніка *без* правілу «якання» (пісаць іх заўсёды нязменна);

– словы *няма* і *няхай* пісаць як *німа* і *ніхай*;

– ненаціскное [о] у запазычаных словах заўсёды перадаваць праз *а*.

Нягледзячы на тое, што Я. Лёсік забяспечыў свой даклад падрабязнай аргументацыяй, а таксама на тое, што ён спасылаўся на падтрымку сваіх падыходаў удзельнікамі вераснёўскай настаўніцкай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі, яго прапановы на форуме пераважна былі адхілены.

На Акадэмічнай канферэнцыі адбылося вострае сутыкненне думак паміж прыхільнікамі хуткай і даволі радыкальнай рэформы (Я. Лёсік) і паслядоўнікамі памяркоўнага вырашэння гэтай праблемы (С. Некрашэвіч, П. Растаргуеў, А. Багдановіч і інш.). Вылучаючы свае ініцыятывы, Я. Лёсік у значнай меры пераймаў практыку правядзення «рэвалюцыйнай» рэформы рускай мовы 1917–1918 гг. Такое суаднясенне было няўдалым з прычыны прынцыповай розніцы ў гісторыі графікі і правапісу ў рускай і беларускай мовах.

Іншай думкі на моўнае рэфармаванне ў параўнанні з Я. Лёсікам трымаліся прадстаўнікі памяркоўнага крыла, напрыклад П. Растаргуеў, які яшчэ ў сваім прывітальным слове на канферэнцыі зазначыў, што «справа рэформы правапісу і азбукі – складаная і трудная», таму пры рэфармаванні «патрэб-

на вялікая асцярожнасць, каб не адтаўхнуць народныя масы ад праведзенай рэформы». Прыехаўшы на канферэнцыю са спецыяльным дакладам, П. Растаргуеў тым не менш не залічыў практычныя заняткі правапісам і граматыкай да віду навуковай дзейнасці.

Паводле С. Некрашэвіча, у сярэдзіне 1920-х гг. важкіх падстаў для перагляду дзейных на той час правіл правапісу не існавала; вынесены Я. Лёсікам на абмеркаванне канферэнцыі правапісны праект ён ацаніў як «несур'ёзны». Увогуле, у «Беларускай граматыцы для школ» былі правільна вызначаны асноўныя законы беларускай літаратурнай мовы і, праз гэта, намечаны шляхі яе далейшага развіцця. Факт склікання спецыяльнай канферэнцыі, лічыў С. Некрашэвіч, трэба выкарыстаць не столькі для правядзення канкрэтных зменаў (з неабходнасцю правядзення некаторых з іх С. Некрашэвіч быў згодзен), колькі на скіраванне работы па рэформе правапісу на больш адпаведны шлях. Галоўным для вызначэння характару рэфармавання С. Некрашэвіч лічыў неабходнасць разгарнуць шырокае даследаванне народных гаворак. Такая пастаноўка пытання аказалася эфектыўнай у тактычным плане: на фоне пазіцыі прыхільніка хуткай рэформы Я. Лёсіка было асабліва відавочна, што шырока даследаваць беларускія гаворкі за кароткі час было немагчыма.

Можна, аднак, сумнявацца, што С. Некрашэвіч напраўдзе лічыў шлях вывучэння гаворак найбольш плённым для вырашэння праблемы рэфармавання правапісу. Раней аднадумца С. Некрашэвіча А. Багдановіч выказваў думку, што правілы неабавязкова павінны грунтавацца на строгіх лінгвістычных даследаваннях; апошнія, калі іх рэалізоўваць у практыцы, могуць моцна ўскладняць сітуацыю і правакаваць шматлікія выключэнні. Падобны скепсіс выказваў і І. Воўк-Левановіч. Адпаведна, недастатковая вывучанасць, напрыклад, беларускага дыялектнага вакалізму не была непераадольнай перашкодай для таго, каб нейкім чынам усталяваць правапіс ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных. Канферэнцыя была месцам адкрытага сутыкнення думак, і яе ўдзельнікі былі зацікаўлены не проста ў выкладанні сваіх пазіцый, але і ў прыцягненні на свой бок дэлегатаў канферэнцыі. У гэтым плане Некрашэвічаву тактыку вядзення дыскусіі можна ацаніць як удалую: прапанова рэфармаваць правапіс на аснове дыялекталагічных даследаванняў была не абстрактным «інтэлігенцкім» пажаданнем, а вырастала з непрыняцця Лёсікавага тэзіса аб тым, што ў гаворках «яканне» рэалізуецца паслядоўна і сістэматычна (і таму, маўляў, яно павінна паслядоўна адлюстроўвацца на пісьме). Гэты прынцыповы для пабудоў Я. Лёсіка пункт аспрэчвалі і многія іншыя ўдзельнікі канферэнцыі. Паколькі неразвітасць дыялекталагічных даследаванняў у Беларусі ў 1920-я гг. не давала магчымасці пацвердзіць справядлівасць тэзіса Я. Лёсіка, то адсылка да новых пошукаў была добра зразумелай. Абмеркаванне на канферэнцыі было добрай школай для маладой беларускай савецкай лінгвістыкі: яно паказала ўсю неадназначнасць любых,

часам, здавалася б, «бясспрэчных» канкрэтных арфаграфічных прапаноў і глыбіню праблемы правапіснага рэфармавання як грамадскага мерапрыемства ў цэлым.

Сутыкненне паміж прыхільнікамі хуткай рэформы і людзьмі, якія выказвалі стрыманасць, было на канферэнцыі прынцыповым. Рэалізаваная як супярэчнасць паміж неаднолькавымі падыходамі да «тэхналагічна» розных спосабаў рэфармавання (рабіць змены адразу ці пасля правядзення навуковых даследаванняў?), дадзеная калізія адлюстроўвала глыбокія разыходжанні ў меркаваннях адносна арганізацыі і развіцця беларускай лінгвістыкі ўвогуле. Калі, на думку Я. Лёсіка, у сярэдзіне 1920-х у Беларусі існавалі попыт і кан’юнктура на правядзенне хуткай арфаграфічнай рэформы (што толькі ўскосна было навуковай праблемай), то, паводле С. Некрашэвіча, П. Растаргуева і іншых, у Беларусі ў гэты час існавала патрэба разгортвання сапраўдных навуковых даследаванняў. У працэсе правядзення канферэнцыі ўлады хацелі «звесці вучоных на зямлю», паставіць пытанне рэформы правапісу «практычна», «спрасціць» яго (гэта лінія на канферэнцыі найлепш была прадстаўлена Я. Лёсікам). Аднак гэтага не адбылося. Дыскусія на канферэнцыі не абмежавалася арыентацыяй на практычныя змены ў правапісе і вылілася ў грунтоўнае абмеркаванне шматлікіх пытанняў з прыцягненнем разнастайных аргументаў. Гэта парушыла статус канферэнцыі як пераважна практычнага мерапрыемства, якое павінна было даць вынікам найперш канкрэтныя правапісныя змены.

Зрэшты, па шэрагу графічных і правапісных пунктаў на канферэнцыі былі прыняты канкрэтныя рашэнні. Так, у сферы алфавіта пастанавілі:

– афрыкаты [дз] і [дж] абазначаць літарамі сербскага алфавіта *ђ* і *ћ*;

– замяніць літару *й* лацінскай літарай *j*;

– увесці напісанні *ja, jэ, jу, jо* замест *я, е, ю, ё* ў пачатку складу перад галоснымі;

– літары *я, е, ю, ё* ў беларускім алфавіце захаваць для азначэння мяккасці зычных.

Цікавым эпізодам на канферэнцыі стала спроба надаць легітымны статус беларускай лацінцы. Падчас адкрыцця ў прэзідыум была пададзена падпісаная 40 удзельнікамі, у тым ліку М. Гарэцкім, У. Ігнатоўскім, Г. Гарэцкім, Я. Дылам, А. Смолічам, М. Грамыкам, А. Сянькевічам, П. Бузуком, Л. Цвятковым, Ю. Гаўруком, І. Самковічам, Я. Бялькевічам, З. Жылуновічам, К. Чорным, Я. Коласам, А. Гурло, А. Бабарэкам, С. Некрашэвічам, Я. Лёсікам і інш., запіска-прапанова аб неабходнасці ўвядзення ў БССР дадаткова да кірылічнага алфавіта «лацінкі, якая цяпер ужываецца ў Заходняй Беларусі». Тэкст быў напісаны М. Гарэцкім, які першым і падпісаў дакумент. У канцы тэксту У. Ігнатоўскі зрабіў прыпіску: «Умова – сувязь з усёй СССР». Некаторыя дэлегаты падпісалі запіску з агаворкамі тыпу «прынцыпіяльна лічу лацінку

патрэбнаю, але гэта пытанне цяпер яшчэ не на чарзе нашага дня» (Я. Колас), «прынцыпова за ўвядзенне лацінкі, але ў сучасны момант баюся, каб не адбілася на заходняй частцы Беларусі ў бок паланізацыі» (Я. Бялькевіч), «з вялікаю асцярожнасцю» (С. Некрашэвіч). Насуперак таму, што запіска, верагодна, была перададзена ў графічную камісію, яна на канферэнцыі не абмяркоўвалася. Відаць, гэта адбылося таму, што тэма ўзнікла, згодна з У. Ігнатоўскім, «выпадкова», людзі, якія падпісалі гэты дакумент, самі часткова лічылі яго не вельмі актуальным, а прэзідыум не палічыў патрэбным абмяркоўваць пытанне, якое не было абмеркавана папярэдне.

У сферы правапісу Акадэмічная канферэнцыя пастанавіла:

– пашырэнне фанетычнага прынцыпу правапісу на зычныя не разглядаць;

– напісанне кожнага ненаціскнога [е] праз *я* адхіліць;

– адносна напісання ненаціскнога [е]: а) у другім складзе перад націскам пісаць толькі *е*; б) часціцу *не* і прыназоўнік *без* пісаць нязменна;

– напісанне слоў *няма, няхай* як *німа, ніхай* адхіліць;

– пашырыць аканне на ўсе чужаземныя словы (правіла датычылася рэалізацыі замежнага [о], але не пашыралася на [э]);

– літару *і*, калі яна стаіць у сярэдзіне або пачатку слова, ніколі не перадаваць праз *й*;

– правапіс *у* пакінуць у рэдакцыі Б. Тарашкевіча.

С. Некрашэвіч пазней кваліфікаваў правапісныя пастановы канферэнцыі як «жыццёвыя», такія, якія «безбалесна могуць быць прыняты нашай арфаграфіяй». Рэалізацыя як мінімум некаторых пунктаў пастановы (напісанне ненаціскнога [э], пашырэнне акання на ўсе запазычаныя словы) аблегчыла б пісьмо.

Тым не менш было пастаноўлена не праводзіць прынятыя рэзалюцыі ў жыццё. Верагодна, дырэктыўныя інстанцыі, ад якіх залежала вырашэнне гэтага пытання, пабачылі, што сітуацыя з рэфармаваннем беларускай мовы напраўдзе з’яўляецца не такой простай, як гэта выглядала ў даканферэнцыйных публікацыях Я. Лёсіка. Можна меркаваць, што пастановы канферэнцыі не былі прыняты ў якасці абавязковых у тым ліку таму, што яны змяшчалі даволі радыкальную графічную частку (увядзенне літар *ђ, ћ* і *j*).

У цэлым можна гаварыць пра недапрацаванасць пададзеных на разгляд канферэнцыі праектаў Я. Лёсіка. Што да графічных прапаноў П. Растаргуева, то, цікава, іх аўтар скептычна ставіўся да магчымасці рэфармаваць алфавіт і, больш за тое, фактычна не шукаў падтрымкі для свайго праекта з боку дэлегатаў канферэнцыі.

Яна не апраўдала чаканняў тых людзей, якія хацелі нешта змяніць у правапісе. Насуперак выразным ініцыятывам рэфармаваць правапіс некаторыя беларускія лінгвісты не лічылі патрэбным праводзіць такое рэфармаванне і яшчэ да канферэнцыі прадказвалі немагчымасць здзяйснення радыкальнай рэформы.

Напрыклад, І. Воўк-Левановіч сцвярджаў, што звычай, традыцыі і настроі могуць аказацца больш важкімі, чым усе добрыя намеры рацыяналізаваць правапіс.

Паводле ацэнкі М. Байкова, работа канферэнцыі «не дала рашучых вынікаў для развязання пытанняў рэформы правапісу і азбукі». У практычным плане яна аказала нязначнае ўздзеянне на развіццё тагачаснай беларускай мовы, усе яе канкрэтныя пастановы (у тым ліку і «бясспрэчныя») маглі ігнаравацца карыстальнікамі беларускай мовы. Гэтая акалічнасць ускосна пацвярджае станоўчыя характарыстыкі тагачаснага правапісу: значыць, ён быў не настолькі недасканалы, як гэта хацелі паказаць ініцыятары яго рэформы. Галоўным дасягненнем форуму было наданне – дзякуючы яго правядзенню – выразнага імпульсу разгортванню лінгвістычных даследаванняў у Беларусі. Толькі з 1926 г. Інбелкульт прыкметна пайшоў па шляху навукова-даследчай работы.

У лінгвістыцы 1930-х гг. і ў асобных працах замежных беларусістаў звяртаецца ўвага на тое, што беларускія мовазнаўцы на канферэнцыі імкнуліся рэфармаваць беларускую мову, кіруючыся ў значнай меры нацыянальнымі памкненнямі (прымалі пастановы, накіраваныя на аддаленне беларускай мовы ад рускай). Папраўдзе, сітуацыя была даволі неадназначная. Напрыклад, В. Ластоўскі і Я. Лёсік на канферэнцыі стаялі за тое, каб у беларускай мове звузіць выкарыстанне нескладовага *у* (В. Ластоўскі ўвогуле прапаноўваў яе скасаваць). Я. Лёсік прапанаваў увесці ў алфавіт літару *и*, скасаваць абазначэнне асіміляцыйнай мяккасці свісцячых, а В. Ластоўскі – замест *э* пісаць *е* (*рекі*). У прапановах двух гэтых лінгвістаў (асабліва Я. Лёсіка) выразна праглядаўся рацыяналістычны (у іх разуменні) аспект: найбольш важна падчас рэформы, лічыў Я. Лёсік, была патрэба зрабіць алфавіт і правапіс лагічнымі і «навуковымі».

Правядзенне канферэнцыі выклікала неадназначную рэакцыю ў найвышэйшых партыйных колах. 26 лістапада 1926 г. было праведзена закрытае пасяджэнне бюро ЦК КП(б)Б, на якім некаторыя члены рэзка крытыкавалі старшыню камісіі па падрыхтоўцы канферэнцыі У. Ігнатоўскага. Агульная ацэнка канферэнцыі, аднак, была станоўчай. У сувязі з тым, што неўзабаве ў ЦК ВКП(б) паступіла інфармацыя аб нацыяналістычных праяўленнях на Акадэмічнай канферэнцыі, у снежні 1926 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б А. Крыніцкі ездзіў у Маскву даваць тлумачэнні на гэты конт. У новай рэзалюцыі бюро ЦК ад 17 снежня поруч са станоўчымі момантамі адзначаліся і адмоўныя: «нацыяналістычныя захапленні ў сувязі з канферэнцыяй <...> ажыўленне ў некаторай частцы інтэлігенцыі нацыянал-дэмакратычных тэндэнцый», незнаёмства партыйных работнікаў з беларускім рухам. Канферэнцыя крытыкавалася і за тое, што на ёй у прэзідыум была пададзена падпісаная ў тым ліку камуністамі прапанова аб разглядзе пытання аб выкарыстанні для беларускай мовы лацінскай графікі ў дадатак да кірылічнай (у тэрміналогіі крытыкаў: «пераходу» на лацінскую графіку). У рэзалюцыі даваліся вывады аб тым, што сярод

часткі камуністаў няма належнай ацэнкі небяспекі мясцовага нацыяналізму, што кадры, якія вядуць работу на культурным фронце, – недастатковыя. У рэзалюцыі прызнавалася памылка ў тым, што бюро ЦК КП(б)Б не паставіла пытанне аб арганізацыі канферэнцыі на разгляд у ЦК ВКП(б).

Пытанне правядзення Акадэмічнай канферэнцыі абмяркоўвалася і ў палітычнай справаздачы ЦК КП(б)Б X з'езду КП(б)Б 3 студзеня 1927 г. (раздзел «Аб беларускім нацыяналізме»). Поруч са станоўчымі момантамі было адзначана, што правядзенне канферэнцыі сведчыла аб адсутнасці ў шэрагу камуністаў «дастаткова пільнага разумення небяспекі нацыянал-дэмакратычных настрояў з боку часткі інтэлігенцыі».

Пазней канферэнцыя была выключна адмоўна ацэнена ў дакладзе камісіі ЦКК ВКП(б) пад кіраўніцтвам У. Затонскага. 27 снежня 1929 г. у газеце «Звязда» быў апублікаваны артыкул, у якім пісалася пра тое, што «...канферэнцыя была некаторым чынам тым месцам, дзе нацыянал-дэмакраты прабавалі прадэманстраваць свае жывыя сілы ўнутры Савецкай Беларусі». На кастрычніцкім пленуме ЦК КП(б)Б 1930 г. старшыня ДПУ Г. Рапапорт сцвярджаў, што пад выглядам навуковай «была фактычна склікана канферэнцыя нацыянал-дэмакратаў і нацыянал-фашыстаў». У друку пачатку 1930-х гг. канферэнцыя называлася таксама «генеральным злётам нацдэмаўскіх контррэвалюцыянераў», а пазней – «сусветным контррэвалюцыйным кангрэсам беларусаў». У сувязі з наяўнасцю гэтых палітычных ацэнак беларускай навуцы доўгі час было складана даць Акадэмічнай канферэнцыі адэкватную ацэнку.

**Пытанні для самакантролю**

1. Чаму Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі лічыцца самым важным навуковым форумам у гісторыі беларускай лінгвістыкі?
2. Якімі прычынамі было абумоўлена скліканне Акадэмічнай канферэнцыі?
3. Якія праблемы моўнага рэфармавання абмяркоўваліся на ёй?
4. Чаму прапановы галоўнага ініцыятара моўнага рэфармавання Я. Лёсіка не знайшлі падтрымкі сярод дэлегатаў канферэнцыі?
5. Чаму ў лінгвістычных артыкулах і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» Акадэмічная канферэнцыя асвятляецца па-рознаму?
6. Якімі былі навуковыя і практычныя вынікі правядзення Акадэмічнай канферэнцыі?

**Рэкамендаваная літаратура**

Беларусізацыя. 1920-я гады. Дакументы і матэрыялы. Мінск, 2001.

*Германовіч, І. К.* Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі / І. К. Германовіч // Беларуская мова : энцыкл. Мінск, 1994. С. 19–21.

*Запрудскі*, *С. М.* Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 г. / С. М. Запрудскі // Весн. БДУ. Сер. 4. 2004. № 3. С. 21–26.

*Іваноў*, *М. Л.* Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі / М. Л. Іваноў // Энцыкл. гіст. Беларусі. Мінск, 1993. Т. 1. С. 78–79.

*Карский*, *Е.* Труды Академической конференции по реформе белорусского правописания и азбуки / Е. Карский // Slavia. R. 6. 1928. Seš. 4. С. 828–835 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 248–257.

*Некрашэвіч*, *С.* Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і графікі і вынікі яе працы / С. Некрашэвіч // Наш край. 1927. № 1. С. 3–9 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 198–205.

*Платонаў*, *Р.* Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі / Р. Платонаў // Роднае слова. 1996. № 11. С. 82–92.

Распрацоўка правапісу ў 1920-я гг. // Гісторыя беларускага мовазнаўства. 1918–1941 : хрэстаматыя для студэнтаў філал. фак. : у 2 ч. Мінск, 2005. Ч. 1. С. 80–128.

# 6. РАСПРАЦОЎКА ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў КАНЦЫ 1920-х гг.

Акадэмічная канферэнцыя па рэформе правапісу і азбукі ў значнай меры задаволіла імкненне беларускага грамадства сярэдзіны 1920-х гг. да асэнсавання правапіснай праблематыкі. Тым не менш у беларускай арфаграфіі яшчэ заставаліся пытанні, якія маглі выклікаць непаразуменні або прыцягваць увагу дапытлівых людзей. Скіраваныя на змены ў правапісе публікацыі эпізадычна працягвалі з'яўляцца ў друку, аднак грамадская цікавасць да арфаграфіі была ў гэты час на спадзе. На фоне заяў аб «крызісе» правапісу беларускае грамадства асэнсоўвала той факт, што насуперак чаканням правапіс Б. Тарашкевіча вытрымаў даволі жорсткую крытыку і ў яго не ўнеслі ніякіх зменаў. Тыя ж рэкамендацыі, якія былі прапанаваны на канферэнцыі, можна лічыць памяркоўнымі.

У кастрычніку 1927 г. пры кафедры жывой беларускай мовы Інбелкульта была створана Правапісная камісія, якой даручылі апрацоўку матэрыялаў канферэнцыі і падрыхтоўку канчатковага праекта правапісу. У камісію ўвайшлі С. Некрашэвіч (старшыня), А. Багдановіч (сакратар), Я. Лёсік, В. Ластоўскі, П. Бузук, Я. Бялькевіч, Я. Купала і У. Чаржынскі. Камісія пачала работу 7 снежня 1927 г. і да 17 красавіка 1929 г. правяла 33 пасяджэнні. На першым пасяджэнні, праведзеным з удзелам прадстаўнікоў Наркамата асветы, а таксама членаў прэзідыума і аддзела мовы і літаратуры Інбелкульта, былі вызначаны агульныя прынцыпы работы камісіі. Згодна з гэтымі прынцыпамі вырашылі спачатку засяродзіцца на рэформе правапісу і не займацца рэформай графікі, матэрыялы Акадэмічнай канферэнцыі лічыць аўтарытэтнымі, але неабавязковымі дакументамі. Прымаючы пад увагу «дастатковую навуковую вартасць» правапісу Б. Тарашкевіча і амаль дзесяцігадовую практыку яго ўжывання, было вырашана зрабіць у ім толькі некаторыя папраўкі і дапаўненні.

Першапачаткова камісія мела намер падрыхтаваць праект правапісу да 1 ліпеня 1928 г. Ён павінен быў уключаць у сябе раздзелы, прысвечаныя правапісу: 1) галосных; 2) зычных; 3) марфалагічных формаў; 4) складаных слоў; 5) чужаземных слоў і 6) уласных назваў. На першых пасяджэннях распрацавалі першы і часткова другі раздзелы. Падрыхтаваць праект да 1 ліпеня 1928 г. не атрымалася, тым не менш вядома, што ў сярэдзіне восені 1928 г. камісія ўжо працавала над заключнымі раздзеламі праекта. Найбольш спрэчным пунктам для членаў камісіі на першым этапе аказаўся правапіс ненаціскнога [э] у пазіцыі пасля мяккіх зычных, адносна якога поўнай згоды не дасягнулі. Па гэтым пункце акрэсліліся некалькі падыходаў.

Згодна з першым прапаноўвалася кожнае ненаціскное [э] пазначаць літарай *е*, а націскное –літарай *é*. Згодна з другім для абазначэння ненаціскнога [э] прапаноўвалася выкарыстоўваць грэчаскую літару эпсілан (*ε*). Я. Лёсік заставаўся пры сваім ранейшым меркаванні: ён лічыў патрэбным любы ненаціскны [э] абазначаць літарай *я*. Як відаць, у першых двух выпадках насуперак дэкларацыі аб уніканні графічных праблем рабілася спроба перанесці праблему перадачы на пісьме націскнога і ненаціскнога [э] са сферы правапісу ў сферу графікі.

Аўтар адной з інфармацыйных нататак пра дзейнасць Правапіснай камісіі, апублікаванай у сакавіку 1928 г. у газеце «Звязда», заклікаў выказвацца наконт спосабаў правапіснага ўрэгулявання ненаціскнога [э] іншых зацікаўленых асоб, аднак абмеркаванне гэтай тэмы працягу не атрымала.

У іншым інфармацыйным матэрыяле, апублікаваным у газеце «Савецкая Беларусь» у кастрычніку 1928 г. пад загалоўкам «Праект рэформы беларускага правапісу хутка будзе закончаны», паведамлялася, што канчатковы тэрмін падрыхтоўкі праекта – 1 студзеня 1929 г. і што ў аснову праекта арфаграфіі будзе пакладзены правапіс, якім тады карысталася газета «Савецкая Беларусь». Верагодна, к кастрычніку 1928 г. ідэя ўвесці ў алфавіт літары *ε* або *é* была адхілена і ў правапісе мелі быць захаванымі ўсе асноўныя ўжывальныя да гэтага часу арфаграмы.

У лютым 1928 г. на старонках газеты «Савецкая Беларусь» адбылася дыскусія паміж Я. Лёсікам і І. Ваўком-Левановічам з нагоды выдання апошнім «Лекцый па гісторыі беларускае мовы». «Лекцыі...» былі надрукаваны ў аўтарскай арфаграфічнай версіі, што выклікала выключна рэзкую рэакцыю Я. Лёсіка.

Аўтар правапісных падручнікаў катэгарычна пратэставаў супраць здзейсненых у кнізе І. Ваўка-Левановіча адхіленняў ад усталяванага правапісу запазычаных слоў. Гаворка ішла пра змякчэнне зубных [д], [т], [з], [с] у чужаземных словах (*фанэцікі, сісцемацізуе, пракцічных, дзіалектаў, сціль, дзісцыплін*), непаслядоўнасць у напісанні ненаціскнога [о] (*марфалогіі – морфологічных, фанэцічных – фонэтычных, хронологічную – храналагічна*)

і незмякчэнне [л] (*церміналогіі, дыялекталогіі, філалагічнай, аналагічнай*). Я. Лёсік аспрэчыў меркаванне І. Ваўка-Левановіча адносна ўплыву ў справе прыняцця ў беларускім правапісе незмякчэння [д] і [т] у запазычаных словах з боку польскага вымаўлення. На думку палеміста, вымаўленне тыпу *дыплёмат, тэорыя, соцыал-дэмократ* не пераймалася беларускай мовай з польскай, а было засвоена прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі непасрэдна ў Заходняй Еўропе. Я. Лёсік кваліфікаваў дзеянні І. Ваўка-Левановіча як «свядомае і наўмыснае перакручванне агульнапрынятага правапісу».

У сваім адказе І. Воўк-Левановіч сцвердзіў, што рукапіс яго кнігі быў падрыхтаваны з апорай на асабісты пункт гледжання ў галіне перадачы чужаземных слоў, які ён неаднаразова адстойваў у Інбелкульце і ў навуковым таварыстве пры БДУ. Навуковец звяртаў увагу на тое, што сяляне пераважна вымаўляюць не так, як прынята пісаць: *дзісцыпліна, арыхмеціка, капярацыя, пазіцыя, інсьпектар*. На думку І. Ваўка-Левановіча, цвёрдае вымаўленне зубных гукаў, а таксама мяккае вымаўленне [л] у замежных словах для многіх беларусаў вельмі складанае; такое вымаўленне сустракаецца толькі ў вельмі старых людзей. У сувязі з гэтым навуковец лічыў магчымым прыняць напісанні тыпу *дісьціпліна* (або нават *дісьтіпліна*)*, консьтітутія, діалект, морфологія, філологія* і да т. п.

Публікацыя І. Ваўка-Левановіча з’явілася першым выступленнем у Беларусі супраць даволі добра ўсталяваных падыходаў правапісу *д, т, з* і *л* у чужаземных словах. Увогуле, з пункту гледжання арфаграфіі запазычаныя словы складаюць спецыфічную катэгорыю лексікі ў розных мовах, працэдура іх правапіснай адаптацыі звычайна не цалкам супадае з прыёмамі, прынятымі для правапісу ўласных слоў. Арфаграмы, пра якія спрачаліся І. Воўк-Левановіч і Я. Лёсік, не абмяркоўваліся падчас вельмі падрабязнай дыскусіі на Акадэмічнай канферэнцыі; большасць яе ўдзельнікаў не лічыла іх праблемнымі.

Погляд І. Ваўка-Левановіча на правапіс запазычаных слоў з *с* (*сісцемацізуе*), здаецца, быў у нечым падобны да пазіцыі Я. Станкевіча, які дапускаў напісанне ў замежных словах спалучэння *се* (раздзел 4). Аднак Я. Станкевіч абмяжоўваў магчымасць змякчэння *с* у запазычаных словах у выпадку спалучэння яго толькі з галосным [э] і, па-другое, прадугледжваў магчымасць, але не абавязковасць такога змякчэння. Заўвага наконт неабгрунтаванасці правіла аб перадачы на пісьме мяккага [л] у запазычаннях сустракаецца ў 1928 г. таксама ў іншага аўтара, празаіка і перакладчыка Р. Бахты. З нагоды непаслядоўнасці ў напісанні запазычаных слоў з *л* у «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. (*галёп,* але *галун*; *Плятон*, але *Алах*) Р. Бахта выказаўся на карысць напісанняў з цвёрдым *л*. У гэтым пункце правапісу, а таксама ў напісанні *е* замест *э* ў замежных словах тыпу *бестыя* (арфаграму *бэ* ў словах тыпу *бэстыя* крытык называў «непатраўнай гаркавасцю»), на думку Р. Бахты, трэба было «пайсці насустрач народнай фанетыцы».

У 1928 г. выйшла з друку шостае выданне падручніка «Беларускі правапіс» Я. Лёсіка, першае дапрацаванае выданне гэтай кнігі пасля Акадэмічнай канферэнцыі. У параўнанні з чацвёртым і пятым выданнямі ў ім у прадмове былі зроблены некаторыя змены. Так, Я. Лёсік апусціў сваю ранейшую станоўчую характарыстыку правапісу Б. Тарашкевіча, якая адкрывала прадмову ў выданнях падручніка 1924–1927-х гг. Калі ў ранейшых выданнях пералічваліся фанетычны, этымалагічны, традыцыйны прынцыпы правапісу, а таксама «прынцып напісання чужаземных слоў», то ў новым выданні традыцыйны прынцып правапісу не згадваўся. Такая змена, верагодна, адлюстроўвала меркаванні Я. Лёсіка апошняга часу, які імкнуўся рэфармаваць некаторыя традыцыйныя, абумоўленыя практыкай выкарыстання правапісу спосабы напісанняў, якія, на яго думку, супярэчылі «навуковасці» прынятых арфаграфічных прынцыпаў. Таксама ў прадмове была зроблена ўстаўка з ілюстрацыямі адхіленняў ад дзейных у беларускай мове фанетычнага, этымалагічнага і «прынцыпу правапісу запазычаных слоў». Да адхіленняў ад фанетычнага прынцыпу аўтар залічыў напісанні тыпу *вецер, восень; далей, болей* (формы назоўнікаў *даль* і *боль* родн. скл. мн. л.); *гаем, роем; лялек, жнеек, песень*; *чытае, працуе* і да т. п. Адхіленнем ад прынцыпу правапісу запазычаных слоў было кваліфікавана падпарадкаванне правілам беларускай арфаграфіі напісання «вядомых шырокім народным масам як свае родныя» запазычаных слоў: *літара, дарэктар, аканом* або *аконам, калідор, камісія, камітэт, сакратар, камуністы*.

У дадзеным выпадку можна гаварыць як пра няпоўны ўлік Я. Лёсікам вынікаў дыскусій і пастаноў Акадэмічнай канферэнцыі, так і пра тэндэнцыйную трактоўку ім некаторых з’яў. Так, развагі Я. Лёсіка аб «адхіленнях» ад «прынцыпу правапісу чужаземных слоў» недастаткова бралі пад увагу тую акалічнасць, што вылучэнне ў беларускім правапісе катэгорыі засвоеных запазычаных слоў было засведчана яшчэ ў граматыцы Б. Тарашкевіча і нават раней. Яшчэ да Акадэмічнай канферэнцыі правапіснае засваенне запазычаных слоў рэалізавана ў некаторых аўтарытэтных выданнях (у другім выданні слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага, у часопісе «Асвета», газеце «Савецкая Беларусь» і інш.), а на самой канферэнцыі гэта «адхіленне» фактычна ўжо пераводзілася ў разрад правіла. Не зусім карэктна было сцвярджаць, што ў выпадку напісанняў *вецер, восень* назіраецца «адхіленне» ад фанетычнага прынцыпу правапісу, паколькі ў беларускіх гаворках магчымы, прынамсі, тры варыянты рэалізацыі гука [э] у пазіцыі пасля мяккіх зычных пасля націску: *вецер, восень / вецір, восінь / вецяр, восянь*. Варыянт напісання *вецер, восень*, такім чынам, можа разглядацца як адна з магчымых рэалізацый застасавання фанетычнага прынцыпу правапісу. Гэтаксама формы тыпу *гаем, роем; лялек, жнеек, песень* і інш. не абавязкова трэба трактаваць у кантэксце дзеяння фанетычнага прынцыпу. Яшчэ на Акадэмічнай канферэнцыі Я. Бялькевіч указваў,

што напісанні тыпу *доляй, воляй* трэба разглядаць у рамках марфалогіі, а не як арфаграфічную з’яву.

У 1927–1929 гг. з артыкуламі аб рэформе алфавіта і правапісу некалькі разоў выступіў паэт У. Дубоўка.

У галіне правапісу У. Дубоўка прапаноўваў скасаваць выключэнне аб магчымасці не скарачаць *у* пасля галосных у паэтычнай мове. Ён лічыў патрэбным удакладніць кадыфікацыю *у* і *ў, і* і *й* у пачатку слова, дзе прымальным лічыў не скарачаць пачатковае *у*, калі за ім ішлі два і больш зычныя гукі (*павінна ўжывацца*, але *адна установа, хмара ускрыла*). У. Дубоўка неадабральна выказаўся з нагоды меркавання некаторых удзельнікаў дыскусіі, якое праявілася яшчэ да Акадэмічнай канферэнцыі, аб тым, што *і* ў пачатку слова скарачаць не трэба. З гэтай пазіцыяй У. Дубоўкі салідарызавалася рэдакцыя часопіса «Узвышша», якая ў спецыяльнай зносцы пры артыкуле У. Дубоўкі «Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашай мовы» з нагоды пастановы Акадэмічнай канферэнцыі аб забароне скарачэння *і* ў пачатку слова выказалася наступным чынам: «...пытанне наконт *і*, трэба спадзявацца, пад вымогамі жыцця ўсё ж будзе перагледжана, бо згаданая пастанова не вырашае пытання ў належнай меры».

Увагу У. Дубоўкі прыцягвалі таксама прыстаўныя галосныя і зычныя. На думку паэта, для ўхілення немілагучнасці перад збегамі зычных у беларускай мове павінны ўжывацца прыстаўныя галосныя *і* і *а*, аднак для некаторых выпадкаў іх выкарыстанне трэба было абмяжоўваць (*шмат істужак*, але *белая стужка*). Прыстаўны зычны *в* павінен быў ужывацца перад пачатковым *а* тады, калі папярэдняе слова мела «адкрыты канчатак»: *вялікія вазёры, на вялікіх азёрах; ночкаю васенняй, спраўляў асяніны*.

У галіне графікі У. Дубоўка прапанаваў увесці літары для пазначэння афрыкат [дз’] і [дж]. Для іх У. Дубоўка прыдумаў спецыяльныя знакі, створаныя на аснове іншых алфавітаў; яны пэўны час выкарыстоўваліся ў часопісе «Узвышша». Таксама ён выказаўся за выключэнне з беларускага алфавіта літары *ё*, прапанаваўшы яе замяніць знакам *ö*. Нягледзячы на тое што пытанне ўвядзення спецыяльных літар у беларускі алфавіт для абазначэння афрыкат у сярэдзіне 1920-х гг. многімі ўспрымалася як важная практычная задача, далейшага развіцця гэта тэма фактычна не мела. Здаецца, не мелі асаблівага рэзанансу і іншыя прапановы У. Дубоўкі, якія ў значнай ступені лажылі ў аснову меркаванні мілагучнасці беларускай мовы.

З 1927 г. у часопісе «Асвета» сталі рэгулярна з’яўляцца публікацыі метадыстаў, прысвечаныя навучанню пісьму ў школе.

У першым нумары часопіса за 1927 г. А. Лёсік прааналізаваў вынікі ўступных іспытаў па беларускай мове ў 1926 г. на Мінскіх двухгадовых педагагічных курсах. Аўтар выявіў у пісьмовых працах абітурыентаў

наступныя адхіленні ад правапісу і граматыкі беларускай мовы, якія ён тлумачыў уплывам дыялектнага маўлення:

– напісанне *я* замест *е* ў розных граматычных формах: *існуя, працуя, тоя ці іншая пытаньне*;

– ужыванне канчатка *-а* (*-я*) замест канчатка *-ыць* (*-іць*) у формах дзеясловаў II спражэння 3-й асобы адз. л. цяп. часу абвеснага ладу*: прыводзя, знача*;

– ужыванне ненарматыўных канчаткаў прыметнікаў і назоўнікаў: *у цёмнум кутку, лепшаю светлаю будучыну, у першаю чаргу, сельскаю гаспадарку; у вёсца, на вёсцэ* і інш.;

– ужыванне часціцы *ні* замест *не* (*ні адзін, ні раз, ні буду, ні думалі, ні адукованы*) і наогул напісанне *і* замест *е: прыдзіцца, прыдзім, будзім, пірастаюць* і інш.;

– непазначэнне мяккасці зычных: *весці* (замест *весьці*), *вязці* (замест *вязьці*), *барацбу* (замест *барацьбу*) і інш.

Частымі былі і іншыя памылкі: напісанне пасля зацвярдзелых літары *і* (*карісьць, адукацію, гледзячі*), марфалагічны ўплыў рускай мовы (*чырвоные настаўнікі, гэтые, пэдагогічные курсы, к праце, настаўніцей, у жыццёвом шляху*).

Зыходзячы з гэтага агляду ў працэсе школьнага выкладання для настаўнікаў маглі быць актуальнымі адрозныя праблемы моўнага ўрэгулявання ў параўнанні з тымі, якія абмяркоўваліся лінгвістамі; правапісныя праблемы пры гэтым выразна саступалі марфалагічным.

Аўтар артыкула «Да пытання аб арфаграфіі ў школе», апублікаваным у трэцім нумары часопіса за 1927 г., С. Замбржыцкі звярнуў увагу на сацыяльныя ўмовы бытавання правапісу ў тагачасным грамадстве. На яго думку, арфаграфічныя навыкі ў школе таго часу ўяўлялі сабой «адно з самых хворых месц», а ў школах укаранілася арфаграфічная непісьменнасць.

С. Замбржыцкі тлумачыў шматлікія правапісныя памылкі вучняў «спадчынай завірушнага часу, калі наша школа перажывала поўную разруху. У час рэвалюцыйных завірух некалі было займацца правапісам. Пісалі абы-як. На напісанне не зварочвалі ніякай увагі, і памылкі набылі ўсе правы грамадзянства». Набыццю правапісных навыкаў у тагачаснай школе выдзялялася мала часу. Частка настаўніцтва да пісьма адносілася без належнай увагі. Паводле сведчання аўтара, пішучы заявы, многія тагачасныя настаўнікі рабілі памылкі «ў кожным слове». Згодна з С. Замбржыцкім, патрэбна было спрасціць тагачасны беларускі правапіс. Аўтар заўважаў, што на правапісную граматнасць адмоўна ўплывала тая акалічнасць, што ў друку нярэдка сустракалася неаднастайнае напісанне – *пэрыод, пярыяд, пэрыад, нягледзячы, ня гледзячы*. Адначасова С. Замбржыцкі зазначаў, што ведання правіл правапісу для набыцця ўстойлівых арфаграфічных навыкаў недастаткова: «Правільнае напісанне

набываецца практыкай, гэта ёсць больш тэхнічнай звыкласцю, чым веданнем правіл напісання». З такой думкай быў салідарны і іншы аўтар часопіса «Асвета», які сцвярджаў, што граматнае пісьмо засвойваецца «не дзякуючы завучванню правіл правапісу, а дзякуючы шматлікім практыкаваннем зрокавага, рука-рухавага характару, а часткова – і слыхавога».

Пра стан навучання пісьму ў тагачасных школах, якое, паводле аднаго з назіральнікаў, «дайшло да немагчымасці», могуць сведчыць наступныя заўвагі: «Вучань як папала і чым папала панура, без зацікаўленасці мазаў па паперы, спадзеючыся стаць пісьменным чалавекам <...> Настаўнікі ж у значнай большасці на гэта не зварачалі ўвагі». У адным з артыкулаў прыводзіліся прыклады падпісвання вучнямі сваіх сшыткаў (тыпу: *для испісавання зкнігі, па пісані беларуські, пісані клясні, матыматыкі, для Гіяметрый* і інш.), якія сведчылі не толькі пра невысокі ўзровень правапіснай граматнасці, але і пра нізкі ўзровень культуры пісьма ўвогуле.

У артыкуле «Правапісная пісьменнасць у нашых сямёхгадовых школах» (пяты нумар часопіса за 1928 г.) метадыста В. Самцэвіча звярталася ўвага на «велічэзную непісьменнасць», уласцівую школьнікам і ў нейкай меры настаўнікам. На яго думку, «правапісная непісьменнасць яшчэ досыць шырока пануе не толькі ў школах першай ступені, а і ў сямёхгодках, тэхнікумах і нават у ВНУ». Аўтар канстатаваў адсутнасць сістэматычнай працы ў набыцці арфаграфічных навыкаў. Паводле В. Самцэвіча, здаючы сшыткі пасля выканання пісьмовых заданняў, многія вучні нават не лічылі патрэбным уважліва правяраць напісанае. Адсутнасць знакаў прыпынку або іх няправільную расстаноўку вучні ўвогуле не лічылі за памылку. На думку аўтара, існавала патрэба «рашуча паставіць пытанне аб карыстанні літаратурнай беларускай мовай ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай працы школы і дамагацца ўсім настаўнікам правільных адказаў, бо справа развіцця мовы не ёсць толькі справа выкладчыка мовы».

Аўтар артыкула «Правапісная пісьменнасць...» лічыў, што тагачасны беларускі правапіс быў занадта складаны, не меў цвёрда ўстаноўленых прынцыпаў: «...інбелкультаўскія выданні, напрыклад, маюць адзін правапіс (слоў чужаземнага пахаджэння), “Савецкая Беларусь”, “Асвета” і інш. маюць свой правапіс. Гэта ўносіць блытаніну і ў школы. Школы фактычна аднолькавага правапісу не маюць». Сярод найбольш характэрных вучнёўскіх памылак аўтар артыкула вылучыў наступныя:

– напісанне запазычаных слоў (*сьпектакль, белятрысьціка, імпірылістычная, імпэралістычная, контэр-рэвалюцыя, інтэсыўнасьць, у театрэ* і інш.);

– напісанне ненаціскных галосных і некаторых зычных гукаў (*я добра правела вакацыі, селяне, серпамі, хочыцца, кавалычак, прыдмет, разпусьцілі, здзекі, збіраліся* і інш.);

– недастатковая ўвага да неабходнасці напісання літар *ё* і *ў* (замест іх часта пісаліся *е* і *у*);

– правапіс часціцы і прыстаўкі *не/ня*.

З прыцягненнем большай увагі да фарміравання арфаграфічных навыкаў пісьменнасць вучняў паляпшалася. З аднаго боку, некаторыя аўтары 1920-х гг. асцярожна пісалі аб нездавальняючым узроўні засваення вучнямі арфаграфічных правіл. З другога боку, у пазнейшай працы А. Лёсіка, які раней пісаў пра нездавальняючы стан фарміравання правапісных навыкаў, паведамлялася, што памылкі арфаграфічнага характару ў пісьмовых працах вучняў сямігодак выпуску 1928 г. на адрозненне ад прац навучэнцаў выпуску 1926 г. «з’яўляюцца выключэннем». Увогуле, А. Лёсік лічыў, што «з боку правапісу літар сямігодкі за два гады маюць значны прагрэс». Важна падкрэсліць, што пісьменнасць вучняў паляпшалася, нягледзячы на тое што з 1926 па 1928 г. у правапіс не было ўнесена ніякіх зменаў. Гэтыя паляпшэнні, відавочна, былі абумоўлены агульным павелічэннем увагі да авалодання правапісам у працэсе школьнага навучання.

Сярод галоўных сфер і відаў памылак у сваім пазнейшым артыкуле А. Лёсік вылучыў правапіс звонкіх і глухіх зычных (*бліскім, што-небуць, махчымасьць, найхудчэй* і інш.), злітнае і асобнае напісанне, правапіс *е – я* (*вывялі, трэцега, Алесява, Аляксеявіч, павясялела, жнівянь, ня ў сябе, уселяк, вывясяць, няцярпеньнем* і інш.).

Няма магчымасці адназначна сказаць, у якой меры тыя або іншыя асаблівасці правапісу ўплывалі на пісьменнасць вучняў. Тым не менш звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што абсалютна ўсе аўтары, якія хоць колькі дэталёва пісалі пра канкрэтныя арфаграфічныя пункты, канстатавалі наяўнасць памылак на правапіс ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных.

Авалоданне арфаграфічна бездакорным пісьмом у школе 1920-х гг. яшчэ не з’яўлялася важнай задачай, патрэба граматнага пісьма нярэдка не ўсведамлялася не толькі вучнямі, але і настаўнікамі. У вучнёўскіх працах таго часу звычайнымі былі памылкі на лагічную і граматычна правільную пабудову словазлучэнняў і сказаў, дакладнае словаўжыванне і інш. (тыпу: *мне есьць жадання, вучыцца настаўніцай, вялікая роля ляжыць на настаўнікаў; весьці актыўны ўдзел з тым, чаго яшчэ не зразумела для нашых беларусаў*). Верагодна, менавіта такія, вельмі грубыя і найбольш заўважныя, памылкі, як і ўвогуле агульная патрэба навучання чытаць і пісаць, найперш займалі ўвагу тагачасных настаўнікаў.

Правапісная камісія Інбелкульта падрыхтавала праект, які быў апублікаваны ў першай палове 1930 г. На адрозненне ад першапачатковых планаў у структуры праекта не вылучаўся раздзел, прысвечаны правапісу складаных слоў, затое быў уключаны раздзел «Паасобныя заўвагі аб слоўных формах». У напісанай С. Некрашэвічам прадмове да кнігі выкладаліся звесткі

пра фарміраванне правапісу ў папярэдні перыяд, ахарактарызоўваліся прынцыпы дзейнасці камісіі.

За аснову ў сваёй рабоце камісія ўзяла наяўную арфаграфію, аднак, сцвярджалася, жыццё паказала, што патрабуюцца дапаўненні, у сувязі з чым камісія нанова распрацавала правапіс замежных слоў і ўласных назваў. Практыка ўжывання наяўнай арфаграфіі абумовіла захаванне ў некаторых выпадках традыцыйных напісанняў.

Пэўная частка правіл у праекце была падрыхтавана ў адпаведнасці з фармулёўкамі «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча. Некаторыя выразы камісія значна перапрацавала. У працэсе гэтай пераробкі камісія выкарыстала некаторыя фармулёўкі «Праекта рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу» Я. Лёсіка.

У праекце было пастаноўлена ў словах замежнага паходжання пісаць *о (ё)* толькі пад націскам; ненаціскное [о] перадаваць праз *а (я)*. У якасці кампрамісу праект, аднак, прадпісваў пісаць *о, ё* на канцы запазычаных слоў (*бруто, какао, радыё, трыё*) і дапускаў перадачу ненаціскнога [о] у пачатку і ў сярэдзіне слоў «у спецыяльнай навуковай літаратуры ў чужаземных малапашыраных словах».

Асобныя правілы праекта 1930 г. (напрыклад, правапіс ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных) былі ўкладзены ў адпаведнасці з пастановай Акадэмічнай канферэнцыі.

У дачыненні да ўсталявання правапісу запазычаных слоў і ўласных беларускіх імёнаў камісія імкнулася аддаваць перавагу падыходам, выпрацаваным для беларускай лексікі. Пры падрыхтоўцы раздзела «Правапіс чужаземных слоў» таксама ўлічвалася практыка кадыфікацыі гэтага разраду лексікі ў падручніках Я. Лёсіка.

Некаторыя правілы ў працэсе іх фармулявання выклікалі вялікі роскід меркаванняў і былі прыняты толькі пры нязначнай перавазе пададзеных «за» галасоў, адно з іх – «кардынальнае пытанне беларускага правапісу» – правапіс ненаціскнога [э] пасля мяккіх зычных. Паводле прадмовы да кнігі пры распрацоўцы гэтага правіла пад увагу прымаліся аж шэсць падыходаў; у выніку падтрымалі апошні, згодна з якім прынялі рэдакцыю гэтага правіла, сфармуляваную на Акадэмічнай канферэнцыі. Гэтаксама вялікія спрэчкі выклікалі правілы аб напісанні пачатковых *у* і *і*. У частцы правапісу *у* насуперак пастанове Акадэмічнай канферэнцыі ў праекце была падтрымана Лёсікава пазіцыя, згодна з якой у пачатку слоў у пазіцыі пасля галосных *у* скарачацца не мог; не адбывалася і скарачэння прыназоўніка *у*: *звярні увагу, казалі усе, была у нас, была у іх*. Вельмі актыўна дыскутавалася таксама правіла аб непазначэнні асіміляцыйнага змякчэння свісцячых перад наступнымі мяккімі зычнымі (у праекце былі прыняты напісанні: *звер, сляза, цвісці, дзве, дзверы*). Зафіксаваныя ў праекце рэдакцыі правіл аб напісанні

пачатковых *у* і *і*, а таксама рэдакцыя правіла аб непазначэнні на пісьме асіміляцыйнага змякчэння свісцячых былі прыняты ў самы апошні момант, калі члены камісіі чыталі карэктурныя адбіткі праекта.

У цэлым у праекце 1930 г. былі захаваны асноўныя правілы, сфармуляваныя ў 1918 г. Б. Тарашкевічам. У сувязі з тым, што ў 1928 г. споўнілася дзесяць гадоў з часу выхаду ў свет «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча (гэта акалічнасць была адзначана спецыяльнай публікацыяй Я. Лёсіка ў папулярным друку), а ў Вільні адбыўся судовы працэс над дзеячамі заснаванай Б. Тарашкевічам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, які актыўна асвятляўся ў друку савецкай Беларусі, у БССР у гэты час адбывалася своеасаблівая ідэалагічна-палітычная «кананізацыя» Б. Тарашкевіча, якая міжволі паўплывала і на абмеркаванне моўных пытанняў. Так, нягледзячы на шырокую ўжывальнасць у савецкай Беларусі правапісных падручнікаў Я. Лёсіка, з 1928 г. асабліва часта пісалі пра існуючую арфаграфію як пра «тарашкевічаўскі правапіс», «правапіс Б. Тарашкевіча». Факт узвышэння ў савецкай Беларусі Б. Тарашкевіча ў якасці палітычнай фігуры аўтаматычна паніжаў шанцы любога з савецкіх рэфарматараў гэтага часу ўнесці радыкальныя змены ў існуючы правапіс.

Частка правіл Б. Тарашкевіча ў праекце 1930 г. зазнала рэдакцыйныя змены, асобныя правілы былі зменены істотна, а частка правіл не мела аналагаў у правапісе Б. Тарашкевіча. Верагодна, меў рацыю адзін з пазнейшых крытыкаў гэтага кампраміснага праекта, калі сцвярджаў, што «ўся рэформа звялася да надзвычайна абмежаванай колькасці змяненняў. Праект мы можам назваць толькі ўдакладненай зводкай таго, што мелася раней».

Цікавая асаблівасць праекта – разам з агульным тэкстам у дадатку змешчаны прыватныя меркаванні асобных членаў камісіі. Так, напрыклад, С. Некрашэвіч выказваў нязгоду з тым, што некаторыя прынятыя камісіяй папраўкі да праекта супярэчылі генеральнаму фанетычнаму прынцыпу правапісу, і прапаноўваў адпаведныя рэдакцыі правіл. З шэрагам прапаноў С. Некрашэвіча згаджаўся Я. Купала. Асобна сфармулявалі свае змены Я. Лёсік і Я. Колас, якія, у прыватнасці, лічылі патрэбным звузіць дзеянне фанетычнага прынцыпу пры напісанні спалучэнняў зычных (прапаноўвалі напісанні *чэшскі, таварышскі, таварышства, множства, парыжскі, кіргізскі, братскі, студэнтскі* замест *чэскі, таварыскі, таварыства, мноства, парыскі, кіргіскі, брацкі, студэнцкі*). Шэраг падобных зменаў прапанаваў і В. Ластоўскі, які лічыў патрэбным ужываць напісанні *таварышскі, пражскі, братскі, студэнтскі*. Акрамя таго, В. Ластоўскі прапаноўваў замест мяккага знака над літарамі *з, с* і *ц* «пісаць рыску». У. Чаржынскі прапаноўваў не ўжываць на пісьме падвойных зычных (пісаць: *вяселе, раля, здарэне, калосе*), пры перадачы спалучэнняў *сч* і *зч* адлюстроўваць на пісьме асіміляцыю па шыпячасці і глухасці (пісаць: *перапішчык, прыкашчык, аб'ешчык*) і інш.

Шляхам дакладнага прадстаўлення поглядаў розных навукоўцаў у правапісным праекце 1930 г. была падтрымана традыцыя, заснаваная падчас падрыхтоўкі выніковага тома матэрыялаў Акадэмічнай канферэнцыі.

Актыўнае грамадскае абмеркаванне правапісных праблем у Беларусі ў другой палове 1920-х гг. было звязана не толькі (магчыма, і не столькі) з тым, што тагачаснай арфаграфіі былі ўласцівы пэўныя недахопы, але і (колькі) з некаторымі знешнімі фактарамі:

– маладым узростам беларускай літаратурнай мовы, якая не абапіралася на старажытную літаратурна-пісьмовую традыцыю і, адпаведна, дапускала магчымасць пэўных інтэрвенцый у правапіс;

– («рэвалюцыйна»-адраджэнчым) этапам, на якім знаходзілася ў гэты час беларускае грамадства;

– існаваннем сярод некаторых мовазнаўцаў рэшткаў перажыткаў, звязаных з наданнем графіцы і правапісу неўласціва вялікага значэння як элементаў моўнай сістэмы, празмернай увагі да літар і правапісу як знешніх праяўленняў мовы і віду навуковай рэфлексіі.

## Пытанні для самакантролю

1. Якімі падыходамі кіравалася Правапісная камісія Інбелкульта на пачатковым этапе сваёй дзейнасці?

2. З якімі момантамі правапіснай кадыфікацыі беларускай мовы быў не згодзен І. Воўк-Левановіч?

3. Чаму можна сказаць, што ў шостым выданні падручніка «Беларускі правапіс» Я. Лёсіка былі не ўлічаны вынікі Акадэмічнай канферэнцыі?

4. Якія праблемныя пытанні бытавання правапісу ў грамадстве вылучалі аўтары часопіса «Асвета»?

5. Што ўяўляў сабой падрыхтаваны ў выніку дзейнасці Правапіснай камісіі Інбелкульта «Беларускі правапіс (праект)» 1930 г.?

## Рэкамендаваная літаратура

*Замбржыцкі*, *С.* Да пытання аб арфаграфіі ў школе / С. Замбржыцкі // Асвета. 1927. № 3. С. 38–42 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 213–218.

*Лёсік*, *А.* Ступень пісьменнасці вучняў 7-годак выпуску 1928 г. / А. Лёсік // Асвета. 1928. № 8. С. 86–94 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 239–247.

*Лёсік*, *Я.* Праект рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу / Я. Лёсік // Асвета. 1929. № 3. С. 23–35 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 275–287.

*Самцэвіч, В.* Правапісная пісьменнасць у нашых сямёхгадовых школах / В. Самцэвіч // Асвета. 1928. № 5–6. С. 80–91 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 227–238.

*Цвяткоў*, *Л.* Увагі аб правапісе і скланенні чужаземных уласных іменняў у беларускай мове / Л. Цвяткоў // Полымя. 1928. № 9. С. 199–216 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 258–274.

# 7. ВЫПРАЦОЎКА Ў 1920-я гг. КАНЦЭПЦЫІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Падзеі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны хоць і нязмерна ўскладнілі і абцяжарылі штодзённае жыццё беларускага народа, тым не менш садзейнічалі інтэнсіфікацыі яго грамадскага і нацыянальнага самаўсведамлення. У 1918–1920-я гг. адбылося абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і БССР, былі прапанаваны важныя навукова-грамадскія ініцыятывы (заснаваны Беларускае навуковае таварыства ў Вільні, Бюро па ўкладанні і перакладзе падручнікаў у Мінску, Мінскі беларускі педагагічны інстытут, у якім была створана Камісія па выпрацоўцы навуковай тэрміналогіі, і інш.). У гэты час у Вільні, Мінску, Петраградзе і іншых гарадах друкаваліся разнастайныя газеты і часопісы (газета «Дзянніца» ў Петраградзе і інш.), была выдадзена вялікая колькасць важных для беларускай грамадскай думкі, адукацыі і культуры беларускамоўных кніг («Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, «Геаграфія Беларусі» А. Смоліча, «Павадыр па Менскай краёвай выстаўцы. Старасветчына. Мастацтва» А. Іпеля, «Вайсковая стылістыка» Зніча, «Праграма сістэматычнага курса арыфметыкі і тэрміналогія», «Праграмы беларускай пачатковай школы», «Пяхота. Часць 1. Фармальная муштра», «Зборнік “Нашай нівы”» і інш.). Абвяшчэнне беларускай мовы дзяржаўнай спачатку ў БНР, а потым у БССР і звязанае з гэтым пашырэнне яе грамадска-культурных функцый, стварэнне ў першай палове 1920-х гг. сеткі школ і культурна-асветных устаноў, небывалы ўздым кнігадрукавання ставілі на парадак дня праблему фарміравання літаратурнай, нармаванай формы беларускай мовы. Змены ў грамадскім бытаванні беларускай мовы патрабавалі ад яе, паводле слоў С. Некрашэвіча, «надзвычайных высілкаў»: зрабіўшыся дзяржаўнай, яна павінна была вельмі хутка адлюстраваць «усе здабыткі агульначалавечай культуры, усе тыя ідэі, што ў іншыя мовы пранікалі паступова, на працягу,

можа, цэлых вякоў». Пашырэнне грамадскіх функцый беларускай мовы, назапашванне ўсё большай колькасці беларускамоўных тэкстаў і ўзнікненне іх масавага спажыўца, пэўная навізна беларускай мовы ў якасці інструмента грамадскай думкі, а таксама ўцягнутасць у грамадска-культурную дзейнасць вялікай колькасці людзей спрыялі разгортванню абмеркавання асноў беларускай літаратурнай мовы. Паколькі прафесійныя лінгвісты канца XIX – пачатку XX ст. засяроджваліся найперш на гісторыі і дыялекталогіі беларускай мовы і, увогуле, мала цікавіліся вывучэннем сучасных моў, асэнсаванне канцэпцыі беларускай літаратурнай мовы было новым напрамкам мовазнаўчай дзейнасці.

Як фактар грамадскага жыцця нацыянальная мова беларускага народа прабівала сабе дарогу ў пачатку XX ст. у канкурэнцыі з функцыянальна развітымі і структурна аформленымі рускай і польскай літаратурнымі мовамі. Пішучы пра фарміраванне беларускай літаратурнай мовы як будучай агульнанароднай, у 1911 г. сацыяльнай яе асновай А. Луцкевіч вызначаў сялянства і яшчэ называў яе «простай». Перад беларускай мовай стаяла задача пераадолець гэту грамадскую ізаляванасць. На першых этапах эмансіпацыі беларускай мовы ў некаторых грамадскіх слаях існавалі погляды, што яна не зможа быць разбудаванай да ўзроўню літаратурнай мовы і выконваць функцыі высокай стандартнай мовы.

Напрыклад, выключна адмоўна характарызаваў тагачасную беларускую мову ў 1918 г. на старонках петраградскага часопіса «Чырвоны шлях» загадчык Петраградскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камітэта (Белнацкама) Р. Каўшыла, які для пераадолення культурнай адсталасці краю лічыў патрэбным здымаць усе «штучныя напластаванні», да якіх ён залічваў і так званую, паводле яго слоў, літаратурную беларускую мову. Р. Каўшыла меркаваў, што беларуская літаратурная мова створана «на задворках панска-шляхецкай кухні», а яе культываванне з’яўляецца «злачынствам».

Аўтары, якія пісалі ў канцы 1910-х – пачатку 1920-х гг. пра беларускую мову (усе яны атрымалі адукацыю на рускай або польскай мове), у той або іншай ступені суадносілі яе з гэтымі мовамі. Руская і польская мовы былі важнымі пунктамі параўнання падчас абмеркавання праблем беларускай літаратурнай мовы і таму, што ў працэсе сваёй разбудовы беларуская літаратурная мова ўбірала ў сябе тыя або іншыя сродкі гэтых моў або засвойвала нейкія мадэлі і правілы, прынятыя ў рускай або польскай мове. Гэта акалічнасць магла атрымліваць неаднолькавую рэакцыю сярод розных носьбітаў беларускай мовы.

Так, напрыклад, студэнт Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Петраградзе, журналіст і грамадскі дзеяч Павел Любецкі ў сваім напісаным на рускай мове артыкуле «Аб беларускай літаратурнай мове» 1918 г. (апублікаваны ў часопісе «Чырвоны шлях») асэнсоўваў тую акалічнасць, што ў беларускай літаратурнай мове многа польскіх слоў і зваротаў. Значны ўплыў

на беларускую літаратурную мову з боку польскай мовы аўтар тлумачыў гістарычнымі абставінамі фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы. У выніку гістарычнага развіцця тагачасная беларуская літаратурная мова, на думку П. Любецкага, больш блізкая да гаворак Заходняй, чым Усходняй, Беларусі. Перашкодай для збалансаванага развіцця беларускай літаратурнай мовы аўтар лічыў тую акалічнасць, што ў яе стварэнні ў той час удзельнічалі нібыта толькі прадстаўнікі заходняй часткі Беларусі.

Важны артыкул «Думкі аб беларускай мове», у якім абмяркоўваліся розныя фактары прыняцця грамадствам беларускай літаратурнай мовы і яе ўнутранага развіцця, апублікаваў у 1918 г. на рускай мове ў петраградскай газеце «Дзянніца» загадчык навукова-статыстычнага аддзела Белнацкама, гісторык і палітычны дзеяч Яўсей Канчар. Адраджэнне беларускай літаратурнай мовы, якое адбывалася на яго вачах, было для яго, з аднаго боку, разнавіднасцю пэўнага «сацыяльнага цуду», з другога боку, стварала сабой гістарычную эпоху. Падобна да П. Любецкага Я. Канчар аддаваў належнае той акалічнасці, што на асаблівасці фарміравання беларускай літаратурнай мовы ўплывала тое, што многія тагачасныя беларусы былі выхаваны на рускай або польскай культуры. Беларускія інтэлігенты, якія засвоілі польскую або рускую мову ў выпадку іх удзелу ў будаванні беларускай культуры, паводле Я. Канчара, не маглі ў належнай меры абстрагавацца ад гэтых моў. Пераход або вяртанне русіфікаваных або паланізаваных беларусаў да беларускай мовы не мог даваць гэтым людзям тых сацыяльных выгод, якія яны мелі, пераходзячы ў свой час на рускую або польскую мову (магчымасць здабывання навуковых ведаў, а таксама задавальненне сваіх грамадзянскіх і прафесійных патрэб). Адзінай перавагай у засваенні беларускай мовы з боку такіх дзеячаў магла быць магчымасць спасцігаць праз беларускую мову «дух» беларускага народа, але катэгорыя зацікаўленых у такой патрэбе людзей абмяжоўвалася «сацыёлагамі», людзьмі, якія мелі ўнутраную патрэбу ў глыбокім вывучэнні грамадства. Паколькі ў параўнанні з рускай і польскай мовамі тагачасная беларуская літаратурная мова была яшчэ беднай, а яе «дзіцячыя сілы» адчуваліся, паводле Я. Канчара, «у кожным слове, у кожным радку», паколькі яна не выкарыстоўвалася ў навуцы, а беларуская літаратура яшчэ не адлюстравала ў належнай меры веліч беларускага народа, пастолькі, сцвярджаў Я. Канчар, было натуральна, што прадстаўнікі апалячанай або русіфікаванай беларускай інтэлігенцыі глядзелі на тагачасную беларускую літаратурную мову як на «нешта вельмі штучнае, адарванае ад жыцця». Зрэшты, і сам аўтар прызнаваў «значную штучнасць» тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, якую ён тлумачыў яе маладосцю.

Каштоўнае ў артыкуле Я. Канчара тое, што ён падкрэсліў асаблівасць погляду на беларускую мову ў залежнасці ад таго, хто́ пра яе разважае, ад моўных біяграфій і сфарміраваных маўленчых навыкаў розных людзей, а

таксама грамадскага статусу і становішча беларускай мовы. Прыроджаныя носьбіты беларускай мовы нават сяляне і рабочыя, у тым выпадку, калі яны навучыліся чытаць і пісаць на польскай або на рускай мове, сцвярджаў Я. Канчар, будуць лепш успрымаць напісанае на гэтых мовах у параўнанні з успрыманнем тэкстаў на беларускай літаратурнай мове. Гэтаму парадоксу пазней аддавалі належную ўвагу і іншыя дзеячы. Напрыклад, наркам асветы А. В. Баліцкі ў 1925 г. заўважаў, што з прычыны кантактаў з панамі (раней) і чыноўнікамі беларускія сяляне чулі і чуюць рускую мову і нават імкнуцца на сходах гаварыць па-руску, у выніку чаго з'явілася прывычка да рускай мовы, яна для іх бліжэй, чым была раней. Тым не менш А. Баліцкі рабіў вывад, што руская мова селяніну мала зразумелая, на ёй ён мог азначыць не больш за дзясятак – два дзясяткі паняццяў, а беларускі лексікон селяніна налічваў больш за тысячу паняццяў. У такой сітуацыі, лічыў А. Баліцкі, руская мова «ніяк не можа замяніць селяніну "сваёй мужыцкае мовы"». Я. Канчар лічыў, што калі ў такіх малаадукаваных у беларускай мове мас знойдуцца свае правадыры, якія на беларускую мову будуць глядзець прадузята, то гэта можа даць вынікам яе «траўлю» і поўнае непрызнанне масамі як «шліфаванай роднай мовы». Галоўнымі праблемамі ў выпрацоўцы тагачаснай літаратурнай мовы Я. Канчар лічыў яе неўжывальнасць у сферах навукі, мастацтва і тэхнічных ведаў, а таксама неразвітасць мастацкай літаратуры. Сам факт вагання паміж рознымі літаратурнымі мовамі, сцвярджаў крытык, адмоўна ўплывае на выпрацоўку беларускай літаратурнай мовы.

Дыскусіі аб лёсе беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. адбываліся ва ўмовах, калі сцвердзілася беларуская дзяржаўнасць і быў юрыдычна аформлены статус беларускай мовы. Асэнсаванню гэтых пытанняў спрыяла агульнае функцыянальнае развіццё беларускай мовы, у тым ліку інтэнсіўнае пранікненне ў сферы, у якіх яна раней не ўжывалася або выкарыстоўвалася вельмі абмежавана (навука, справаводства). У залежнасці ад таго, якой уяўлялася кадыфікатарам і іншым дзеячам 1920-х гг. правільная літаратурная мова, і ад таго, як яны бачылі яе далейшае развіццё, тыя або іншыя моўныя сродкі маглі атрымліваць тую або іншую, станоўчую або адмоўную ацэнку. У гэты час у друку абмяркоўваліся шматлікія прыклады словаўжывання, зараджалася навукова-практычная дысцыпліна «Культура мовы» і г. д. (раздзел 11). Уласна, у гэты час найбольш выразна адбываўся пераход беларускай мовы ад мовы прыгожага пісьменства да поліфункцыянальнай літаратурнай мовы. Найбольш важнымі праблемамі гэтых гадоў у працэсе асэнсавання феномена беларускай літаратурнай мовы былі наступныя:

1. У якіх адносінах беларуская літаратурная мова знаходзіцца з народнай беларускай мовай?

2. У якіх адносінах беларуская літаратурная мова знаходзіцца з рускай і польскай мовамі?

3. У апоры на якія сродкі трэба разбудоўваць беларускую літаратурную мову (і, больш вузка, яе навуковую тэрміналогію)?

4. Што такое «ўзорная», «правільная» беларуская мова?

Кожнае з гэтых пытанняў у розных носьбітаў беларускай мовы (і па-за гэтым колам) магло атрымліваць неаднолькавыя адказы.

На адрозненне ад сітуацыі папярэдняга дзесяцігоддзя ў 1920-я гг. у Беларусі ўжо пераважна не абмяркоўвалася пытанне: ці з'яўляецца беларуская мова самастойнай і ці можа яна выконваць разнастайныя грамадскія функцыі? Тым не менш некаторыя кіраўнікі і частка інтэлігенцыі не хацелі прызнаваць беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, лічылі яе беднай, грубай, штучна створанай з польскіх і рускіх элементаў. Нігілістычныя адносіны да беларускай мовы можна праілюстраваць на прыкладзе публікацыі ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1926 г. рускамоўнага артыкула «Варожасць з-за мовы», у якім прапаноўвалася адмяніць «гвалтоўнае» ўвядзенне беларускай мовы ў школы і ўстановы. Аўтар артыкула абгрунтоўваў непрыдатнасць беларускай мовы ў тым ліку яе якасцю. Згодна з аўтарам, у розных рэгіёнах беларуская мова нібыта моцна адрознівалася. Яе літаратурная разнавіднасць нібыта ў значнай ступені наследавала мове «часоў цара Баторыя», на 40–50 % складалася з паланізмаў і моцна адрознівалася ад народнай. Будучы ўведзенай у школы і ўстановы Беларусі, беларуская мова, паводле аўтара публікацыі, «служыла толькі для таго, каб псаваць, перакручваць фанетыку, стыль, граматыку чыста рускай мовы». Цалкам «прыдуманай» у 1920-я гг. і пазней лічылі беларускую мову прадстаўнікі расійскай эміграцыі.

У спрэчках пра асаблівасці беларускай літаратурнай мовы надзвычай важным было пытанне пра сувязь беларускай літаратурнай мовы з народнай.

Неабходнасць абапірацца ў працэсе фарміравання літаратурнай мовы на народныя моўныя сродкі абгрунтавана ў артыкуле «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» Я. Лёсіка (1924–1925). Ён даволі крытычна паставіўся да культываванай тады версіі літаратурнай мовы, палемічна сцвярджаючы, што яна мала падобна да «сапраўднай жывой беларускай або крывічанскай ці крывіцкай мовы ды прыпадобнілася да адзежы з чужога пляча... Пераймаючы чужыя сінтаксічныя формы, чужыя фразеалагічныя звароты, наша літаратурная мова адрываецца ад народнага (дыялектычнага) грунту ды становіцца штучнай, нежывой, мёртвай». Для фарміравання найбольш пажаданай версіі літаратурнай мовы, лічыў Я. Лёсік, трэба «перш-наперш стаць на народны, дыялектычны грунт і ў сваім развіцці пайсці за развіццём живое разгаворнае мовы». Для авалодання гэтай версіяй мовы тымі людзьмі, якія дрэнна ведалі беларускую мову, рэкамендавалася «вучыцца ў самога народа», а пры адсутнасці такой магчымасці – «уважна чытаць народную вусную творчасць у форме песень, казак, загадак, прыказак, дзе мова шліфавалася соткі год». Падчас укладання сваіх падручнікаў Я. Лёсік надзвычай шырока выкарыстоўваў у якасці ўзорнага моўнага матэрыялу народную творчасць. І ў

тэрміналагічнай сферы Я. Лёсік – прыхільнік «этнаграфічнага падыходу» да яе фарміравання, згодна з якім у працэсе стварэння тэрміналогіі безумоўны прыярытэт павінен аддавацца моўным сродкам, пацверджаным у народнай мове; затое наватворы, якія мелі «штучнае», ненароднае паходжанне, прызнаваліся непажаданымі.

У адной са сваіх пазнейшых прац Я. Лёсік падкрэсліваў вялікае значэнне пісьменнікаў для фарміравання агульнанацыянальных моўных узораў мовы. У працэсе пераходу народнай мовы ў літаратурную моўныя факты «стылізуюцца або гарманізуюцца, як гарманізуюцца, напрыклад, народныя песні. Стылізацыя народных дыялектаў адбываецца праз пісьменнікаў... мова пісьменнікаў або літаратараў звычайна становіцца моваю літаратурнаю».

Выказанае ў 1924 г. меркаванне Я. Лёсіка аб неабходнасці культываваць літаратурную мову, як мага больш блізкую да народнай, – яго ўстойлівае перакананне. У 1917 г. Я. Лёсік выкладаў сваё разуменне літаратурнай мовы і месца ў ёй народных сродкаў наступным чынам: «Літаратурная мова – гэта мёд, што збіраецца пчоламі з розных кветак і раслін. Чым больш сокаў з усялякіх кветак уходзіць у склад мёду, тым ён прыемнейшы, салодшы, смачнейшы і пахучы. Літаратурная мова павінна, цвёрда трымаючыся агульнага нацыянальнага грунту, лучыць да сябе ўсе тыпічныя характэрныя словы, прыслоўі, выразы і іншыя асаблівасці тых мясцовасцяў, гаворак таго народа, моваю каторага яна ёсць... Кожнае адметнае слова, кожны асаблівы выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны з пашанай страчаць і з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы... Наша мова так багата, пекна і гучна, што часам, дапраўды, не ведаеш, якое слова, які выраз лепей ужыць, – ажно вочы разбягаюцца». Як у 1917 г., так і пазней Я. Лёсік разглядаў развітасць літаратурнай мовы ў залежнасці ад таго, наколькі поўна яна будзе выкарыстоўваць народныя моўныя сродкі. Ён раіў спецыяльную ўвагу звяртаць на адметныя словы, «усё асаблівае, цікавае, беларускае».

Народна-фальклорнае маўленне хоць на яго і спасылаліся як на выключна аўтарытэтную крыніцу, тым не менш не было аднародным і безумоўна прыдатным матэрыялам для будаўніцтва літаратурнай мовы. Сучасныя даследчыкі адзначаюць, што, напрыклад, мова беларускіх прыказак «стракаціць» лексікай, якая трапіла ў іх у працэсе зносін з іншымі народамі, а менавіта русізмамі, украінізмамі, паланізмамі, цюркізмамі, літуанізмамі, германізмамі, ідышызмамі. Адпаведна, фальклор пастаўляў для літаратурнай мовы не любыя, а пераважна толькі адборныя формы народнага маўлення, у працэсе фарміравання літаратурнай мовы некаторыя сродкі вуснай народнай творчасці і народнага маўлення павінны былі адсейвацца. Так, напрыклад, лічылася, што ў літаратурную мову не трэба дапускаць запазычанні новага часу, няхай і добра засвоеныя народнай мовай.

Друкуючы ў 1921 г. «Практычную граматыку беларускай мовы», Я. Лёсік не толькі прымаў ранейшае, абапёртае ў значнай ступені на фанетычны прынцып, арфаграфічнае ўрэгуляванне, але і бачыў важкія падставы яго выкарыстання ў беларускім правапісе. Фанетычны правапіс Я. Лёсік называў «найбольш педагагічным і дэмакратычным», указваў на з'яўленне яго прыкмет у пісьмовай беларускай мове яшчэ з XV стагоддзя і – як на непажаданым варыянце развіцця для беларускай мовы – спецыяльна спыняўся на недахопах «арыстакратычнага» гістарычнага правапісу. Адхіленне «арыстакратычных» з'яў у мове ён пашыраў таксама на граматыку і лексіку.

Цесная сувязь літаратурнай мовы з народнай была сцверджана і ў іншай важнай публікацыі сярэдзіны 1920-х гг. – артыкуле С. Некрашэвіча «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы». Артыкул быў падрыхтаваны ў рамках выпрацоўкі канцэпцыі ўкладання слоўніка «жывой беларускай мовы». У працэсе падрыхтоўкі такога слоўніка, лічыў С. Некрашэвіч, патрэбна ўлічваць тры асноўныя крыніцы – народную мову, літаратурную мову і тэрміналогію. Тыя акалічнасці, што тагачасная літаратурная мова нязначна адрознівалася ад народнай і што літаратурная мова і тэрміналогія былі яшчэ «не апрацаваны», дазвалялі паспяхова аб'яднаць названыя крыніцы ў рамках падрыхтоўкі аднаго слоўніка. Значэнне народнай мовы, на думку аўтара, абавязкова трэба мець на ўвазе ў сітуацыі, калі працэс фарміравання літаратурнай мовы яшчэ не закончыўся і не «выліўся ў нешта канчатковае, сталае, абавязковае». Выступаючы ў лістападзе 1926 г. на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, С. Некрашэвіч сцвердзіў, што асноўнае патрабаванне, якое ставілася ў той час у Інбелкульце пры апрацоўцы беларускай літаратурнай мовы, – крытэрый яе блізкасці да народнай мовы: «Нашым ідэалам з'яўляецца адзінства літаратурнай і народнай мовы, і мы спадзяемся, што гэтага адзінства дасягнем». Аднак, падобна да Я. Лёсіка, С. Некрашэвіч не меў ілюзій адносна народнага маўлення як цалкам прыдатнага матэрыялу для літаратурнай мовы і папярэджваў, што да кожнага слова, якое бытуе ў Беларусі, трэба ставіцца абачліва і не ўключаць у слоўнік непажаданых русізмаў ці паланізмаў.

Імкненне зрабіць беларускую літаратурную мову як мага больш «народнай» было ў 1920-я гг. «усеахопным», у той або іншай ступені яно сягала на ўсе моўныя ўзроўні. У галіне фанетыкі яно, напрыклад, праяўлялася ў абмежаванні гука [ф] у запазычаных словах, замест якога маглі ўжывацца формы з *хв, х* або *п* тыпу *хвабрыка, хунт, торп*. Такія формы не толькі былі звычайнымі ў літаратурна-мастацкай практыцы, але і непаслядоўна падаваліся ў граматыках і агульных слоўніках. Таксама яны сустракаліся ў афіцыйна-дзелавым і навуковым стылях (*атрымлівае лірычную ахварбоўку, царкоўная ахварбоўка, кахляны завод, кахляная прамысловасць, тарпяных распрацовак, скурана-хутравая прамысловасць*) і нават маглі прадпісвацца

ў тэрміналагічных слоўніках, параўн.: *звер хутровы* ‘пушны’ (слоўнік геаграфічнай тэрміналогіі), *ахварбоўка гуку* (слоўнік музычных тэрмінаў); *хурманка* (слоўнік юрыдычнай тэрміналогіі). Фіналь запазычаных слоў *-ment* звычайна перадавалася ў беларускіх словах як *-мант*, адпаведныя формы маглі служыць асновай для стварэння новых слоў; гэта тэндэнцыя назіралася нават у тэрміналагічных слоўніках: *дакумант, дакумантальны, струмант* (слоўнік юрыдычнай тэрміналогіі).

Арыентацыя літаратурнай мовы на мову народных твораў, скіраванасць на народныя моўныя сродкі мовы мастацкай літаратуры, фактычнае прыпісванне мове фальклорных твораў і народнай мове ў цэлым нарматыўнага характару давалі вынікам фарміраванне літаратурнай мовы, максімальна набліжанай да народнай. Такая арыентацыя падтрымлівалася і ў тэарэтычных пабудовах пісьменнікаў, якія выказваліся на моўныя тэмы. Напрыклад, У. Дубоўка лічыў, што беларускую літаратурную мову «нармальным парадкам» трэба развіваць на аснове вельмі багатай народнай мовы і запазычваць толькі міжнародныя словы тыпу *рэвалюцыя, пралетарыят, рэспубліка, саветы.* Змагаючыся з нівеліраваным стылем у літаратурнай творчасці, К. Чорны падкрэсліваў, што беларуская мова – гэта «мова беларускіх казак і песень», а яе самабытнасць і хараство змяшчаюцца ў «фразеалогіі народнае гутаркі»[1].

Разам з арыентацыяй літаратурнай мовы на народную існавала і разуменне той акалічнасці, што любая стандартная мова ў працэсе свайго развіцця непазбежна выкарыстоўвае таксама нейкія спецыяльныя спосабы фарміравання, адсутныя ў народнай мове, у сувязі з чым мае ў некаторай ступені штучны характар. Гэту яе асаблівасць тлумачылі ў сваіх артыкулах і падручніках Я. Лёсік, П. Бузук і І. Воўк-Леванович. Апошні звяртаў увагу на тое, што штучнасць літаратурнай мовы ўзнікае ўжо ў працэсе выкарыстання народнай мовы як інструмента мастацкай літаратуры, бо мастацкая творчасць па сваёй прыродзе патрабуе мастацкасці і, значыць, у пэўным сэнсе – «штучнасці». У беларускай сітуацыі першай паловы 1920-х гг. гэта тэндэнцыя тым больш мела сілу ў сувязі з выхадам беларускай мовы па-за сферы бытавога і мастацкага маўлення. Поруч з авалоданнем беларускай літаратурнай мовай інтэлектуальнай, навукова-тэхнічнай і справаводчай сферамі яна непазбежна паступова аддзялялася, аддалялася ад народнай мовы. У 1925 г. адзін з назіральнікаў пісаў, што існуе многа спрэчак і «частых нападак» на беларускія літаратурныя выданні за тое, што ў іх ужываецца мала «мужыцкіх слоў». У адказ на крытычную заўвагу аб тым, што беларуская народная мова моцна адрозніваецца ад літаратурнай, у 1926 г. П. Бузук спасылаўся на многа больш далёкую ад народнай рускую мову.

[1] Слова «фразеалогія» ў 1920-я гг. яшчэ не выкарыстоўвалася ў яго сучасным значэнні; тут яно ўжыта ў значэнні ‘сінтаксіс; спосаб спалучэння слоў і сказаў’.

Калі мець на ўвазе спецыфіку папярэдняга, нашаніўскага, перыяду развіцця беларускай літаратурнай мовы, то арыентацыю пры фарміраванні літаратурнай мовы на народныя сродкі ў 1920-я гг. можна лічыць найбольш чаканым, «натуральным» шляхам яе развіцця. Іншыя падыходы – скіраванасць у значнай ступені на нормы, прынятыя ў нейкай суседняй (рускай або польскай) мове; арыентацыя на старабеларускую пісьмовую мову – выглядалі б хутчэй дзіўнымі, нелагічнымі. Аднак арыентацыя ў фарміраванні і развіцці літаратурнай мовы на народныя сродкі не вырашала аўтаматычна ўсіх праблем нармалізацыі.

Па-першае, спецыфічны пункт напружання стварала тая акалічнасць, што скіраванасць на народныя моўныя рэсурсы ў параўнанні з альтэрнатыўнымі напрамкамі развіцця (выкарыстанне іншай ці старабеларускай мовы) у большай ступені прадугледжвала аспект стварэння літаратурнай мовы, што заўсёды не можа быць зусім простым. Многія, раней выключна вусныя, моўныя рэсурсы павінны былі стаць будаўнічым матэрыялам і для стварэння тых новых стыляў (навука, справаводства), для якіх вялікае значэнне мае пісьмовая практыка. Нават у тых выпадках, калі багатыя сродкі народнай мовы добра вядомы носьбітам і кадыфікатарам, у працэсе іх увядзення ў літаратурную мову яны яшчэ павінны былі перажыць этап іх прышчаплення ў мове, засваення як сродку літаратурнага выказвання. Сцвярджэнне многіх народных слоў у літаратурнай мове было вельмі хуткім, «імгненным», але так адбывалася не заўсёды. Часам нейкія звычайныя, фактычна «агульнанародныя» моўныя сродкі пры іх вывядзенні па-за бытавы ўжытак і ўключэнні ў літаратурны зварот маглі аспрэчвацца з прычыны непажаданых асацыяцый або на працягу пэўнага часу захоўваць адценне пэўнай навізны. Напрыклад, на падставе той акалічнасці, што ў народнай мове слова *прылеглы* значыла ‘затхлы; такі, які пачынае гніць’, А. Лёсік аспрэчваў яго выкарыстанне ў складзе геаметрычнага тэрміна *прылеглы адцінак* (*адрэзак*) і лічыў патрэбным выкарыстоўваць (ідавочна, недасканалую) форму *прыляжачы*. Адзін з крытыкаў «Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г. крытычна выказваўся ў сувязі з прадстаўленнем у слоўніку ў якасці аднаго з эквівалентаў рус. *астма* слова *дыхавіца*: «*дыхавіца*, як вядома, у каня бывае». Пра навізну ўжывання ў літаратурнай мове нейкіх вядомых слоў ускосна можа сведчыць тая акалічнасць, што, быўшы ўведзенымі ў літаратурную практыку, яны, аднак, не адразу станавіліся «бясспрэчнымі» і яшчэ пэўны час ужываліся поруч з іншымі моўнымі рэсурсамі. Сам факт таго, што носьбіты былі сведкамі ўваходжання ў літаратурную мову пэўных моўных сродкаў, што літаратурная мова тварылася ў іх «на вачах», у шэрагу выпадкаў мог абумоўліваць негатыўную або асцярожную ацэнку тых або іншых моўных сродкаў. У сувязі з засваеннем новых сфер, бадай, яшчэ ніколі да таго беларуская літаратурная мова не сутыкалася з патрэбай засваення разнастайнай народнай лексікі ў такіх вялікіх аб’ёмах.

Па-другое, спрэчным магло быць стаўленне да новых запазычанняў з рускай мовы, якія ў нейкай меры ўвайшлі ў народнае маўленне і ў канцы XIX – пачатку XX ст. шырока выкарыстоўваліся ў беларускамоўных тэкстах (*гасударства, вучыцель, правіцельства, прыятны, январ* і інш.). Трэба было выпрацаваць пазіцыю да вялікай колькасці такіх слоў: або прызнаць іх засвоенымі народнай (а значыць, і літаратурнай) мовай, або трактаваць іх як непажаданыя часовыя запазычанні, выкліканыя няведаннем літаратурнай мовы (і ў гэтым выпадку не дапускаць іх у нарматыўны ўжытак). Калі ў нашаніўскі перыяд многія русізмы тыпу *правіцельства* або *гасударства* маглі разглядацца як прынятыя беларускай мовай (уласна, ужо як «народныя»), то пазней стаўленне да іх змянілася. Паступова ўмацоўваўся нарматыўны, эстэтычны аспект літаратурнай мовы. Кадыфікатары імкнуліся выпрацаваць для мовы пэўны ідэал; новым запазычанням з рускай мовы, якія маглі сведчыць аб кантактах беларускай мовы, яе «залежнасці» ад іншых моў, слабасці або «засмечанасці», у рамках гэтага ідэалу не павінна было знаходзіцца месца. Падобнай была сітуацыя і ў дачыненні да паланізмаў, аднак праблема іх адаптацыі ў беларускай літаратурнай мове стаяла менш востра.

Па-трэцяе, арыентацыя на народныя сродкі не абавязкова давала вынікам рэалізацыю гэтай тэндэнцыі прымяняльна да ўсіх з'яў і да ўсіх сфер бытавання мовы. Паколькі ў народнай мове існавала вялікая колькасць адаптаваных, «скажоных» формаў запазычаных слоў, а некаторыя з іх шырока ўжываліся ў друку і былі добра вядомы (*аканом, дакумант, дарэктар, зялеза* 'жалеза'*, калавур* 'каравул'*, леварвэр, лемантар* 'буквар'*, літара, паляруш* 'параліч'*, сакратар, струмант, штых* 'штык' і інш.), то спрэчным магло заставацца пытанне адносна ўстанаўлення дакладнага кола такіх слоў. Кадыфікацыя адных з такіх слоў магла ставіць пытанне адносна верагоднай кадыфікацыі іншых падобных слоў (напрыклад, *дохтар, лісапэт, аблакат* 'адвакат'). У шэрагу выпадкаў былі сумненні адносна пажаданай формы такіх слоў: *левальвэр* ці *леварвэр*, *паляруш* ці *паралюш*? Напрыклад, у «Беларуска-расійскім слоўніку» 1926 г. фіксаваліся як сінанімічныя словы *кайданы* і *залезы*, пры гэтым другое слова ўяўляла сабой пэўны вынік народнага асваення формы *жалеза*. Аднак у «Практычным беларуска-польскім слоўніку» (Вільня, 1929) адаптацыя слова *жалеза* сягнула яшчэ далей: у гэтым слоўніку былі дадзены сінонімы *кайданы* і *зялезы*. Нягледзячы на ўласцівае беларускай мове дзеканне/цеканне, гэта з'ява, аднак, не была прынята пры кадыфікацыі правапісу запазычанай лексікі (параўн.: *дынастыя, тэатр*). Нягледзячы на беларускае аканне, арфаграфічная рэалізацыя ў 1920-я гг. розных запазычаных слоў з ненаціскным *о* магла быць неаднолькавай, пры гэтым частка такіх слоў устойліва не падпарадкоўвалася дзеянню гэтай заканамернасці (былі папулярнымі напісанні тыпу *соцыялізм, сонэт* і да т. п.). Цікава, што пры гэтым захаванне неадаптаванай арфаграмы пэўны час мела сваіх настойлівых паслядоўнікаў, сярод якіх быў і такі перакананы прыхільнік

народнага «вобразу» беларускай літаратурнай мовы, як Я. Лёсік. Насуперак «ненароднаму» характару правапісу *ф* у запазычаных словах (*фабрыка, фальварак, торф, фасоля*) такое напісанне тым не менш сустракалася і, увогуле, пашырала сферу свайго прымянення. Разважаючы пра фарміраванне лексікі, Я. Лёсік услаўляў народную аснову беларускай літаратурнай мовы. З другога боку, сутыкнуўшыся з меркаваннем П. Бузука пра тое, што ўнясеннем дыялектных асаблівасцей пісьменнікі пашыраюць і ўзбагачаюць літаратурную мову, Я. Лёсік палемічна сцвердзіў, што разнастайнасць фанетычных і марфалагічных з'яў не складае багацця мовы, а яе развіццё выражаецца «не ў павелічэнні гэтых граматычных фактаў, а якраз наадварот – у іх спрашчэнні і скарачэнні... Толькі граматычна-правільная, нармаваная мова можа дасягнуць свайго вышэйшага развіцця, недаступнага народным дыялектам». Такім чынам, агульная дэкларацыя арыентавацца на народную мову магла ўступаць у супярэчнасць з патрэбай мець усталяваную нарматыўную мову.

Па-чацвёртае, моўныя рэсурсы народнай лексікі маглі ўступаць у канкурэнцыю паміж сабой: *млын* і *млін*; *галалёдзіца, галалёд* і *аблівака*; *бульба* і *картопля*; *калодзеж* і *студня*; *спружыноўка* і *драпач*; *сцябло* і *цыбур*; *бусел* і *бацян*; *тапор* і *сякера*; *чарапіца* і *дахоўка*; *выконваць* і *спаўняць*; *паветка* і *прыстрэшак*; *вавёрка* і *белка*; *жасмін, язмін* і *ясмін*; *суніца* і *паземка*; *матыль* і *мятлік* як агульная назва *Lepidoptera*; *казюлькі* і *жамяра* як адпаведнік для *Insecta*; *жыўчык* і *зароднік* як адпаведнік для *зааспора* і г. д. У асобных выпадках нават у тэрміналагічных, арыентаваных на асаблівую нарматыўнасць, слоўніках падавалася аж чатыры эквіваленты: рус. *охвостье* – бел. *ахвосце, аціра, вотрыны, вобмеці* («Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі» 1928 г.). У народнай мове вар'іравалі шматлікія марфалагічныя формы (напрыклад, лічэбніка ў родн. скл. *сямі* / *сямёх, двух / двох*) і г. д.

Дыялектнае маўленне не заўсёды мае выразна акрэсленую «норму» і часта дазваляе значную варыянтнасць (*млын / млін, тлум / клум* і да т. п.), якая можа быць непажаданай у нармаванай літаратурнай мове.

Напрыклад, паколькі ў народнай мове фіксуюцца розныя гукапераймальныя формы тыпу *пляскаць / кляскаць* для абазначэння дзеяння, звязанага з біццём адной далоні аб другую (або іншых прадметаў), у працэсе тварэння стандартнай мовы немагчыма было адназначна прадказаць, якія з іх мелі стаць нарматыўнымі. Так, для рус. *аплодировать* у «Маскоўска-беларускім слоўніку» братоў Гарэцкіх 1918 г. быў дадзены адпаведнік *плёскаць у ладкі*, для рус. *аплодисменты – воплескі*. Пазней В. Ластоўскі прапанаваў прызнаць адпаведнікамі для рус. *аплодировать* выраз *біць у ладкі* і *(па)кляска́ць*, аднак форма з пачатковым *кл-* была моцна раскрытыкавана С. Некрашэвічам. З сучаснага пункту гледжання форма з пачатковым *кл-* сапраўды выглядае дзіўнай, але В. Ластоўскі яе не выдумаў. Падобна, ён абапіраўся на І. Насовіча, у слоўніку 1870 г. якога фіксавалася лексема *кляскаць* 'іграць трашчоткай',

‘біць у далоні’, ‘ствараць гук ударамі лінейкі ці чагосьці падобнага’, ‘ствараць гук, бразгаючы клямкай’. Акрамя таго, падобныя формы з пачатковым *кл-* мелі пацвярджэнне ў тагачаснай мастацкай літаратуры, параўн.: у паэме «Новая зямля», дзе сустракаецца слова *клякоткі* ‘прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараецца шум, трэск, лёскат; трашчотка’: – *Эх, шкода, брат: няма клякотак! // Ну, хоць бы з парачку трашчотак!* На фоне той акалічнасці, што ў слоўніку самога С. Некрашэвіча, падобна да першага слоўніка братоў Гарэцкіх, для рус. *аплодировать* не было дадзена аднаслоўнага адпаведніка і даваўся эквівалент *пляскаць* (*плёскаць*) *у далоні*, прапанова В. Ластоўскага не выглядае абсурднай: у сітуацыі сярэдзіны 1920-х гг. яна магла разглядацца як дапушчальная альтэрнатыва.

Па-пятае, не ва ўсіх выпадках было зразумела, ці пэўнае, сінанімічнае ўжывальнаму ў літаратуры дыялектнае слова мела абавязкова ўвайсці ў літаратурную мову. Напрыклад, поруч з пашыранымі словамі *курчыцца* і *карэчыцца* ‘сціскацца, скручвацца’ ў некаторых гаворках у гэтым жа значэнні ўжываецца лексема *карожыцца*. Першыя два словы былі прадстаўлены ў беларуска-расійскім слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча 1926 г., а *карожыцца* – не. Між тым слова *карожыцца* ўжывалася ў творах М. Гарэцкага і М. Зарэцкага. Урэшце, яно было ўключана ў расійска-беларускі слоўнік М. Байкова і С. Некрашэвіча 1928 г. і віленскі беларускі-польскі слоўнік 1929 г. Б. Друцкага-Падбярэскага са значэннем ‘выкручвацца; прыкідвацца кім-небудзь; капрызіць’. На такім этапе развіцця беларускай лексікаграфіі, як 1920-я гг., яшчэ немагчыма было адразу сфармуляваць «бясспрэчныя» падыходы да такіх слоў, сваё слова павінны былі сказаць час і практыка іх ужывання.

У працэсе падрыхтоўкі слоўнікаў з розных прычын маглі адрозніваецца некаторыя канкрэтныя падыходы заходнебеларускіх і ўсходнебеларускіх кадыфікатараў. Напрыклад, у друку Заходняй Беларусі часам сустракаўся займеннік *кажды*, назоўнік жан. р. *крадзежа*, яны былі прадстаўлены ў беларуска-польскім слоўніку 1929 г.; аднак у савецкай Беларусі стаўленне да такіх формаў было непрыхільнае. У «Беларуска-расійскім слоўніку» 1926 г. М. Байкова і С. Некрашэвіча, а таксама ў іх жа «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. кадыфікаваліся формы *канчатковы, калодзеж, кола, акопваць* ці *абкопваць* (бульбу)*, картыжнік /картаграч, каштарыс, купа / куча*, *клышаногі, клышасты* і *клыпаногі, гарнітур, маляўніча*, тады як у віленскім «Падручным беларуска-польскім слоўніку» 1929 г. Б. Друцкага-Падбярэскага – *канчальны, калодзезь, калясо, капчыць, картэўнік, каштаспіс, клад ‘куча’, касалапы* і *клышаногі, касцюм, красачна*.

Пры засваенні літаратурнай мовай народных сродкаў часта могуць быць актуальнымі альтэрнатыўныя падыходы, напрыклад прыняцце наватвораў або запазычанняў. Так, слова *сталецце* ў 1920-я гг. канкурыравала ва ўжыванні з наватворам *стагоддзе*, і адзін з тагачасных нармалізатараў, Я. Лёсік, выразна

выказаўся на карысць першага слова, аналагічнага народным лексемам *налецце, ліхалецце*. Слова *сталецце* ва ўяўленні Я. Лёсіка калі не «народнае», то падобна на народныя словы, у той час як *стагоддзе*, паводле Я. Лёсіка, было «непрыгожым», нядаўна створаным журналістамі газеты «Савецкая Беларусь». Аднак слова *стагоддзе* к 1925 г. ужо добра ўкаранілася ў беларускай літаратурнай мове, і ў дадзеным выпадку імкненне Я. Лёсіка абапірацца на «лепшыя», «народныя» словы ўваходзіла ў супярэчнасць з практыкай, якая ўсталявалася. Абагачэнне літаратурнай мовы сінонімамі ў працэсе адаптацыі мясцовых слоў было асабліва выніковым у сферы традыцыйнай, побытавай лексікі, дзе такіх слоў было вельмі многа; у іншых сферах пранікненне народных слоў у нарматыўную мову – менш адчувальнае.

Нягледзячы на пэўныя складанасці, замацаванне ў літаратурнай мове народных моўных сродкаў у 1920-я гг. было вельмі паспяховым, чаму спрыялі не толькі выказаныя ў артыкулах ці навуковых дакладах меркаванні, але і агульная ўласцівая 1920-м гг. у Беларусі тэндэнцыя дэмакратызацыі літаратурнай мовы. Гэта тэндэнцыя  шырока рэалізавана ў граматычнай і лексікаграфічнай літаратуры, стваральнікі якой – Б. Тарашкевіч, М. Гарэцкі, Я. Лёсік, М. Байкоў, С. Некрашэвіч і інш. У граматыках Б. Тарашкевіча арыентацыя на народныя сродкі сярод іншага адлюстравалася ў тым, што ў марфалагічнай сферы ў іх шырока прадстаўлены паралельныя рэсурсы (*двух* і *двох, той* і *тэй*). У слоўніках 1920-х гг. была шырока пададзена народная лексіка. Мова мастацкай літаратуры і перыядычнага друку, у якой яшчэ не існавала проціпастаўленне «літаратурнасць / дыялектнасць», таксама актыўна выкарыстоўвала народныя лексічныя сродкі. Народная, тэрытарыяльна абмежаваная і часам стылістычна зніжаная лексіка была звычайным складнікам і пры ўкладанні навуковай тэрміналогіі. Усё гэта спрыяла крышталізацыі беларускай літаратурнай мовы як мовы, створанай пераважна на народнай аснове.

Зварот у працэсе фарміравання літаратурнай мовы да народных крыніц у беларускай лінгвістыцы трактуецца амаль як адзіна магчымы і «непазбежны». Між тым тэарэтычна існавалі і іншыя магчымасці: адраджаць старую пісьмовую мову або выкарыстоўваць нейкую суседнюю культурную (рускую або польскую). Брытанскі славіст Р. Оці заўважаў, што з прычыны страты сувязі са старой мовай у беларускім выпадку больш выпадае гаварыць не пра адраджэнне мовы, а пра яе стварэнне. Насуперак уяўнай прастаце ў выпадку заснавання літаратурнай мовы на аснове вуснага народнага маўлення задачу беларускіх кадыфікатараў 1920-х гг. можна ацэньваць як адносна складаную. Галоўная цяжкасць палягала ў тым, што пры пераходзе народнай мовы ў статус літаратурнай яна сутыкалася са шматлікімі праблемамі належнага засваення народных рэсурсаў літаратурнай мовай.

Аднак у некаторых выпадках абраная канцэпцыя развіцця беларускай літаратурнай мовы вызывала крытыку. Не пазней чым у чэрвені 1929 г. у БАН

заслухалі даклад «Аб марксізме і мовазнаўстве» мараўскага супрацоўніка В. Аптэкара, услед за якім адбылася дыскусія аб марксізме, мовазнаўстве і шляхах развіцця беларускай літаратурнай мовы. Беларускія лінгвісты аказаліся не гатовымі да ўспрыняцця «новага вучэння аб мове» акадэміка М. Мара і крытычна паставіліся да тэзісаў дакладчыка. На жаль, пра гэты даклад і яго абмеркаванне амаль нічога не вядома. У вельмі вострай форме крытыка канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы была выказана І. Ваўком-Левановічам 16 снежня 1929 г. у яго дакладзе «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы», прачытаным 16 снежня 1929 г. у Беларускай акадэміі навук.

Меркаванні І. Ваўка-Левановіча пра характар беларускай літаратурнай мовы фарміраваліся паступова; погляды, якія адрозніваліся ад пераважнага сярод беларускіх лінгвістаў падыходу да фарміравання беларускай літаратурнай мовы, ён выказваў і раней, напрыклад у «Лекцыях па гісторыі беларускай мовы» 1928 г. Абапіраючыся на працы тагачасных расійскіх лінгвістаў, літаратурную мову ён разумеў у значнай ступені як «мову гараджан» у яе процістаўленні вясковай народнай мове. Навуковец скептычна ставіўся да спроб змагацца за чысціню літаратурнай мовы, выкарыстоўваючы «штучныя» наватворы, і абмяжоўваць інтэрнацыяналізмы ў працэсе разбудовы тэрміналогіі. Ён крытыкаваў прадстаўленне ў слоўніках лексем тыпу *землязДрыг* ‘землятрасенне’, *страмапіс* ‘парнаграфія’, *струна* ‘хорда’ (матэматычны тэрмін) і інш.

У сваім дакладзе 1929 г. І. Воўк-Левановіч сфармуляваў свае погляды ў катэгарычнай, бескампраміснай форме. Ён пацвердзіў сваю ранейшую пазіцыю адносна правапісу *д* і *т* у іншамоўных словах. Зыходзячы з таго, што пачынаючы з 1910-х гг. беларуская літаратурная мова, паводле дакладчыка, беспадстаўна арыентавалася не на гаворкі сялянства, а на гаворкі шляхты, І. Воўк-Левановіч лічыў патрэбным прыняць у літаратурнай мове як натуральныя словы тыпу *аб’яўленне, апрэль, аўгуст, гасударства, знамя, случай, срэдства, фяўраль, шчот, январ*. Гэтыя словы павінны былі замяніць лексемы *аб’ява, красавік, жнівень, дзяржава, сцяг, выпадак, сродак, люты, рахунак, студзень*, якія ўвайшлі ва ўжытак з прычыны няправільнага, на яго думку, фарміравання літаратурнай мовы. Дакладчык указаў, што ў сваім фарміраванні і развіцці беларуская літаратурная мова павінна арыентавацца на жывую мову горада.

У дакладзе І. Воўк-Левановіч зрабіў спробу прыстасаваць да беларускай сітуацыі некаторыя пастулаты сацыяльнай дыялекталогіі і цесна з ёй звязанага «новага вучэння аб мове» расійскага навукоўца М. Мара, да той пары фактычна незаўважныя ў навуковай практыцы Беларусі. Галоўным момантам тэорыі М. Мара было ўключэнне ў лінгвістычны аналіз класавага аспекту. Так, І. Воўк-Левановіч забракаваў ужывальны ў тагачаснай лінгвагеаграфіі

метад выяўлення ізаглос (ад ст.-грэч. *isos* ‘роўны’ і *glossa* ‘маўленне, мова’ – лінія на лінгвістычнай карце, якая абазначае межы пашырэння якой-небудзь моўнай з’явы) у прасторы, сцвердзіўшы, што метад правядзення ізаглос у сацыяльна-класавым разрэзе з’яўляецца намнога больш дасканалым. На гэтай падставе ён падзяліў беларускія дыялекты на «гаворкі сялянства» і «гаворкі шляхты», да якіх прымыкалі «гарадскія» гаворкі. Паколькі фактычнага матэрыялу для адрознення беларускіх «сялянскіх» і «шляхецкіх» гаворак было мала, абгрунтоўваючы сваю пазіцыю, І. Воўк-Левановіч шмат увагі аддаваў іншым аргументам, напрыклад рабіў гістарычна-тэарэтычныя экскурсы.

Так, ён сцвярджаў, што ў сферы слоўніка і сінтаксісу мова (цесна звязаная з каталіцкай рэлігіяй) шляхты захавалася прыблізна ў тым самым выглядзе, у якім яна існавала ў старабеларускай пісьмовай мове XVI–XVII стст., урэшце, моцна набліжалася да польскай. Поруч з каталіцкай шляхтай дакладчык вылучаў таксама праваслаўную шляхту, беларуская мова якой мела рускую афарбоўку. У плане культурнай арыентацыі да каталіцкай шляхты блізка стаяла каталіцкая частка беларускага сялянства, а да праваслаўнай шляхты – праваслаўнае сялянства. У адносінах культурнай арыентацыі і моўных уплываў беларускі народ дзяліўся на «беларуска-польскі» і «беларуска-рускі» лагеры.

І. Воўк-Левановіч вылучыў асаблівае збліжэнне эканамічна найбольш моцных груп – праваслаўнай шляхты, праваслаўнага сялянства і заможнай каталіцкай шляхты. Парадаксальным чынам, дакладчык лічыў, што ўсе гэтыя групы былі даволі моцна звязаны элементамі рускай культуры. «Кіруючы культурным развіццём краю, гэты клас натуральна рабіў уплыў і сваёй мовай на мову ніжэйшага эканамічнага класа, прымешваючы к яго беларускай гаворцы значныя элементы рускай літаратурнай лексікі і фразеалогіі». Уласна, не зразумела, чаму ў рамках эканамічна моцнага класа аказалася праваслаўнае сялянства і чаму эканамічна моцная група, якая ўключала паланізаваную заможную каталіцкую шляхту, мела дачыненне да прымешвання ў беларускую мову элементаў рускай літаратурнай лексікі. Увогуле, у працэсе палявых запісаў на моўным памежжы маглі здарацца выпадкі, калі нейкія з’явы ў маўленні носьбітаў беларускай мовы маглі памылкова трактавацца як з’явы, уласцівыя польскай мове. Верагодна, маглі быць і адваротныя выпадкі, калі як беларускія нейкія словы запісваліся ад палякаў. Тым не менш непрымальным з’яўляецца падыход І. Ваўка-Левановіча, згодна з якім маўленне каталіцкай шляхты «адчужаецца» ад беларускай мовы. У такім накідзе гісторыі беларускай літаратурнай мовы І. Ваўка-Левановіча бачыцца выразная супярэчнасць. З аднаго боку, сцвярджаецца, што ўплывовы заможны клас спрыяў увядзенню ў беларускую мову рускай лексікі і фразеалогіі. З другога, беларускую літаратурную мову 1920-х гг. аўтар лічыў празмеру паланізаванай.

Прапанова І. Ваўка-Левановіча арыентаваць беларускую літаратурную мову на мову горада, сучасных рабочых рашуча ішла ў разрэз з ранейшым развіццём беларускай літаратурнай мовы. У гэты час пашыранай была думка, згодна з якой у штодзённым жыцці гарадскія рабочыя слаі гаварылі на «змешанай» мове, «жаргоне» паміж рускай і беларускай мовамі; прапанова грунтаваць стандартную мову на такой аснове выглядала як мінімум нечаканай.

Дакладчык правільна ўказваў на пераемнасць літаратурнай мовы 1920-х гг. з мовай газеты «Наша ніва», аднак да эвалюцыі мовы гэтай газеты ён ставіўся крытычна. На яго думку, у першыя гады выдання мова газеты абапіралася на «ўсю беларускую народную мову, усё беларускае кайнэ» (ад грэч. *koine dialektos* ‘агульная мова’ – штодзённая ўжывальная мова, якая ўзнікла ў выніку кантактаў паміж носьбітамі розных дыялектаў або моў). У апошнія гады існавання газеты ўжывальная на яе старонках лексіка адрывалася ад лексікі «шырокіх народных беларускіх мас». Уплывы з боку рускай мовы, на адрозненне ад уплываў польскай мовы, І. Воўк-Левановіч лічыў «натуральнымі» і «жыццёвымі». У сувязі з гэтым ён прапаноўваў абмежаваць у беларускай літаратурнай мове з’явы, звязаныя з польскім уплывам, і даць шырокую дарогу запазычанням з рускай мовы.

Прапанаваная І. Ваўком-Левановічам канцэпцыя літаратурнай мовы радыкальна адрознівалася ад падыходаў іншых аўтараў, у значнай ступені ігнаравала разбудову беларускай літаратурнай мовы на працягу 1910–20-х гг. і як такая не магла быць падтрымана большасцю беларускіх мовазнаўцаў.

У цэлым выпрацоўку беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. трэба лічыць вельмі паспяховай. У яе аснове ляжала арыентацыя на народныя сродкі, але ў выпадку неабходнасці выкарыстоўваліся і іншыя рэсурсы (запазычанні, наватворы і старабеларускія словы).

## Пытанні для самакантролю

1. Чаму для першых удзельнікаў кадыфікацыі беларускай мовы было істотным яе параўнанне з рускай або польскай мовай?

2. Якія праблемы фарміравання і бытавання беларускай мовы вылучалі П. Любецкі і Я. Канчар?

3. Чаму Я. Лёсік лічыў неабходным арыентаваць развіццё беларускай літаратурнай мовы на народна-фальклорную мову?

4. З якімі праблемамі фарміравання сутыкалася беларуская літаратурная мова як мова, створаная на базе народнага маўлення?

5. Якія моўныя прыклады могуць сведчыць на карысць таго, што ў 1920-я гг. у працэсе свайго фарміравання беларуская літаратурная мова актыўна чэрпала рэсурсы з крыніц народнай мовы?

6. На чым грунтавалася крытыка І. Ваўком-Левановічам канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы?

## Рэкамендаваная літаратура

*Воўк-Левановіч*, *Я. В.* Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы / Я. В. Воўк-Левановіч // Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 354–380.

Выбраныя навуковыя працы акадэміка С. М. Некрашэвіча. Мінск, 2004. С. 50–79.

*Канчер, Е.* Мысли о белорусском языке / Е. Канчер // Дзянніца. 1918. № 39 ; Гісторыя беларускага мовазнаўства. 1918–1941 : хрэстаматыя для студэнтаў філал. фак. : у 2 ч. Мінск, 2005. Ч. 1. С. 167–172.

*Куліковіч*, *У. І.* Тэарэтычныя і практычныя праблемы беларускай мовы ў працах У. Дубоўкі / У. І. Куліковіч. Мінск, 2011.

*Лёсік*, *Я.* 1921–1930. Збор твораў / Я. Лёсік. Мінск, 2003. С. 113–156.

*Любецкий*, *П.* О белорусском литературном языке / П. Любецкий // Чырвоны шлях. 1918. № 7–8 ; Гісторыя беларускага мовазнаўства. 1918–1941 : хрэстаматыя для студэнтаў філал. фак. : у 2 ч. Мінск, 2005. Ч. 1. С. 163–166 ; Лінгвістыка 1920-х. Arche. 2010. № 11. С. 310–313.

*Чорны*, *К.* Небеларуская мова ў беларускай літаратуры / К. Чорны // Узвышша. 1928. № 5. С. 173–183 ; Гісторыя беларускага мовазнаўства. 1918–1941 : хрэстаматыя для студэнтаў філал. фак. : у 2 ч. Мінск, 2008. Ч. 2. С. 46–60.

# 8. ФАРМІРАВАННЕ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ Ў 1920–я гг.

Паколькі фарміраванне мовы мастацкай літаратуры і публіцыстычнага стылю мела ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы даволі працяглую традыцыю, галоўным полем сутыкнення розных падыходаў пры фарміраванні літаратурнай мовы стаў новы для яе навуковы стыль. Разгортванне тэрміналагічнай работы ў пачатку 1920-х гг. выклікана карэннымі зрухамі ў грамадскім ладзе і зменамі ў сістэме адукацыі, што стварыла попыт на тэрміналогію на беларускай мове.

Значная частка слоўнікавай работы, што пачала сістэматычна і мэтанакіравана праводзіцца беларускімі мовазнаўцамі ў 1920-я гг., прыпадае на распрацоўку нацыянальнай тэрміналогіі. У 1920–30-я гг. тэрміналогія стваралася вельмі нераўнамерна. Калі ў 1920-я гг. было выдадзена 29 тэрміналагічных слоўнікаў, у 1930–1934 гг. – 5, то ў другой палове 1930-х гг. – ніводнага. Пік выдання тэрміналагічных слоўнікаў – 1926–1927 гг.: за гэты кароткі адрэзак часу апублікавана 14 тэрміналагічных слоўнікаў.

Спробы арганізавана ствараць беларускую тэрміналогію існавалі з канца 1910-х гг. У 1919 г. Беларуская вайсковая камісія надрукавала «Вайсковую стылістыку» Зніча. Тэрміналагічная камісія мінскіх настаўнікаў апублікавала «Праграмы беларускай ніжэйшае школы» на 1919/20 навучальны год. У 1920 г. спецыяльная камісія па выпрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі дзейнічала ў Мінскім беларускім педагагічным інстытуце. З 1916 г. у Вільні і з 1918 г. у Мінску выдаваліся школьныя падручнікі і дапаможнікі з пэўнай колькасцю ў іх навуковых тэрмінаў.

У 1921–1922 гг. адбыўся тэрміналагічны ўздым, падчас якога былі апублікаваны восем тэрміналагічных падборак (па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, трыганаметрыі), а таксама першы

(матэматычны) слоўнік з серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія». Усяго ў 1922–1930 гг. у серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» апублікаваны 23 тэрміналагічныя слоўнікі па матэматыцы, літаратуры, геаграфіі, логіцы і псіхалогіі, геалогіі, батаніцы, музыцы, лясной справе, анатоміі, праве, грамадазнаўстве, лінгвістыцы, глебазнаўстве і інш.

Тэрмінатворчая актыўнасць пачатку 1920-х гг. была забяспечана дзякуючы дзейнасці створанай у лютым 1921 г. у складзе Народнага камісарыята асветы *Навукова-тэрміналагічнай камісіі* (старшыня С. Некрашэвіч). Стварэнне камісіі адбывалася адначасова з захадамі Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Наркамата асветы БССР, скіраванымі на пашырэнне асветніцкай работы з насельніцтвам на беларускай мове і на ўвядзенне беларускай мовы ў практыку вядзення справаводства ва ўстановах камісарыята асветы. Заснаванне тэрміналагічнай камісіі – першы крок у справе арганізацыі агульнанацыянальнай навукова-даследчай установы для вывучэння беларускай культуры.

Навукова-тэрміналагічная камісія складалася з гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай секцый. Перад ёй ставілася задача на працягу трох месяцаў падрыхтаваць і надрукаваць тэрміналогію для пачатковых і сярэдніх школ. Члены камісіі лічыліся «мабілізаванымі», на час работы над тэрміналогіяй яны вызваляліся ад іншых абавязкаў, забяспечваліся заработнай платай і пайком як навуковыя работнікі. У сувязі з тым, што да часу з'яўлення беларускамоўных школ у 1916 г. беларуская тэрміналогія развівалася вельмі павольна, а з пачатку 1920-х гг. у сувязі з афіцыйным статусам беларускай мовы патрэбы ў ёй нязмерна выраслі, сярод іншых відаў дзейнасці беларускіх лінгвістаў першай паловы 1920-х гг. стварэнне тэрміналогіі лічылася найбольш надзённай, «баявой» задачай. У 1921 г. камісія мела 70 агульных пасяджэнняў і прыняла каля трох тысяч тэрмінаў.

Першапачаткова камісія аб'яднала 14 чалавек, сярод якіх былі як гуманітарыі (старшыня гуманітарнай секцыі Я. Купала, сакратар гуманітарнай секцыі Я. Лёсік, лінгвіст М. Байкоў, літаратуразнавец У. Чаржынскі), так і прадстаўнікі прыродазнаўчых і дакладных навук: старшыня прыродазнаўчай секцыі фізік Л. Дашкевіч, географ М. Азбукін, матэматыкі К. Гадыцкі-Цвірка (старшыня матэматычнай секцыі), Л. Більдзюкевіч і А. Круталевіч, інжынер Ф. Бурак, батанік В. Міхальскі, хімік Ч. Родзевіч, прыродазнавец Я. Каранеўскі. На працягу 1921 года членамі камісіі сталі таксама Я. Колас, Я. Дыла, М. Піятуховіч і З. Бядуля.

Большасць членаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі мелі вопыт грамадска-палітычнай дзейнасці ў рамках нацыянальна-вызваленчага руху. Так, Я. Лёсік быў адным з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады, уваходзіў у Беларускі нацыянальны камітэт, а ў 1918 г. быў адным з ініцыятараў абвяшчэння БНР. С. Некрашэвіч у 1918 г. прадстаўляў урад БНР на поўдні Украіны. Ч. Родзевіч быў адным з заснавальнікаў Беларуска-

га таварыства дапамогі ахвярам Першай сусветнай вайны, а падчас польскай акупацыі 1919–1920 гг. – член Мінскай беларускай школьнай рады, загадваў аддзелам асветы Мінскага магістрата. К. Гадыцкі-Цвірка ў снежні 1917 г. удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе, у чэрвені 1918 г. – член камісіі БНР па арганізацыі ўніверсітэта, уваходзіў у Беларускі настаўніцкі саюз. У. Чаржынскі ў 1920 г. быў членам партыі эсэраў і ўваходзіў у Беларускую вайсковую камісію. М. Азбукін быў членам Беларускага культурна-асветніцкага таварыства ў Бабруйску. Я. Каранеўскі ў 1916–1918 гг. удзельнічаў у рабоце арганізацыі беларусаў-бежанцаў у Яраслаўлі, у 1920 г. – намеснік старшыні Беларускай камуністычнай арганізацыі. Некаторыя члены камісіі (Л. Більдзюкевіч, Ч. Родзевіч, М. Азбукін, К. Гадыцкі-Цвірка, Я. Каранеўскі, Я. Лёсік) мелі вопыт выкладання спецыяльных дысцыплін, а асобныя члены камісіі (К. Гадыцкі-Цвірка і Я. Каранеўскі), акрамя таго, уваходзілі ў Мінскае навуковае педагагічнае таварыства. У цэлым камісію можна ахарактарызаваць як групу аднадумцаў. Падабраныя (верагодна, найперш С. Некрашэвічам) паводле крытэрыю прыналежнасці да пэўнага кола грамадска ангажаваных людзей, добрага валодання беларускай мовай і пэўнай спецыяльнасцю, пакліканыя стварыць беларускую навуковую тэрміналогію ў вельмі важны момант беларускай гісторыі, члены камісіі былі гатовы да хуткай выпрацоўкі спецыяльнай лексікі.

Сярод членаў камісіі на момант яе стварэння найбольш падрыхтаванымі да ўкладання тэрміналогіі былі матэматыкі Л. Більдзюкевіч і А. Круталевіч. Першы яшчэ ў 1920 г. апублікаваў распрацаваную ў рамках дзейнасці матэматычнай камісіі Мінскага беларускага педагагічнага інстытута «Праграму сістэматычнага курса арыфметыкі і тэрміналогію», а ў пачатку 1921 г. надрукаваў спецыяльны артыкул пра стварэнне матэматычнай тэрміналогіі. Не пазней чым зімой 1921 г. Л. Більдзюкевіч падрыхтаваў для друку праект матэматычнай тэрміналогіі. А. Круталевіч да 20 красавіка 1921 г. падаў на разгляд навукова-літаратурнай калегіі Інбелкульта рукапіс падручніка «Элементарная алгебра» і да лета гэтага ж года ўклаў руска-польска-ўкраінска-беларускі слоўнік па алгебры і вышэйшым аналізе.

Пад рознымі назвамі Навукова-тэрміналагічная камісія існавала да 1929 г. На яе аснове ў студзені 1922 г. быў заснаваны Інстытут беларускай культуры, з гэтага ж часу яна была рэарганізавана ў Правапісна-тэрміналагічную камісію (кіраваў С. Некрашэвіч). У лютым 1925 г. кіраўніцтва камісіяй прыняў Я. Лёсік. У кастрычніку 1926 г. камісія была рэарганізавана ў «галоўную тэрміналагічную», а ў кастрычніку 1927 г. перарасла ў Інстытут навуковай мовы. З заснаваннем у лістападзе 1929 г. Інстытута мовазнаўства ў ім дзейнічала тэрміналагічная камісія.

У аснову тэрміналогіі члены камісіі імкнуліся браць словы, якія існавалі ў жывой народнай мове – *астача*, *хмызьняк*, *насеньне*, *параваньне* 'выпарэнне'.

У некаторых выпадках (напрыклад, выпуск агульнай і спецыяльнай батанікі 1924 г., «Слоўнік лясных тэрмінаў» 1926 г., «Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі» 1928 г.) укладальнікі тэрміналогій падкрэслівалі, што народныя назвы ў канкрэтных галінах яшчэ ў належнай ступені не зафіксаваны, а без шырокага іх выкарыстання ўкладанне сапраўднай, канчатковай тэрміналогіі немагчымае. Паколькі тэрмінаў у прамым значэнні гэтага слова ў народнай мове няшмат, члены камісіі павінны былі ствараць новыя словы або запазычваць тэрміны з іншых моў. Арыентуючыся на практыку адраджэння чэшскай мовы, камісія лічыла, што лепш «утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы».

Задэклараваныя падыходы па-рознаму ўвасабляліся ў працэсе падрыхтоўкі розных тэрміналогій. У адных выпадках існавала большая магчымасць абаперціся на народную лексіку (напрыклад, батанічная тэрміналогія), у іншых (матэматычная, псіхалагічная) – меншая. У працэсе асэнсавання спецыфікі і гістарычных лёсаў беларускай мовы для некаторых галін маглі выпрацоўвацца асаблівыя падыходы. Некаторыя тэрмінасістэмы (матэматычная, псіхалагічная, музычная, хімічная, юрыдычная і інш.) не маглі абысціся без інтэнсіўнага выкарыстання іншамоўных слоў. Разам з тым існавала разуменне, што вялікая доля запазычанняў у складзе тэрміналогіі магла б адмоўна ўплываць на агульнае ўспрыманне беларускай мовы. Асэнсоўваючы ўдзельную вагу ў беларускай мове запазычаных слоў, У. Дубоўка сцвярджаў, што гэта вага такая ж, як і ў іншых мовах; колькасць запазычанняў у беларускай мове, паводле У. Дубоўкі, павінна была рэгулявацца пры дапамозе сістэматычнай работы па стварэнні навуковай тэрміналогіі. Розныя аўтары звярталі ўвагу на тое, што, напрыклад, у працэсе падрыхтоўкі юрыдычнай і адміністратыўнай тэрміналогіі нельга абмінаць шматлікія старабеларускія словы.

Ідэя прэзідыума тэрміналагічнай камісіі звяртацца да запазычанняў толькі ў выпадку крайняй неабходнасці ў пачатку 1920-х гг. падтрымлівалася большасцю яе членаў. Да ліку прыхільнікаў максімальнага выкарыстання рэсурсаў народнай мовы належаў, напрыклад, старшыня гуманітарнай секцыі камісіі Янка Купала. У напісанай ім прадмове да выдадзенага ў 1923 г. слоўніка літаратурнай тэрміналогіі сцвярджалася, што адной з мэт кнігі было даць беларускі тэрміналагічны матэрыял для літаратурнай практыкі, каб «гэтым хоць крыху дапамагчы нашаму пісьменству, асабліва часопіснаму, пазбавіцца ад лішняй, у большай частцы непатрэбнай і незразумелай чужаземшчыны. Разглядаючы чужаземныя тэрміны, камісія старалася па магчымасці даваць, заместа іх, толькі – беларускія <...> Агулам камісія лічыла лішнім даваць чужаземныя тэрміны побач з беларускімі, зважаючы на тое, што калі хто захоча карыстацца з чужаземшчыны, то яе знойдзе і паміма беларускай тэрміналогіі».

Яшчэ больш паслядоўны прыхільнік стварэння тэрміналогіі на народнай аснове з мінімальным прыцягненнем запазычанай лексікі – сакратар камісіі М. Байкоў. Сярод іншага М. Байкоў браў пад увагу «патрэбы масавай асветы», тую акалічнасць, што ў тагачасных школах замежныя і класічныя мовы не выкладаліся і «нават студэнты вышэйшай школы часта не могуць разабрацца ў значэнні лацінскіх і грэцкіх тэрмінаў».

Выпрацоўка тэрміналогіі прадугледжвала як стварэнне новых тэрмінаў, так і перагляд наяўных. Паколькі да 1921 г. ужо існавала вучэбная літаратура па матэматыцы, граматыцы, геаграфіі, літаратуры («Zadačnik dla pačatkovych škoł» 1916 г. і «Задачнік для пачатковых школ» 1919 г. Г. Юрэвіча, «Геаграфія Беларусі» А. Смоліча, «Гісторыя беларускае літаратуры» М. Гарэцкага, «Асноўныя пачаткі арыфметыкі» К. Цыгельмана і інш.), то падрыхтаваныя камісіяй падборкі ў гэтых галінах, а таксама першыя выпускі серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» натуральным шляхам перанялі многія тэрміны з гэтых выданняў. Так, дзякуючы ранейшай практыцы ў падборках камісіі і першых слоўніках былі прадстаўлены такія тэрміны, як *дзельнік, дзель, змяншаны, лічбіна, лічнік, назоўнік, множнік, множыва, мяшаны лік, прастакутны, развязванне* ‘рашэнне’ *задач, розніца, чатырохкутнік* (матэматыка), *дзейнік, дзеяслоўнае прыслоўе* ‘дзеепрыслоўе’, *займя* ‘займеннік’, *канчатак, прыдатак, прыймя* ‘прыназоўнік’, *ступені прыраўнавання, сказнік, сычачы* ‘свісцячы’ *гук, умоўны лад* (граматыка), *вададзел, выдма* ‘дзюна’, *затока, зямная* (*земная*) *куля* ‘шар’, *краявід, крэйдавы перыяд, ліставы лес, расліна, расліннасць, сухмень* (геаграфія) і інш. Факт існавання вучэбных выданняў аказваў стабілізуючае ўздзеянне на тэрміналогію. Напрыклад, нягледзячы на ўжыванне Я. Лёсікам у артыкуле «Наш правапіс» 1918 г. тэрмінаў *гаманок* ‘гук’, *чыннік* ‘дзеяслоў’, *заміжіменнік* ‘займеннік’, *мносцвяная лічба* ‘множны лік’, *часткowы падзеж* ‘родны склон’, у падрыхтаванай у 1921 г. падборцы граматычнай тэрміналогіі ён ад гэтых тэрмінаў адмовіўся, аддаўшы перавагу пададзеным у граматыцы Б. Тарашкевіча тэрмінам *гук, дзеяслоў, займя, множны лік, родны склон*.

У дзейнасці камісіі вялікае значэнне меў калектыўны прынцып стварэння тэрмінаў. Падрыхтаваныя канкрэтнымі асобамі тэрміналагічныя праекты разглядаліся спачатку на пасяджэннях адпаведных секцый, а пазней абмяркоўваліся і зацвярджаліся на агульных сходах камісіі, дзе звычайна прымалі падрыхтаваныя праекты аднагалосна. Але ў складаных выпадках адбывалася галасаванне па канкрэтных тэрмінах, для зацвярджэння канкрэтнага тэрміна лічылася патрэбным атрымаць згоду трох чацвёртых прысутных на сходзе. Непрывычныя новыя тэрміны абмяркоўваліся на пасяджэннях камісіі асабліва старанна: у сярэднім на кожным агульным сходзе, які працягваўся ад трох да чатырох гадзін, прымалася не больш за 30–50 тэрмінаў. Асобныя тэрміналагічныя праекты, напрыклад юрыдычны, зазнавалі больш

шырокае абмеркаванне. Гэты праект спачатку быў разгледжаны на пасяджэнні Правапісна-тэрміналагічнай камісіі, потым на пасяджэнні спецыяльнай камісіі пры праўнай (юрыдычнай) секцыі Інбелкульта. Потым у колькасці 300 экзэмпляраў праект быў разасланы ў дзяржаўныя ўстановы з мэтай атрымаць аб ім водзывы. Згодна з інфармацыяй аднаго з укладальнікаў праекта, М. Гуткоўскага, у выніку стварэнне руска-беларускага юрыдычнага («праўнага») слоўніка (быў апублікаваны ў 1926 г.) заняло пяць гадоў работы. Усё гэта сведчыць аб вялікай адказнасці кіраўнікоў тэрміналагічнай камісіі і стараннай працэдуры абмеркавання і зацвярджэння тэрмінаў.

Для спецыфікі фарміравання беларускай тэрміналогіі пачатку 1920-х гг. важны той факт, што ў гэты час прыярытэт у выданні беларускамоўнай вучэбнай літаратуры трымалі віленскія, а не мінскія выдавецтвы. Яшчэ ў 1921 г. С. Некрашэвіч наракаў, што ў Вільні выдадзена больш літаратуры, чым у Мінску. Некаторыя важныя выданні ў Мінску выходзілі на год-два-тры пазней, чым аналагічныя ў Вільні. Напрыклад, першы беларускамоўны падручнік па элементарнай алгебры А. Кісялёва ў Вільні надрукаваны ў 1921 г., у той час як падобны савецкі падручнік А. Круталевіча апублікаваны ў 1922 г. Падручнік па фізіцы А. Нэканды-Трэпкі ў Вільні ўпершыню быў надрукаваны ў 1922 г., тады як савецкі беларускамоўны падручнік па фізіцы Н. Кашына апублікаваны ў 1924 г. Да сярэдзіны 1920-х гг. у школах савецкай Беларусі, якія да той пары былі пераважна рускамоўнымі, яшчэ шырока выкарыстоўваліся рускамоўныя падручнікі.

У Вільні раней, чым у Мінску, выйшлі беларускамоўныя падручнікі па граматыцы, геаграфіі, батаніцы, фізіялогіі і анатоміі, касмаграфіі (астраноміі) і інш. Складанасці выдання ў Мінску ў першай палове 1920-х гг. беларускамоўнай вучэбнай літаратуры тлумачыліся адсутнасцю належнай паліграфічнай базы. Тое, што вучэбная літаратура ў першай палове 1920-х гг. выходзіла найперш у Вільні і толькі пазней у Мінску, абумоўлівала пэўны ўплыў створаных у Вільні тэрмінаў на тэрміналогію савецкай Беларусі. Паводле сведчання аднаго з сучаснікаў, у Мінску пэўны час былі ва ўжытку дапаможнікі, надрукаваныя ў Вільні; гэта, несумненна, таксама спрыяла засваенню ў савецкай Беларусі тэрміналогіі, створанай у Заходняй Беларусі. Аднак, на думку гэтага ж аўтара, многія заходнебеларускія тэрміны былі няўдалымі, да іх даводзілася «навыкаць <...> не маючы можнасці іх паправіць».

Пры тым, што створаныя ў Заходняй Беларусі тэрміны пераважна беспраблемна прышчапляліся ў савецкай Беларусі, існавалі і некаторыя разыходжанні ў падыходах. У асобных выпадках укладальнікі ўсходнебеларускіх тэрміналогій не прымалі інтэрнацыянальных тэрмінаў, якія былі ва ўжытку ў Заходняй Беларусі, і замест іх прапаноўвалі наватворы, паланізмы або вандроўныя запазычанні-калькі. (Вандроўнымі запазычаннямі-

калькамі называюцца словы тыпу *абежнік* 'цыркуляр', *кніжніца* 'бібліятэка', *лятучка* 'лістоўка', *правапіс, роўнік* 'экватар', *слухальня* 'аўдыторыя', *уплыў* і да т. п., якія створаны ў адной мове, а пазней шляхам запазычвання або калькавання пераходзілі ў іншыя). Напрыклад, нягледзячы на тое што ў першым і другім віленскіх выданнях «Геаграфіі Беларусі» А. Смоліча 1919 і 1922 гг. былі ва ўжытку інтэрнацыянальныя тэрміны *гарызонт, полюс, экватар*, укладальнік слоўніка геаграфічных і касмаграфічных тэрмінаў 1923 г. М. Азбукін уключыў у яго тэрміны *кругавід* (поруч з *пазем*), *канцавоссе* (поруч з *полюс*) і *роўнік*. У сярэдзіне 1920-х гг. тэрміны *кругавід, пазем, канцавоссе, роўнік* фіксаваліся ў агульных слоўніках і выкарыстоўваліся ў вучэбнай літаратуры. Некаторыя з іх (напрыклад, *пазем*) з падручнікаў або слоўнікаў траплялі ў мастацкую літаратуру (слова *пазем*, напрыклад, сустракаецца не менш як восем разоў у мове твораў Якуба Коласа).

Фіксацыя пэўных тэрмінаў у слоўніках спрыяла іх выкарыстанню ў вучэбнай літаратуры, якое было тым больш лёгкім у тых выпадках, калі ўкладальнікі тэрміналогій і аўтары (або перакладчыкі) падручнікаў былі аднымі і тымі ж асобамі. Так, паспяховаму прышчапленню многіх геаграфічных тэрмінаў спрыяла тая акалічнасць, што аўтарам некаторых геаграфічных падручнікаў быў укладальнік геаграфічнай тэрміналогіі М. Азбукін. Шмат папрацаваў на ніве падрыхтоўкі вучэбных дапаможнікаў і А. Круталевіч. Ён не толькі апублікаваў некалькі ўласных падручнікаў («Элементарная алгебра», «Трыганаметрыя», «Методыка матэматыкі» і інш.), але і пераклаў падручнікі «Фізіка» Н. Кашына, «Курс доследнай геаметрыі» А. Астраба, «Асновы радыётэхнікі» Ф. Фукса.

Ужыванне тэрмінаў у вучэбнай літаратуры спрыяла іх засваенню, тым не менш іх пашырэнне было неаднолькавым. У той час як, напрыклад, лексемы *канцавоссе* і *кругавід* даволі актыўна ўжываліся ў рознага тыпу літаратуры, тэрміны *роўнік* і *пазем* не вельмі добра прышчапляліся ў вучэбнай літаратуры, саступаючы інтэрнацыяналізмам. Часам змену ў арыентацыі на той або іншы тэрмін можна назіраць на прыкладзе розных выданняў адной і той жа кнігі. У кнізе С. Касмовіча «Геаграфія пазаеўрапейскіх краін» 1929 г. ужываецца выраз *паземна* (*пласты земных пародаў ляжаць паземна*), аднак у выданні гэтай жа кнігі ў 1931 г. слова *паземна* заменена на *гарызонтна* (*пласты земных пародаў ляжаць гарызонтна*).

Нягледзячы на разгляданую вышэй спецыфіку стварэння ў першай палове 1920-х гг. беларускіх тэрмінаў, звязаную з падрыхтоўкай тэрміналогіі ў розных цэнтрах, не выпадае гаварыць аб асобных «заходнебеларускай» і «ўсходнебеларускай» тэрміналогіях. У сваёй сутнасці беларуская навуковая тэрміналогія 1920-х гг. была адзінай.

Практыка актыўнага ўключэння ў склад тэрміналогіі народнай лексікі і стварэння тэрмінаў пры дапамозе ўласных марфемных сродкаў, актывізацыі

ўсіх спосабаў утварэння новых слоў на аснове ўласнага матэрыялу ў яе процістаянні шырокаму запазычанню ўяўлялася тэрмінатворцам савецкай Беларусі першай паловы 1920-х гг. матываванай па шэрагу прычын:

1. Новыя задачы, якія былі пастаўлены перад беларускай мовай у пачатку 1920-х гг. у сувязі з патрэбай рэзкага пашырэння сфер ужытку (пранікнення ў сферы навучання, навукі і адміністрацыі), міжволі падштурхоўвалі яе да максімальна поўнага выкарыстання ўласных рэсурсаў. Абмежаваная ва ўжыванні ў гэтых сферах у папярэднія дзесяцігоддзі, беларуская мова ў гэты час павінна была здаць своеасаблівы «экзамен» на тое, каб лічыцца самастойнай і развітай мовай.

2. Традыцыя апоры на народныя сродкі і актыўнай словатворчасці ў працэсе стварэння тэрмінаў была засведчана ўжо падчас перыяду падрыхтоўкі вучэбнай літаратуры ў 1916–1920 гг.

3. Практыка апоры на народную мову і выкарыстанне ўласных словаўтваральных рэсурсаў знаходзілася ў гармоніі з уласцівай пачатку 1920-х гг. тэндэнцыяй дэмакратызацыі сістэмы адукацыі і навукі. На змену ранейшай практыцы, калі дасягненні адукацыі і навукі былі даступныя вузкім слаям грамадства, у першай палове 1920-х гг. адукацыя ўсё больш станавілася здабыткам шырокіх колаў насельніцтва. У гэтай сітуацыі заснаваная ў значнай ступені на народнай мове тэрміналогія палягчала працэс навучання. З нагоды моўнага будаўніцтва ў ісландскай мове, якому быў уласцівы моцны пурызм (ад лац. *pure* ‘чысты’ – імкненне фарміраваць мову толькі на ўласных, «чыстых» крыніцах сваёй мовы), у якасці станоўчага моманту даследчыкамі называецца «празрыстасць» і матываванасць сваіх лексем, што стварае адзінства навукова-тэхнічнага слоўніка і слоўніка народнай мовы. Паколькі шырокае выкарыстанне інтэрнацыяналізмаў магло ствараць унутрымоўны бар’ер паміж спецыяльнай тэрміналогіяй і размоўнай лексікай, паміж мовай больш і менш адукаваных слаёў грамадства, пастолькі кадыфікатары 1920-х гг. імкнуліся такога размежавання пазбегнуць.

4. Звычай займацца «чысцінёй» уласнай мовы, які прадугледжваў зварот да ўласных моўных сродкаў і непрыхільнае стаўленне да запазычанняў, заўсёды спадарожнічаў усім выпадкам стварэння акадэмій у іншых краінах (Італіі, Францыі, Расіі, Венгрыі і інш.). Народны камісар асветы А. Баліцкі ў кастрычніку 1924 г. нават сцвярджаў, што галоўным відам дзейнасці Інбелкульта была апрацоўка беларускай літаратурнай мовы.

Усё гэта ў сукупнасці давала вынікам стварэнне тэрміналогіі такім чынам, што яна, наколькі магчыма, максімальна абапіралася на сродкі народнай мовы. У тэрміналагічных слоўніках 1920-х гг. сустракаюцца тэрміны ці іх варыянты тыпу *віханне* ‘ваганне’ *земнай восі*, *вобліў* ‘галалёд’, *воблак* ‘воблака’, *выпятрэнне* ‘выветрыванне’, *гуля вулканічная* ‘бомба вулканічная’, *сцяг горны* ‘хрыбет горны’ (слоўнік геаграфічнай тэрміналогіі 1923 г.), *блішчак* ‘бляск’,

*жужла* ‘шлак’, *крохкаванне* ‘разрыхленне’, *пеніца* ‘пена’, *шмаргель* ‘наждак’ (слоўнік геалагічнай тэрміналогіі 1924 г.), *аблівака* ‘галалёд’, *грыцук* ‘кулік’, *карагана* ‘жоўтая акацыя’, *каркі* ‘валакуша’ (транспартны сродак), *паземка* ‘суніца’ (слоўнік лясных тэрмінаў 1926 г.), *алёс* ‘балота, пакрытае альхой’, *арэц* ‘араты’, *асвер* ‘калодзежны журавель’, *быдла* ‘буйная рагатая скаціна’, *граніца* ‘кусціцца’, *кіндзюк* ‘страўнік’, *ляшэнне* (ад *ляшыць*) ‘разбіўка на градкі’; *сукрыстая* ‘якая ўецца’ (воўна), *цалюк* ‘агрэх’ (слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі 1928 г.) і інш. Абгрунтоўваючы ў рамках кароткай тэрміналагічнай падборкі магчымасць выкарыстання слоў *валвá* ‘хваля’ і *знадбень* ‘прадмет’, у Заходняй Беларусі В. Ластоўскі прыводзіў цытаты з вуснай народнай творчасці, якія мелі падмацоўваць яго аргументацыю. Як мінімум у савецкай Беларусі падобная практыка стварэння тэрмінаў сведчыла не аб недальнабачнасці тэрмінографаў, і несправядлівай з’яўляецца сучасная крытыка на іх адрас у сувязі з тым, што яны нібыта не маглі адрозніць агульнанароднае і дыялектнае. Такое процістаўленне ў 1920-я гг. часта яшчэ не існавала. Практыка шырокага прыцягнення народнай лексікі ў тэрміналогію абумоўлівалася імкненнем зблізіць агульнанародную і навуковую мовы, а таксама жаданнем як мага глыбей вывучыць беларускую мову, раскрыць яе рэсурсы і прадэманстраваць розныя яе магчымасці.

У некаторых тэрмінасістэмах такая апора, аднак, была моцна абмежавана. Інтэрнацыянальным запазычванням у слоўніках серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» часта не прапаноўвалася ніякіх альтэрнатыў (*літаратура, ода, санет; задыяк, зеніт, клімат, масіў, метэарыт; валюнтарызм, гіпноз, дуалізм, логіка, матэрыя, метад, псіхааналіз; аквамарын, алябастр, вулкан, гейзер, кальцый, лава, міяцэн, парфір, рэльеф* і інш.). У шэрагу выпадкаў спачатку абмежаваныя інтэрнацыяналізмы прабівалі сабе дарогу. Калі ў слоўніку тэрміналогіі грамадазнаўства 1926 г. у якасці адпаведнікаў для рус. *космополит* дадзены словы *касмапаліт* і *сусветнік*, для рус. *экспедиция – выправа* і *экспедыцыя*, то ў пазнейшым вайсковым слоўніку 1927 г. у якасці эквівалентаў гэтым лексемам прыведзены толькі інтэрнацыянальныя словы *касмапаліт* і *экспедыцыя*. У рэвізаванай матэматычнай тэрміналогіі 1927 г. былі адхілены словы *раўналежнабочнік, прастастаўнасць, кантаслуп*, замест іх ужываліся інтэрнацыяналізмы *паралелаграм, перпендыкуляр, прызма*. У некаторых выпадках у слоўніках падаваліся і запазычаныя тэрміны, і тэрміны, створаныя на аснове ўласных сродкаў. Ужо ў першым слоўніку серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» «як кампраміс пры асабліва спрэчных тэрмінах» фігуравалі пары *аксіёма* і *пэўнік, дыскрымінант* і *адрознік, сіметрыя* і *суразмернасць*. У слоўніку логікі і псіхалогіі, падрыхтаваным М. Байковым, увогуле звычайнай практыкай было падаваць два адпаведнікі да аднаго рускага тэрміна, пры гэтым на першым месцы звычайна падаваўся інтэрнацыянальны іншамоўны тэрмін: *абстракцыя* і *адцягненне, абулія* і *бязволле, аксіёма* і *пэўнік, аналіз* і

*расклад, анастэзія* і *нячуласць, апатыя* і *апяшаласць*. У юрыдычным слоўніку 1926 г. была здзейснена спроба падбіраць для тэрмінаў міжнароднага характару эквіваленты, створаныя на аснове беларускіх марфем (*реставрация – адбудаванне, суррогат – падмен*), аднак у пераважнай большасці выпадкаў побач з беларускім словам прыводзілася іншамоўнае: *разлад* і *дэзарганізацыя*; *драбніца* і *дэталь*; *адлічаць* і *дыскантаваць*; *стычнасць* і *калізія*; *цыркуляр* і *абежнік*; *экземпляр* і *паасобнік*.

Пры тым, што амаль ніхто з удзельнікаў нармалізацыі беларускай мовы ў 1920-я гг. не адмаўляў агульнага напрамку яе развіцця, у працэсе асэнсавання канкрэтных момантаў кадыфікацыі ўзнікалі сітуацыі, калі нейкія выпадкі арыентацыі на народныя сродкі аспрэчваліся. Так, напрыклад, рэцэнзуючы «Беларуска-расійскі слоўнік» 1926 г., Я. Лёсік пярэчыў супраць ужывання перанятага з геалагічнай тэрміналогіі слова *гуля* ў значэнні ‘бомба’, а адзін з крытыкаў «Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г. крытыкаваў слова *дыхавіца* як адзін з адпаведнікаў рус. *астма*.

Найбольш сур’ёзныя заўвагі на адрас прынятых падыходаў можна назіраць у выпадку крытыкі ў 1926 г. Антонам Лёсікам прынятай матэматычнай тэрміналогіі.

Рэагуючы на апублікаваны ў 1922 г. выпуск матэматычнай тэрміналогіі, А. Лёсік не толькі выказаў заўвагі на адрас канкрэтных слоў (*прамер* ‘дыяметр’, *адрознік* ‘дыскрымінант’, *канцавоссе* ‘полюс’, *асяродак* ‘цэнтр’, *вогнішча* ‘фокус’, *простастаўная лінія* ‘перпендыкуляр’, *сукоснік* ‘ромб’, *пэўнік* ‘аксіёма’, *мімасяроднік* ‘эксцэнтрысітэт’, *складнік* ‘элемент’, *вымога* ‘пастулат’, *кантаслуп* ‘прызма’, *сценка* ‘грань’, *прылеглы адцінак, кругадрэз* ‘сегмент’ і інш.), але і паставіў пад сумненне агульныя прынцыпы ўкладання матэматычнай тэрміналогіі. На яго думку, гэта моўная сфера не павінна была фарміравацца на базе слоў жывой народнай мовы і спецыяльна створаных тэрмінаў; тэрміны тыпу *асяродак, вогнішча*, *прамер*, *сукоснік* і шэраг іншых былі не ў стане, катэгарычна меркаваў А. Лёсік, выразіць адпаведныя матэматычныя паняцці. На той падставе, што форма *прылеглы* здавалася А. Лёсіку празмерна народнай, ён адхіляў яе ў складзе тэрміналогіі і прапаноўваў замест яе *прыляжачы*.

Гэта былі памылковыя погляды. Тэрміны не абавязкова ўзнікаюць як «навукова-дакладныя» гукава-марфалагічныя ўвасабленні ўнутранай формы адпаведных навуковых паняццяў. У замацаванні навуковых значэнняў за тымі або іншымі словамі пэўнае значэнне могуць мець элементы ўмоўнасці і выпадковасці. Некаторыя аналагічныя крытыкаваныя А. Лёсікам тэрміны існавалі або існуюць у іншых мовах – напрыклад, фр. *losange* ‘ромб’ (уласна ‘косавугольнік’), ням. *Kegelabschnitt* ‘сегмент’ (літаральна: ‘шаравы адрэзак’), ням. *Mittelpunkt* ‘цэнтр’ (А. Лёсік сам прыводзіў гэтыя адпаведнікі), пол.

*ośrodek* ‘цэнтр’, чэш. *ohnisko* ‘фокус’, ням. *Brennpunkt* ‘фокус’ (літаральна: ‘пункт гарэння’), слвц. *priemer* ‘дыяметр’, харв. *premjer* ‘дыяметр’ і інш. Аднак А. Лёсік крытычна ставіўся не толькі да беларускіх тэрмінаў (асобныя з іх былі створаны непасрэдна на ўзор некаторых замежных, напрыклад *кругадрэз* – ням. *Kegelabschnitt*), але і да названых ім ужывальных замежных, мяркуючы, што яны неналежным чынам выражаюць абазначаныя гэтымі словамі паняцці. Гэта катэгарычнасць у дачыненні да «няправільных» тэрмінаў у іншых мовах і да магчымасцей беларускай мовы ствараць тэрміны на ўласнай аснове збліжала пазіцыю А. Лёсіка з поглядамі тых людзей, якія ўвогуле лічылі, што навуковыя тэрміны ў прынцыпе немагчыма выразіць на беларускай мове.

Паводле крытыка, у аснову матэматычнай тэрміналогіі нельга было класці словы, якія існуюць у жывой народнай мове, затое «трэ было палажыць <...> тэрміны, што ўстанавіліся ў навуцы». А. Лёсік прапанаваў увесці ў беларускую мову ўсе чужаземныя тэрміны грэчаскага, лацінскага і французскага паходжання, што ўжываліся ў рускай мове. Патрэба фарміравання і сцвярджэння беларускай мовы як аўтаномнай мовы навукі ў яго артыкуле цалкам ігнаравалася. Будучы пераважна «тэарэтычнай» і «гістарычнай», крытыка А. Лёсіка да таго ж часткова мела схаластычны, адарваны ад жыцця характар. Крытык не ўлічваў тую акалічнасць, што к моманту публікацыі яго артыкула матэматычная тэрміналогія ўжо мела пэўную гісторыю (першыя падручнікі па матэматыцы выйшлі ў свет у 1916 г.) і значная частка крытыкаваных ім тэрмінаў ужо была засвоена. У 1922 г. А. Смоліч аглядаў падрыхтаваныя Навукова-тэрміналагічнай камісіяй падборкі тэрмінаў і як найбольш удалыя вылучыў якраз граматычную і арыфметычную тэрміналогіі – тыя, якія маглі абаперціся на папярэднюю практыку. А. Лёсік недастаткова браў пад увагу і тую акалічнасць, што некаторыя прапановы аўтараў матэматычнай тэрміналогіі ўзору 1922 г. не былі катэгарычнымі: яны змяшчаліся поруч з альтэрнатыўнымі замежнымі тэрмінамі.

У якасці станоўчага прыкладу ўкладання матэматычнай тэрміналогіі А. Лёсік прыводзіў рускую матэматычную тэрміналогію 1830-х гг., калі яна прыняла многа запазычаных слоў. Пры гэтым ён аддаваў мала ўвагі той акалічнасці, што да 1830-х гг. у рускай матэматычнай тэрміналогіі на працягу доўгага часу культываваліся тэрміны, аналагічныя створаным у 1920-я гг. беларускім (*зажигательная точка* ‘фокус’ і інш.).

У 1926 г. Галоўная тэрміналагічная камісія Інбелкульта палічыла патрэбным перагледзець матэматычную тэрміналогію ўзору 1922 г., дзеля чаго стварыла адпаведную камісію, якая падрыхтавала рэвізаваную матэматычную тэрміналогію і выдала яе ў 1927 г. Гэта адзіны выпадак у дзейнасці Інбелкульта, калі нейкая ранейшая тэрміналогія на працягу кароткага часу падлегла рэвізіі.

